# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

**5**

**ВЕРШЫ. ПЕРАКЛАДЫ**
**1930—1942**

Рэдактар тома
**МУШЫНСКІ М. І.**

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
**ЗАБРОДСКАЙ С. В.**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1998



# 1930

## БЕЛАРУСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ ВЫДАВЕЦТВУ

*1924—1929 гг.*

Сталі ў рад складальнікі —
Ад таго той бліжай,
Літару за літарай,
Як пацеркі, ніжуць.

«Корпусы» ды «цыцэры»
І побач «петыты»
Дыванамі сцелюцца
Згодна ў гранкі-пліты.

. . . . . . . . . . . . . .

Запела «ратацыя»,
А не без карысці —
За аркушам аркушы
Сыплюцца, як лісце.

Пераплётня аркушы
Шые, рэжа ўволю,
Спяшыць літаграфія
З вокладкай у колер.

. . . . . . . . . . . . . .

Кніга у кнігарні ўжо
Сядзіць на паліцы,
Людзі працавітыя
Сходзяцца дзівіцца.

А ля выдавецкае
Скупаватай касы
Аўтар з мінай скромнаю
Чакае авансу.

. . . . . . . . . . .

Паплыло паводкаю,
Загуло, як вецер,
Слова беларускае
Па вялікім свеце.

Дарма не мінаюцца
Працы шчырай леты...
Грамада савецкая
Ушануе гэта.

*1930*

## ПРАЦАЙ ДРУЖНАЙ, КАЛЕКТЫЎНАЙ

*Першай усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасці*

Працай дружнай, калектыўнай,
Пераможна, безупынна
Свет будуе, свет нячутны
Пралетарый ўсемагутны.

Вызваў з попелаў, з руінаў
На шлях творчы ўсю краіну,
І сон скінуўшы пракляты,
БССР святкуе свята.

Глянь — на выстаўцы і вокал,
Дзе ні кіне вокам сокал,
Рунь рунее новаўсходаў
Поля фабрык і заводаў.

Ураджай дзесяцігоддзя
За сто іншых год пяройдзе...

Той не бача, хто не хоча
Ці навек хто згубіў вочы.

Так ад працы ад ударнай
Забурлілася ўладарна
Жыватворнаю крыніцай
Пралетарская сталіца.

*1930*

## НОВАЯ ВОСЕНЬ

Па-новаму восень палеткі
Абходзіць, глядзіць гаспадаркі...
Пайшлі аддыхаць пад паветкі,
Згуляўшы дажынкі, жніяркі.

Закаўкалі каўкі на ўзвышшы,
Затрэсліся лісці ў гушчарні...
Цапы на сяле заглушыўшы,
Бушуе камбайн-малатарня.

Даўжэй цень кладзецца ад хатаў,
Цяжаюцца пульхна папары...
Адборныя жыта зярняты
Саджае сяўнік у гектары.

Віхор па кустах, па галінах
З усходу пагульвае свежы...
Дабром папаўняе спажыўным
Сячкарня сілосныя вежы.

У вырай сабраліся гусі,
І жораў азваўся пад небам...
Плывуць па шляхах Беларусі
Абозы чырвоныя з хлебам.

Асенняе сонца спакойна
Ў прасторах нямых пахаджае...
Гуляе пад сцягам чырвоным
Калгаснае свята ўраджаю.

*1930*



# 1931

## А Ў ВІСЛЕ ПЛАВАЕ ТАПЕЛЕЦ...

Балюе панская Варшава,
Бы дзень скананння хмелем хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісле плавае тапелец.

Шасцяць мундзіры, аксаміты,
Агнямі зыркаюць палацы,
Крывёй работніцкай заліты
Завулкі, вуліцы і плацы.



Балюе панская Варшава,
Ксяндзы частуюць сакрамэнтам;
Парадак дня сягоння — справа
Пра аб'яднанне інтэрвентаў.

Паны з маркізамі Парыжу,
З баярствам Бухарэста ў хеўры,
Як СССР распяць на крыжу,
Плануюць планы і манеўры.



Балюе панская Варшава,
А для гуманнасці, прагрэса
Ідзе аблава за аблавай
На ўсходніх «вольных» польскіх Крэсах.

Абрабаваных да кашулі
Там беларуса і ўкраінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасцінцы.



Балюе панская Варшава...
Жандарскі конь б'е капытамі,
Пад капытамі жудкай явай —
Людскія галавы пластамі.

Людскім жыццём набіты турмы,
Бунтуе ў турмах роспач мсціва...
А ў Бельведэры выюць гурмам:
«Нех жые польска дэфензіва!»

Балюе панская Варшава,
Бы дзень скананння хмелем хмеліць...
А Вісла пеніцца крывава,
А ў Вісле плавае тапелец.

*1931*

## ДЗЕ КРЫЎДА АДВЕЧНАЯ СПЕЛА

Дзе крыўда адвечная спела,
Дзе сыпала гора курганы,
Рукой пралетарскаю смелай
Гнілы стары лад зруйнаваны.

Старыя паломаны праслы,
Электрыка рвецца ў аконцы,
Мужычая ночка пагасла,
Заззяла калгаснае сонца.

Сялянска-калгаснае поле
Не стогне ў няволі сягоння,
Не блукае ў полі нядоля,
Пасуцца жалезныя коні.

Калгаснік уссеўся на трактар,
Стаптаўшы мінулага імя,
Зямлі наравісты характар
Нарогамі стружа стальнымі.

За скібаю скібу, як стружкі,
Машына умелая сцеле...
Над нівай вясёлыя птушкі
Па-іншаму песні запелі.

Чырыкаюць дружна, з заўзяццем
Па самы кастрычнік ад мая:
«Паўстаў катаваны пракляццем,
Што трэба рабіць яму, знае».

*1931*

## МАЛАДЫМ ПАЭТАМ

Кастрычнік светам здрыгануў,
Стары свет корчыцца ў кананні,
Паўстаў, хто ў путах не заснуў,
І станавіцца да змагання.

З усходу вецер-буралом
Змятае гразь на сваім шляху,
Каб вырас новы, ясны дом
З адвагі, славы і размаху.

Сцягі нязгаслага святла,
Як мак, калышуцца, чырвоны...
Так рэвалюцыя дала
Закон свой свету векапомны.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад вас, Кастрычніка сыны,
Ад вашых сэрцаў пралетарскіх,
Як ніва сонечнай вясны,
Чакаюць песень — а бунтарскіх —

Заводаў гулкія гудкі,
Калгасны працавіты трактар,
Чырвонай Арміі штыкі
І паграніччаў нашых варта.

*1931*

## ПЕСНЯ БУДАЎНІЦТВУ

Прыйдзе новы — а мудры — гісторык,
А ён прыйдзе — ужо ён ідзе —
І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак
І да зорак аб нашых прасторах,
Аб падзеях, людзях павядзе.

Ён раскажа, як з творчым імкненнем
Для народаў закон выдавала
Бальшавіцкая праўда, сумленне,
Каб жыццё ўжо было без цярпенняў
І мінула пракляццяў навала.

Як знішчаліся цвёрдай рукою
Пралетару варожыя класы,
Як на фронтах ішоў бой за боем,
Як зброд ворагаў здаўся, не ўстояў
Ў тыя грозныя бурныя часы.

Як ішла рэканструкцыя смела
Па заводах, па полі, па думках,
Перашкоды знішчаючы ўмела,
Хоць варожы табун адзічэлы
Ёй імшу пахавальную крумкаў.

Як мінулым спаганена праца
Ад батрацкай прыгоннай сярмягі,
Сабе ўзносячы ў сонцах палацы,
Стала горда навек называцца
Справай гонару, славы, адвагі.

Маладому свайму пакаленню
Ён апіша з палётам арліным,

Як блiскотна з бетону, з камення,
З цэглы, з сталi, з жалеза ў праменнях
Тут за гмахам рос гмах на руiнах.

Як узняўшыся слаўна ў вышынi,
Сацспаборнiцтва, ўдарнiцтва ўдала
Здабывала багацце краiне,
Гарады будавала ў пустынях
I пустынную ноч асвятляла.

Як за трактарам трактар выходзiў
На сялянскiя стужкi-палоскi,
Каб у дружным, як войска, паходзе
Нiшчыць межы, машыны заводзiць,
Будзiць спячыя сёлы i вёскi.

Як яна, бальшавiцкая партыя,
Каб датла зруйнаваць стары свет,
Барацьбою зацятай, упартай,
Сваю ставячы голаў на карту,
Дасягла недасяглых пабед.

Прыйдзе новы — а мудры — гiсторык,
А ён прыйдзе — ужо ён iдзе —
I сказ дзiўны, праўдзiвы ад зорак
I да зорак аб нашых прасторах,
Аб падзеях, людзях павядзе.

*1931*

## УДАРНIКУ

Рабочым i калгасным
Працоўным калектывам
Ад партыi i ўрада
Такая дырэктыва:

Па цэлым па Саюзе
Бяжыць хай пераклiчка:
Ўраўнiлаўку руйнуйце,
Касуйце абязлiчку!

Вядзіце працу здзельна
На фабрыцы, на полі,
Лятун каб і прагульнік
Там не гулялі болей.

Каб нашы прамфінпланы,
Кампаніі, наказы
Спаўняліся дакладна,
Як вока мірг, адразу.

Каб і апартуністы —
Ці левы ён, ці правы —
Не мог прыносіць шкоды
Для ленінскае справы!..

Ударнік чуе гэта:
Ён, як на барыкаду,
Вядзе на штурм прарываў
Ударную брыгаду.

Пайшлі — йдуць брыгадзіры,
Працуюць несупынна;
Іх спатыкае ўдзячна
Савецкая краіна...

*1931*

## ЗАЎСЁДЫ НАПЕРАД

Ты слухай-паслухай,
Таварыш і брат:
Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

Глядзі — во імчыцца —
Жыццю напралом —
Па полі, па пушчы
Віхор-буралом.

Як віхры, машыны
Бягуць па зямлі;

Па моры па сінім
Плывуць караблі.

У моры, ў азёры,
Палошчучы муць,
Крыніцы і рэкі
Цякуць і цякуць.

Арлы-самалёты
Свідруюць прастор,
Не знаючы ў лёце
Ні меж, ні разор.

Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

. . . . . . . . . . .

Во гэтак, няйначай,
Таварыш і брат!

*1931*



# 1932

## НАСТАНЕ ТАКАЯ ЧАСІНА

Я веру — настане
такая часіна,
І руняй савецкай
уквецяцца гоні,

Дзе Віслы, дзе Сены,
дзе Тэмзы даліны,
Дзе праца людская
сягоння ў прыгоне.

Развеюцца ў попел
кароны і троны,
Стэрлінгі і франкі,
дукаты, далары;

Мікадаў, прэлатаў
банкіраў, баронаў
Захлынуць паўстанняў
народных пажары.

Рабочых грамады
ў свае возьмуць рукі
Заводы і фабрыкі,
шахты і домны,

Збудуюць палацы
сабе і для ўнукаў,
Дзе радасць і сонца
загосцяць векпомна.

Калгасны стальны плуг
засыпле навекі
Ў барозны-магілы
паноў-феадалаў,

Каб сейбіт старанны
не гнуўся пад здзекам,
Каб сочная ніва
буйней красавала.

Хрыстоў, магаметаў,
еговаў і будаў,
Бажніцы, капліцы
ўсіх вераў і нацый,

Як смецце на свеце,
як тухлыя груды,
Змяце дыктатура
раскованай працы.

А белыя, жоўтыя,
чорныя расы
Да мовы супольнай
прачысцяць дарогу...

Сунімуцца бітвы,
загубяцца класы,
Граніцы, заставы
парве перамога.

Н'ю-Йоркі, Парыжы,
і Вільні, Берліны,
Шанхаі, Варшавы,
Жэневы, Такіі

Аздобяцца ў сцягі
чырвонасці дзіўнай,
Што ў нас зіхацяцца —
у сцягі такія.

Пад ленінскім сцягам
пралетарыята
Паўстане рваць путы —
хто долі не ведаў,—

Хто сохне без хлеба,
хто гіне без хаты,
Хто корміць сваім
мазалём дармаедаў.

Ад мораў паўночных
да мораў паўдзённых
Уздымецца песня
свабодна і думна:

Хай праца пануе
на вольных загонах,
Хай зоры іскрацца
сусветнай камуны.

Я веру — настане
такая часіна,
І руняй савецкай
уквецяцца гоні,

Дзе Віслы, дзе Сены,
дзе Тэмзы даліны,
Дзе праца людская
сягоння ў прыгоне.

*1932*

## АДЗІНАЦЦАЦЬ МЕСЯЦАЎ...

*(Да гадавіны вызвалення БССР
ад белапалякаў)*

Адзінаццаць месяцаў
Кроў цурком цякла;
Рабавала панства
Беларусь датла.

Генерал Шаптыцкі —
Аўстрыяцкай школы —
Мечам і пажарам
Баль спраўляў вясёлы.



Адзінаццаць месяцаў
Вісельні скрыпелі;
«Niech żyje Polska!» —
Паны-каты пелі.

Гарады, мястэчкі
Танулі ў пагромах —
Не было збаўлення
Маломy, старому.



Адзінаццаць месяцаў
БССР стагнала
Пад ботам пілсудчыны,
Але не сканала.

Засявае поле,
Будуе святліцы;
Люд працоўны, вольны
Шчыра весяліцца.



Генерал Шаптыцкі —
Праклінанай славы,—
Ўжо не справіш болей
Свой банкет крывавы,

На край беларускі
Не ўскладзеш кайданаў:
Штых стальны савецкі
Моцна гартаваны.

*1932*

## ПАД ЧЫРВОНАЙ ЗОРКАЮ

Пад чырвонай зоркаю
Армія Чырвоная
Прайшла долы, горы
І лясы зялёныя,

Калі крывапіўцы —
Генералы царскія —
Аднавіць хацелі
Парадкі жандарскія.



Пад чырвонай зоркаю
Ад рукі зладзейскае
Кроў лілася светлая
Чырвонаармейская.

Гуляла, шалела
Подла інтэрвенцыя,
Француз, англічанін
Путы ўскласці меціўся.



Пад чырвонай зоркаю
Ўстаў народ працоўны
І прагнаў за моры
Бандытаў каронных.

Былі бітвы, бойкі
За свабоду працы,
І сцяг перамогі
Ўзняўся красавацца.



Пад чырвонай зоркаю
Армія Чырвоная
Пройдзе долы, горы
І лясы зялёныя,

Калі рабскі захад
Руку ўзняць захоча
На край бальшавіцкі,
На ўладу рабочых.



Інтэрвенцкім бандам
Не гуляці болей
Па савецкім буйным
Нязмераным полі.

Пакрыецца славай
Наша пагранічча,
Калі к абароне
Партыя пакліча.

Пад чырвонай зоркаю
Армія Чырвоная
Пройдзе долы, горы
І лясы зялёныя.

*1932*

## ВЯЛІКАМУ КАСТРЫЧНІКУ

Была Расія царскіх дзён,
А дні былі, як ночы;
Душыў бязлітасны прыгон
Сялянаў і рабочых.

Разбэшчана паны, купцы
Працоўным людам гандлявалі,
Раслі магільныя капцы,
Папы малебны завывалі.

Над краем шыбеніц, астрогаў
Трыумфаваў каронны кат...
Было яно — ўладарства злога
Пятнаццаць год таму назад.

Паўстаў пракляццем катаваны,
Паўстаў, хто з голаду век пух,
Апалі рабскія кайданы,
Апаў нявольніцтва ланцуг.

Паўстаў магутны пралетарый,
Чырвоны ўзняўшы сцяг ўрачыста,
І рушыў ў бітву грознай хмарай
Супроць сатрапаў і царыстаў.

Паўстаў ніштожыць цьму і здзекі.
Ніштожыць царскае ўладанне,
Знішчаць адвечны гнёт навекі
Для свайго светлага йснавання.

І зарунеў на ўсе староны
Саюз Рэспублікаў Савецкіх,
Прамогшы ворагаў пагромных —
І нутраных, і інтэрвенцкіх.

Красуй жа ў радасці няспынна,
Краіна вольная Саветаў,
Ядыная пакуль айчына
Усіх працоўных ўсяго свету.

Пралетар'ят усіх краінаў
Пад сцягам Леніна удумна
Шляхі, я веру, працярэбе
І да сусветнае Камуны.

*1932*

## СУД ІДЗЕ

*Браніславу Тарашкевічу*

«О, смерць вам, панове, ксёнжэнта, магнаці,
За нашен неволен, кайданы!..»
Нядоўга, паны, ужо вам панаваці
Над краем, праз вас катаваным.

Гібелі калісь вашы ў турмах пад царам
Паўстанцы, Славацкі, Міцкевіч —
Сягоння пад Польшчай нявіннай ахвярай
Гібее ў турме Тарашкевіч.

Не вам, царадворцам, чыніці расправу
Над тым, хто змагаўся за долю,
Засудзіць саміх вас народ неўзабаве,
Каб вашай не ведаць няволі.

Вам страшна было за сваё панаванне
Грамады рабоча-сялянскай,
І мсціце, і мсціце усім да сканання,
Хто ласкі не хоча знаць панскай.

Хаўтурныя вашы званы зыгмунтовы
Пакінуць граць вісельням песні,
Ўстае з-пад ярма чалавек ужо новы,
Ідзе грозных бураў прадвесне.

І вашыя катаргі, вісельні, турмы
Самых жа вас песціці будуць;
Ўжо граюць прызыўныя гулкія сурмы
На бітву супроць вас, прыблудаў.

Ідзе, набліжаецца помста народа
І вас, і суды вашы нішчыць,
Ідуць з сутарэнняў, з хат курных, з заводаў,
Каб волю здабыць, узвялічыць.

Так вам, дармаедам, распасвеным сыта
Працоўных крывёю і працай,
Магіла-грабніца навосцеж адкрыта,
І вам ад яе не схавацца.



Гібелі калісь вашы ў турмах пад царам
Паўстанцы, Славацкі, Міцкевіч —
Сягоння пад Польшчай нявіннай ахвярай
Гібее ў турме Тарашкевіч.

Нясіце ж, панове, нявольніцтва далей,
Вітае вас цень Мураўёва...

Калісьці ў Галіцыі вас пілавалі,
Цяпер папілуюць нанова.

Судзіце суды мураўёўскім законам
Над людам, загнаным у краты,
А выдасць прысуд свой суддзя у чырвоным
На вас на саміх, цараняты.

Паходня з Усходу асвеціць дарогі,
Шляхі за слупамі з арламі,
Даможыцца праўда сваёй перамогі
Над белым арлом і над вамі.

Пра вас не забудзе, паны, БССР
І песні пакіне краіне,
Як мучыце нашых братоў вы цяпер,
Як ваша ўладарства загіне.



Зашуміць, загудзіць
  Завіруха,
Толькі думай, толькі ведай,
  Толькі слухай.

Мы будуем, мы пускаем
  Фабрыкі, заводы,
Поле трактар засявае,
  Садзім агароды.

Да нас госці ў госці едуць
  З усёй кулі земскай,
І ўсе бачаць, што жывецца
  Нам зусім някепска.

Мы будуем, з будаўніцтва
  Робім сабе свята...
А там толькі, ў Польшчы толькі
  Ўсё купляюць катаў.

А здаецца ж кат на кату
  Ясне-паны селі
І катуюць ад нядзелі
  Да новай нядзелі.

Над аграбленай краінай
Звісла ночай хмара,
А паны ўсё разважаюць
Аб дыме пажараў.

Пойдуць, пойдуць незадоўга
Вашыя палацы,
Ды з такім пажарам-дымам,
Толькі дзівавацца!

Ні жандары, ні салдаты,
Вашыя не ўстояць,
Як працоўныя грамады
Зрухнуцца да бою.

Банкятуй сабе, Варшава,
Банкятуй крывава,
Хай ліецца акавіта
З крывёю на славу!

Бельведэр дачэсны доўга
Панаваць не будзе —
У папелішча абернуць
Паўстаўшыя людзі.

Зашуміць, загудзіць
Завіруха,
Толькі думай, толькі ведай,
Толькі слухай.



«О, смерць вам, панове, ксёнжэнта, магнаці,
За нашен неволен, кайданы!..»
Нядоўга, паны, ужо вам панаваці
Над краем, праз вас катаваным.

Гібелі калісь вашы ў турмах пад царам
Паўстанцы, Славацкі, Міцкевіч —
Сягоння пад Польшчай нявінная ахвярай
Гібее ў турме Тарашкевіч.

*1932*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Як калісь спявалі
Аб горы, няволі,
Так спяваць не будзем
Болей ўжо ніколі.

Адно, брат, падумаць,
Адно падзівіцца,
Як жыццё пабегла
Жвавою крыніцай.

Бальшавік дасужы
Гаспадарку творыць,
А так дружна, ўдала,
Што не будзе гора.

Во — зірні — сярмяжнік
Паганяе трактар,
Пасекі карчуе,
Межы рэжа ўпарта.

Фабрыкі, заводы,—
Коміны пад неба...
Шмат чаго мы робім,
А йшчэ болей трэба.

За час доўгі-доўгі —
За ўсё паўстагоддзе —
Шмат зрабіў ты, браце,
Ды яшчэ не годзе.

Перад намі, Колас,
Светлы шлях адкрыты,
На нівах красуе
Ядранае жыта.

Час перажываем
Казачна цудоўны...
Давай жа пець песні
З усёй грудзі поўнай!

З думкаю — наперад!
З думкай бунтаўнічай —
Туды — усё далей,
Куды жыццё кліча.

Хай голас ліецца
Радасцю жывою,
Як тут, у Саюзе,
Так і за мяжою.

Жыві, мілы Колас,
Многа летаў, зімаў
З ясным сонцам побач
На зямлі радзімай.

*1932*

## ДЗІЦЯЧАЕ

### Лявоніха

Ой, лявоніха, гулянка, гульня!
Галасістая бяседа твая.
А мы, дзеткі, усе здольненькія
Пяём песенькі вясёленькія.

Як маленькай я ў матульки жыла,
Як вішанька, у садочку цвіла,
Цвіла, цвіла ды пацвітывала
Лемантарык свой пачытывала.

Як прыйшла я у дзіцячы садок,
Пайшла з дзеткамі ў танок, у танок.
Я гуляю тут пагуліваю
За работкай недакучліваю.

Як вішанька, у садочку цвіту
І навукі ўсе лаўлю на ляту,—
Я рысую і пачытываю,
Раблю цацкі і папісываю.

## Юрачка

### 1

Ой ты, Юрачка,
Што не вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся.

А як вырасцеш
Ты няўмекаю,
Усе высмеюць
Недарэкаю.

А ў нашага Юрачкі
З'елі сала шчурачкі,
Як пабег ён у лясок,
Каб схавацца ад кніжок.

А ў нашага Юрачкі
У капоце дзюрачкі,
Нарабіў ён іх сабе,
Як стаў лазіць па вярбе.

### 2

Ой ты, Юрачка,
Што лянуешся,
Хаткі нашае
Не пільнуешся?

Толькі бегаеш,
Забаўляешся,
Гэтак з кпінамі
Напаткаешся.



А ў нашага Юрачкі
Пагублены гузічкі,—
Ён тады іх пагубляў,
Як з садочку уцякаў.

А з нашага Юрачкі
Сталі кпіць і курачкі,
Што не мыўся цэлы дзень
І бубніць, як авадзень.

## 3

Ой ты, Юрачка,
Кінь ляніціся,
Ды надумайся
Ты вучыціся.

Будзем цешыцца,
Што ты вучышся
І да невукаў
Не далучышся.



А нашаму Юрачку
Кот зрабіў пячурачку,—
Юрка месца там заняў
І з катком — курняў! Курняў!

А нашаму Юрачку
Тнуў камар у скурачку,
А Юрачка — ай-ай-ай!
Камарочак, не кусай!

[*1932*]



# 1933

## МАЙ

Ходзіць май па свеце,
Сонцамі ірдзіцца,
Закаваных, спячых
Кліча ўстаць, збудзіцца.

Далятае голас
Вялікага свята
Ў нетры сутарэнняў,
У курныя хаты.



Ходзіць май па свеце,
Сцяг яго чырвоны
Патрасае грозна
Троны і кароны.

І дрыжаць сатрапы,
Цары і царысты
Ад паходаў майскіх,
Заклікаў агністых.



Ходзіць май па свеце,
З думкаю распетай:
Возьмуць ва ўсім свеце —
Возьмуць верх Саветы.

Чырванню шаўковай
Зашумяць штандары,
Хто ў няволі гнуўся —
Ўстане гаспадарыць.



Ходзіць май па свеце,
Мнагалюдны, буйны,
І складае песні
Сусветнай камуны.

Чалавек не будзе
Ўжо над чалавекам
Панаваць крывава,
Як дасюль — спрадвекаў.

Ходзіць май па свеце...

*1933*



# 1934

## ТРЭБА НАМ ПЕСЕНЬ

*Першаму з'езду Саюза савецкіх пісьменнікаў*

Трэба нам песень не гэткіх, што некалі
Здавен няволя спявала нам царская,
Калі мы пад ёрмамі гора век пекалі,
Слухалі свісты нагайкі жандарскае,—

А песень ясных, як сонца, як воля
Ўсёй неабсяжнай Краіны Саветаў,
Песень, што птушкай ляталі б над полем
І шчасце тварылі б ад летаў да летаў.



Трэба нам песень, якія спяваў бы,
Гонячы трактар, калгаснік вясёлы,
Калгасніца, полючы буйныя грады,
Спявалі б калгасныя вёскі і сёлы.

Арміі нашай сусветнае славы
Трэба даць песень пявучых, бадзёрых,
Што усхвалялі б байцоў нашых справы,
Байцоў, што вартуюць Саюза прасторы.



Трэба нам песень сваіх, не варожых,
Што нашыя думкі з дарогі збівалі,
А гэтакіх трэба, што будуць ніштожыць
Навек падняволля прыгонныя хвалі.

Каб нашыя песні няслі шчасця весці
І радасць расцілі, як свет агорне,
Былі пралетарскімі па сваім змесце,
Нацыянальнымі па сваёй форме.



Трэба нам песень, як гром перуновы,
Бурных, як тыя паводкі ў прадвесні,
Што, скінуўшы зімняга лёду аковы,
Бягуць пераможна. Такой трэба песні,

Каб рэхі нясліся па свету абшарах,
І слава грымела прастораў бязмежных,
І распаляла паўстанняў пажары
У нашых скаваных братоў зарубежных.



Трэба нам песень, а з гэткім палётам,
Як стратастатаў у высь стратасферы,
Што так з небывалай адвагай, яснотай
Імкнуцца шляхі падпланетныя мераць.

Аб морах палярных той Арктыкі льдзіннай
Павінны злажыць мы гімн нечуваны,
Дзе сёлета яваю стаўся цуд дзіўны,
Аж свет здрыгануўся праявай няжданай.



Трэба нам песень а шчырых і чулых,
Што праўду дзён нашых ад полюсаў неслі б
І славу вякоў, пакаленняў мінулых
Сваёй перамогай геройскай устрэслі.

Скласць эпапею павінны такую,
Якую чэлюскінцы далі для свету,
І одамі ўславіць наяўнасць жывую —
Бяссмертных герояў Саюза Саветаў.

Трэба нам песень, каб сэрцы і думы
Магнітагорскай палалі б веліччу

І днепрабудаўскім лашчылі шумам,
Каналам Белморскім плылі ў бесканечча,

Каб тоны у песнях, геройствам адбітыя,
Нашай эпохі зрабіліся вартыя,
Тоны, што песням дае кампазітар —
Сталін магутны і наша партыя.

*1934*

## ТО НЕ ШУМ БАРАВЫ...

То не шум баравы
Шуміць весткай добрай,
То не кліч баявы
Арміі харобрай,—
Гэта гоман ідзе
Па свеце вялікім,
Нечуваны нідзе
Ад полюсаў дзікіх.



То не шум баравы
Патрасае светам,
То не гром векавы
Грымнуў гэтым летам,—
А легендай сусвет
Ганарыць належна
Нашых лётчыкаў цвет
На ўвесь свет бязмежны.



То не шум баравы
Шміта ўвекапомніў,—
Магілёў наш сівы
Земляка успомніў

І падумаў сабе:
Добра ў часе гэткім
Шміта мецЬ у сяўбе
На нашых палетках.



То не шум баравы
Хвалюе прыволле,
Дум напеў векавы
Аб вялікай волі,—
Гэта едуць да нас
Саюза героі
Ва ўсёй велічы крас,
У палярнай зброі.



То не шум баравы
Шуміць небывала
Ад марэй да Масквы
Нечуванай хвалай,—
Гэта едзе экспрэс
З чэлюскінскай славай,—
Яму сонца, і лес,
І людзі б'юць «брава».



То не шум баравы
Калыша прасторам.
І не зоў баявы
Заклікае к зорам,—
Гэта наша жыццё
Пяе гімн шчаслівы
Пра ўсё наша быццё
Нашых родных ніваў.

*1934*

## НАШАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Мудрыя законы
Краіны Саветаў
Пісаны рукою
Рабочай, мазольнай...

Нашай Канстытуцыі
Слаўныя заветы
Не памруць, жыць будуць
Праўдай векапомнай.

Гэтыя законы
Ззяюць агняцветам,
Сонечна лунаюць
Зоркаю цудоўнай

І над зарубежным
Канаючым светам,
Дзе йшчэ люд працоўны
Сёння паднявольны.

Братняй дапамогай,
Роўная між роўных,
БССР красуе,
Нібы жыта летам;

Скінуўшы лад царскі
І панскія прыгоны,
Сабой ганарыцца,
Як ніколі гэтак.

Ўвесь народ савецкі
Шуміць роем ройным
На нівах савецкіх
Квецістых, распетых...

Будуць віхры, буры,
А жыць будуць вольна
Нашай Канстытуцыі
Слаўныя заветы.

*1934*

## КАЛГАСУ «ЧЫРВОНЫ БАЕЦ»

Панаваў тут Ёдка
З рання да вячорка,
Сам ён жыў салодка,
А беднота горка.

Панаваў паганы,
Грабіў, не марудзіў,
Кланяліся ж пану
Гаротныя людзі.

Жыў сабе упырам,
Седзячы ў палацы,
Пух сабе ад жыру
З батрацкае працы.

На гэтых папарах,
Засевах і пашах
Сёння гаспадараць
Калгаснікі нашы:

Букі, Рахінсоны,
Дар'і, Пусташылы,
Рэуты, Алёны,
Кастусі, Данілы.

А во Хадасевіч —
Старшыня калгаса —
Знае, што дзе сеяць,
Не прапусціць часу.

Чалавек ён з гартам,
Ўмее заахвоціць.
Не папусціць жартаў
Ў калгаснай рабоце.

Засяваюць поле
Не так, як калісьці:
Не для панскай долі —
Для сваёй карысці.

Гаспадараць дружна,
Недаспяць часамі;

Час мінуў лапцюжны,
Паны сабе самі.

Ісці будуць годы,
А калгаснік збожны
Жыць будзе заўсёды
Культурна, заможна.

*1934*

## Я — КАЛГАСНІЦА...

Я — калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.

Мае дзетачкі
Позна-рана
І накормлены,
І прыбраны.

Сваю Настачку —
Дзіцё тое —
Нясу ў яслі я
Раніцою.

А Данілачка
Важным хлопцам
Рады бегае
На пляцоўцы.

А як выйду я —
Іхня маці —
Ды калгаснае
Жыта жаці,—

Густа сцелюцца
Ўслед снапочкі.

Пяю песенькі
Аж да ночкі.

Супакойна я
Ўжо за дзетак,
Сваіх родненькіх
Малалетак.

Я — калгасніца
Маладая,
Жыву весела,
Ані дбаю.

*1934*

## «ЗВЯЗДЗЕ»

Дырэктывы партыі,
Ўрадавы дэкрэты —
Праўду бальшавіцкую
Нашы ўсе газеты

Нясуць пераможліва —
Толькі падзівіцца —
Па Саюзу вольнаму
Светлаю крыніцай.

На варце савецкае
Стаяць безупынна,
Выкрываюць шкоднікаў —
Ворагаў краіны.

Думкі множаць мудрыя,
Ўсё тлумачаць ясна
Грамадзе працоўнае —
Рабочай, калгаснай.

І растуць, і множацца
Фабрыкі, заводы,
На ніве калгаснае
Ўсходзяць буйна ўсходы.

Пяць тысяч — не жарты вам —
Нумароў з запалам
«Звязда» наша слаўная
Ўжо надрукавала.

Пяць тысяч — не жарты вам —
Ды тут — на фарпосце,
Ад рукі варожае
Дзе йшчэ тлеюць косці.

Пяць тысяч — не жарты вам —
Праз гадоў шаснаццаць
«Звязда» з подлым ворагам
Мусіла змагацца...

Скажам жа ёй шчырае
Наша пажаданне:
Каб жыла, квяцілася
Далей безустанне.

Каб з той жа упартасцю,
З тым жа гераізмам
Шляхі далей значыла
Аж да камунізма.

*1934*

## НА НАШЫМ ПОЛІ

На нашым полі,
Полі калгасным,
Дзянькі праходзяць
Весела, ясна.

Дружна працуем
Мы грамадою,
Знацца не знаем
З горам, з бядою.

Пры нашым ладзе,
Пры калектыўным,

Рукам падмогай
Служаць машыны.

Болей не знаем
Сох на загонах,—
Трактар нам цягне
Плугі, бароны.

Сонейка ўзыдзе,
Сонейка зайдзе,
Сеем і полем
Шчыра, папраўдзе.

Сеем, збіраем
Спелае збожжа,
Сабе, краіне
Багацце множым.

*1934*

## ХВАЛЮЮЦЦА МОРСКІЯ ХВАЛІ...

Хвалююцца морскія хвалі,
І воблакі вецер калыша,—
А мы плывём далей і далей,
А мы ляцім вышай і вышай.

Наперад мы йдзём векапомна,
Як сонца на небе ў пагоду,
Будуем мартэны і домны,
Будуем гіганты-заводы.

Будуем, няволі не знаем,
Цярэбім да шчасця дарогі,
Святкуем Кастрычнікі, Маі —
Свае да святла перамогі.

Не ў страх нам пагрозаў замахі,
Не ў страх інтэрвенцкія шхуны,—

Ні стуль, дзе гадуюць манархаў,
Ні стуль, дзе бушуюць тайфуны.

На ўсход, захад, поўнач і поўдзень
Плыве бальшавіцкая песня,
Плыве песня ў творчым паходзе —
Для светаў старых буравеснік.

*1934*

## АБВІЛАСЯ КРАІНА...

Абвілася краіна
У кveткі,
Кліча сонца і месяц
У сведкі.

Ураджай даюць буйны
Палеткі,
Збожжам поўныя гумны,
Паветкі.

Весяляцца старыя
І дзеткі,
Што прыбытак ад працы
Ў іх гэткі.

Што мінулі батрацтва
Наследкі,
Не ядуць болей панскіх
Аб'едкаў.

Абвілася краіна
У кveткі,
Кліча сонца і месяц
У сведкі.

*1934*

## ВЫПРАЎЛЯЛА МАЦІ СЫНА

Выпраўляла маці сына
З калгаснае хаты
Не на службу у чужыну,
Не к дзяўчыне ў сваты.

Выпраўляла і казала:
«Мой сыночак мілы,
Ужо маеш ты нямала
Розуму і сілы.

Пойдзеш ты у свет і людзі
Хадою адважнай,
Прад табою слацца будзе
Край наш неабсяжны.

Не зазнаеш крутых сцежак —
Сыты і адзеты —
Вартаваць ты будзеш межы
Краіны Саветаў.

Не зазнаеш тамка гора,
Будуць паважаці,
Даглядаць цябе не горай,
Як родная маці.

Не ў салдатах быць пад царам,
Пад кнутом жандарскім,—
Служыць будзеш ты Саветам,
Справе пралетарскай».

Выпраўляла маці сына
З калгасных загонаў,
Каб служыў той верна, ўчынна
Арміі Чырвонай.

*1934*

## НІБЫ ЭПІГРАМЫ

### Якубу Коласу

Шкадую, дружа Колас,
Што тут цябе няма,—
Ясней свяціла б сонца
Цяплей была б зіма.

Складалі б разам песні
Аб радаснай вясне,
Аб шчасці варажылі б
На іскрыстым віне.

Дзве тысяч кіламетраў
Сягоння дзеліць нас...
Але што значаць вольным
Адлегласці і час!

### Валодзю Хадыку

Хадыка хадыкае,
Дыбае,
Сто вершаў задумністых
Выбаіў.

Мой мілы, мой добры Валодзя!
Па-мойму, во гэтак здаецца:
«Задумністых», можа, ўжо годзе,
А болей — ад сэрца, ад сэрца...

*1934*

## ДЛЯ ТЫХ, ЯКІХ ЛЮБЛЮ

Палюбіў я Марусю ўсім сэрцам,
А Марысю йшчэ болей, здаецца.
А папраўдзе люблю абадвух
Аднылькова, ціхенька і ўслух.

Аб іх долі выдумываў песні
Йшчэ тады — прад вялікім прадвеснем,
І сягоння наяве і ў сне
Яны ўсюды са мною, пры мне.

Ці пабачу я комін фабрычны,
Ці пабачу палетак пшанічны,
Лятуць думкі, заводзяць гульню
Ды ўсё з тымі, якіх я люблю.

Залатымі пяскамі пад ножкі
Пасыпаў бы ім сцежкі-дарожкі,
Падсцілаў бы ім сонца святло,
Каб да вечнага шчасця вяло.

Так люблю ад усходу да ўсходу
Чарнавоку Марусю з завода,
З лілій-кветак ёй віў бы вянок,
Прыбіраў бы ў атласы і шоўк.

Так люблю за дзявочыя красы
Сінявоку Марысю з калгаса,
З лілій-кветак ёй віў бы вянок,
Прыбіраў бы ў атласы і шоўк.

*1934*

## НА СМЕРЦЬ ТАВАРЫША КІРАВА

Калісь... О, не... Зусім нядаўна было гэта...
І як сабраць тут думкі ў сумнай галаве!..
Малюнак дзіўны змешчан быў у газетах,
Малюнак, што ў жывых у памяці жыве.

Плывуць па Беламорскаму каналу...
А лес шуміць... азёры ў хвалях па бакох...
Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін,
Прад імі даль Зямлі Савецкай і вякоў.

А сёння... Сёння што?.. Ад рання і да рання,
Калышучы абняты жудасцю прастор,

Плыве з Масквы жалобнае пянне,
Аж рэха далятае да Қаўказскіх гор.

...Не стала Кірава... Без часу смерць скасіла...
Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...
Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай!
Хаваюць, ведайце, бальшавіка бальшавікі.

Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі,
Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі ўвесь свет!
Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі,
А песню вечную злажы, пясняр-паэт.

Гнеў пралетарскі мог і зможа сцерці
З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк,
І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю,
Вышэй падымем сцяг, што выпаў з слаўных рук.

*1934*



# 1935

## З'ЕЗДУ САВЕТАЎ

Знатныя людзі
Савецкай зямлі
З добраю весткай
На з'езд свой прыйшлі.

Кожны свой рапарт
Даложа на сходзе,
Што ў пяцілетку
Зрабілі стагоддзе.

Намі збудован
Магнітабуд,
Шлях Беламорскі —
Тэхнікі цуд.

Мы запынілі
Парогі Дняпра,
Сваёй радзіме
Прыдбалі дабра.

Буйна рунеюць
Нашы калгасы,
Славай краіны,
Гонарам, красай.

Трактары нашы
Рэжуць баразны,
Сохаў-крывуляў
Мінуўся стогн слёзны.

Кожны дзень лепей
Сягоння ідзе,
Думкі прапалі
Аб горкай бядзе.

Армія наша
Грознай станіцай
Збройна вартуе
Межаў-граніцаў.

Здраднікаў подлых
Нішчым мы ўшчэнт,
Нам, пераможцам,
Дзівуецца свет.

Песню прынеслі
Сваю песняры
Вам, зямлі вольнай
Гаспадары.

Партыя ж наша
І мудры наш Сталін
Да перамог
Шляхі паказалі.

*1935*

## УКРАІНА

Украіна, цвеце любы,
  Сонцам гадаваны,
У мінулым край няволі,
  Курганоў, кайданаў.

Панавалі, катавалі
  Гетманы, царыцы,
І паны тваёй крывёю
  Не жалелі ўпіцца.

Знесла ты вайны сусветнай
Вялікае гора,
Кроў цякла тваіх людзінаў,
Як Дняпро у мора.

*

Украіна, цвеце любы
Чараўнічай сілы,
Рэвалюцыя з Усходу
Цябе абудзіла.

Абудзіла, а на шляху
Паўстаў вораг дзікі —
Скарападскія, пятлюры
Ды Махно, Дзянікін.

Запалаў твой стэп шырокі,
Паўставала гора,—
Пацякла кроў старай сцежкай,
Як Дняпро у мора.

*

Украіна, Украіна!
Глянь ты, азірніся:
Як цярпела, паўставала,
Як імкнешся ў высі.

Шлях твой ясны, як пшаніцы
Залацісты колас,
А людзей тваіх працоўных
Звонкі, смелы голас.

Па Дняпру тваім свабодным
У самае мора
Плывуць горда параходы,
Не знаючы гора.

*

Украіна! Табе вораг
Ніякі не страшан,—

Сцяг твой роўны паміж роўных
У Саюзе нашым.

Ты будуеш сабе шчасце
Пад сцягам чырвоным,
Як рэспублікі ўсе нашы,
З поспехам цудоўным.

Хто ж памкнецца табе здрадзіць,
Зноў капаць магілу,—
У Дняпры сваім патопіш
Варожыя сілы.

*1935*

## САМАЛЁТУ «МАКСІМ ГОРКІ»

І не ад варожае кулі у бітве,
І не ад халоднай палярнай пургі,
І не з перуном агнявым ў барацьбе
Загібла ты, птушка савецкай зямлі.

Да жудкай няшчаснай смяротнай пары,
Пад неба, дзе сонейка, быў твой палёт,
Табой ганарыўся малы і стары,
О слаўны, о ясны гігант-самалёт.

Ляцеў ты — нямела людская журба,
Ляцеў ты — пужліва ўцякалі імглы,
Над рэчкай галоўку хіліла вярба,
Зайздросна з вышынь пазіралі арлы.

Сягоння ў жалобе радзіма мая
Па страце, якая абегла ўвесь свет...
Вялікая ж наша працоўных сям'я
Ўжо кліча да новых геройскіх пабед.

Героі, што згінулі разам з табой,—
Іх памяць пяройдзе з табою ў вякі:
Калгаснік успомніць пра вас за сяўбой,
Заводаў і фабрык успомняць гудкі.

Наперад, наперад, на захад і ўсход.
Зноў да перамог, як адзін, як адзін...
Ёсць партыя, Сталін, свабодны народ,
Народ гераічны савецкіх краін.

*1935*

## СЫНЫ

Сыноў бацька сваіх кліча
  На параду ў хату,
А ўрачыста як бы кліча
  На якое свята.

І з павагаю пытае
  Кожнага ў асобку,
Кім з іх кожны быці хоча,
  Якім жыць заробкам.

*

— Бо, сыны мае,— так кажа,—
  Жывіцё ў краіне,
Чалавечая дзе праца
  Намарна не гіне.

І сыны адказ трымалі
  Перад бацькам родным,
А стараўся з іх быць кожны
  Свайго бацькі годным.

*

Першы кажа: — Землі буду
  Трактарам варочаць,
Каб рунелі, зелянелі,
  Аж яснелі вочы.

Каб раслі ў рост чалавека
  Жыта і пшаніца,

Каб аж госці к нам з-за свету
Ехалі дзівіцца.

*

Другі кажа: — На заводзе
Быць хачу даўно я,
Дзе чыгун ракою льецца,
Дзе звініць сталь звонам.

Будаваць буду дзень цэлы
Домны і мартэны,
Медзь і вугаль браць у дзела
Ад шахтаў падземных.

*

— Плаваць я пайду на мора,—
Сказаў гэтак трэці,—
Дзе «Чэлюскін» горда плаваў,
Дзе пурга, дзе вецер.

Ад халодных да гарачых
Мораў рэйс мой будзе.
Параход мой будзе грозна
Рэзаць хваляў грудзі.

*

Сын чацвёрты: — Хочу лётаць
Птушкаю крылатай,
Мераць неба ў самалёце
Над тваёю хатай.

Арлянём сябе ў сне бачу,
Не знаю спакою...
Хачу быць я, мой ты бацька,
Лётчыкам-героем.

*

— Байцом буду я чырвоным,—
Пяты кажа гэтак,—
Сцерагчы граніцы-межы
Краіны Саветаў,

Каб наш вораг пры нападзе
Сустрэнуў магілу.
Байцом буду, каб з мяне быў
Рад сам Варашылаў.

*

А сын шосты: — Складаць песні
Буду, колькі змогі,
Пра вялікія падзеі
Сталінскай эпохі:

Як працуем, як знішчаем
Здрадныя напасці,
Як будуем, як ствараем
Казачнае шчасце.

*

Так сыны адказ трымалі
З гонарам юначым,
Свае выказаці думкі
Не ўмелі іначай.

Бальшавік быў іхні бацька,
Пралетарый родам,
Зведаў сушы, зведаў моры,
Бітвы і паходы.

*1935*

## СОНЦУ

Ой ты, маё сонца,
Як жа свеціш ясна!
Дзе ж было раней ты,
Як быў я няшчасны?

Як я ў малалецтве
Радасці не ведаў,
Як за мной пляліся
Бяда, гора следам.

Як бацьку хаваў я,
Выбітага з сілаў,
Як яго магілу
Паводка размыла.

Як ішоў маркотны,
Не знаўшы дарогі,
Абіваць з паклонам
Панскія парогі.

Як у адзіноцтве
Бадзяўся па свеце,
Як моладасць згібла
У самым расцвеце.

Ой ты, маё сонца,
Як жа свеціш ясна!
Дзе ж было раней ты,
Як быў я няшчасны?

*1935*

## ЗДАЕЦЦА Ж, БЫЛО ГЭТА ЎЧОРА...

Здаецца ж, было гэта ўчора,—
Як сёння, шумелі бярозы,—
Калі на няплодных разорах
Кацілася гора і слёзы.

Аб цяжкіх начлегах напевы
Каціліся з краю да краю;
Былі неўраджайны засевы,
Было галаданне ў звычаю.

Здаецца ж, было ўчора гэта,—
Плылі воды ў мора, як сёння,—
Калі ты не бачыў прасвету,
Што збудзецца заўтра на гонях.

Стаяў перад будучым свечкай,
Якая згасае без следу;
Плыла слепата мутнай рэчкай
Да бацькі, да ўнука ад дзеда.

Было ж гэта ўчора, здаецца,—
Як сёння, шумеў бор зялёны,—
Сабе не знаходзячы месца,
У процьму ішлі міліёны.

Ішлі. Ад крыві ныла цела,
Чакалі збаўленчага цуду:
Нядоля, няволя гудзела,
Адвечным гула перагудам.

*

Забурліла сіне мора
Ад віхроў,
Выйшлі Волгі, Дняпры выйшлі
З берагоў.

Разбудзіла мора спячых —
Уставай!
Вазьмі свой ад ліхадзеяў
Каравай!

Цячы, кроў, жывой крыніцай
Па зямлі,
Каб па-людску дзеці, ўнукі
Жыць маглі!

Вее, вее ўсходні вецер,
Вее ў даль,
Векавечнае пракляцце
Біць не жаль.

І разбілі пераможнай
Барацьбой.

Байцы сёння ўспамінаюць
Быўшы бой.

Загасціла прасвятленне
І цвіце,
Няма думак аб нядолі,
Аб кнуце.

Зашумелі над ракою
Трыснягі,
Аквяціла ясна зелень
Берагі.

Па сялібах непрабудны
Згінуў сон,
Прад вачыма шлях у сонцы
Новых дзён.

*1935*

## СТАРЫЯ АКОПЫ

Удоўж Дняпра ляглі яны — акопы,
Зарosшыя травой акопы, бліндажы,
Дзе як бы йшчэ смярдзіць людскою ропай,
Мінулых бітваў усплываюць міражы.

За рабаўласнікаў, за патрыярхаў,
За царадворцаў, за банкіраў, за цароў
Лілася кроў людзей, скаваных жахам,
Пад музыку гармат, званоў лілася кроў.

Закрыеш вочы, і здаецца, вочы
Перад сабою бачаць трупы-касцякі,
Здаецца, вушы чуюць, як скрыгочуць
Прадсмертным скрогатам ваякі, ланцугі.

Ой вы, мае акопы з бліндажамі!
Агідна робіцца на сэрцы і душы,
Што там — за пагранічнымі слупамі —
За войнаў будучых п'юць подла барышы.

Што там яны — сапегі, радзівілы,
Разгром забыўшы ля дняпровых вод,
Свае ў Расіі свежыя магілы,
Крычаць віваты за паход на Ўсход!

Што гітлеры і герынгі з Берліна,
Культуру нішчачы, што кінулі вякі,
І ў бажышча узвёўшы гільятыну,
На край савецкі точаць шаблі і штыкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Плыве Дняпро, плыты плывуць памалу...
— Спакойна спіце вы, акопы, бліндажы:
На іхніх землях з іхніх генералаў
Знімаць пагоны будзем, шаблі і крыжы.

*1935*

## СОСНЫ

Сосны выносныя,
Гордыя сосны!
Шмат вы ўжо носіце
Сонечных вёснаў.

Вас, супакойныя,
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

*

Тыя ж на поўначы —
З вёснаў да вёснаў —
Ў сцюжнай Карэліі
Высяцца сосны.

Тыя ж на поўдзені,
Над цёплым морам,
Сосны ахуталі
Крымскія горы.



Сосны далёкія,
Блізкія сосны,
Сэрцу вы любыя
З вёснаў да вёснаў.

Вас адзінакава
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

*1935*

## БЕЛАРУСІ АРДЭНАНОСНАЙ

*Да гадавіны вызвалення ад белапалякаў*
*і дня ўручэння ордэна Леніна*

### I

Чым ты была, Беларусь мая родная,—
Хіба ж не бачылі нашыя вочы?
Вечна абдзёртая, вечна галодная,
Сонца не ведала, а толькі ночы...
Людзі твае, ў беднаце гадаваныя,
З торбай жабрацкаю век дажывалі...
Злосна стагналі вятры над курганамі,
Хмары насіліся чорнаю хваляй.
Цар, цараняты нагайкамі няньчылі,
Пан і паняты паслі бізунамі,
Турмамі песцілі, петлямі лашчылі,
Розгамі секлі, цямрылі багамі.
Цар, генералы і панства вяльможнае
З гікам і свістам спраўлялі банкеты...
Вёску абдзёртую думкі трывожылі,
Блукаўся старац разуты, раздзеты.
Годы ішлі, ўслед ішло гора-злыбеда,
А прад вачамі заклятыя далі...

Ой, хто крутыя шляхі гора выведаў,
Песні чаму ўсё аб горы складалі?

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грозна завылі гарматы хаўтурскія,
Цёплая кроў арасіла прасторы:
Горы Карпацкія, багны Мазурскія,
Роднай краіны даліны і горы.
Скрэжат і смерць. А там... бежанцы, бежанцы...
Густа пайшлі за магілай магіла.
Хоць бы ўжо ў царскае горла урэзацца,
Хоць бы кроў з панскіх выпусціць жылаў!
Так аблілося крывёй поле роднае,
Так балявалі чужацкія госці.
Вецер заводзіў малітву жалобную,
Чорны груган збіраў белыя косці.
Але змяніла навалу германскую
Подлае панства ад польскай кароны,—
Скрыпнулі вісельні, путы забразгалі,
Кроў палілася... Пажары, пагромы.
Зноў пацяклі слёзы горкія ўдовіны,
Дзеці-сіроткі бацькоў не знаходзяць...
Гэй, паны-шляхта! Народ вамі скованы,
Ён вам адпомсціцца жудка ў прыгодзе.

## II

І сягоння помняць, помняць, не забудуць
Людзі Беларусі, пазбыўшыся панства,
Як іх катавалі, як чакалі цуду,
Як прыйшло з Усходу вызваленне з рабства.
Людзі Беларусі помніць будуць добра
Аб гадах няволі, аб нядолі горкай,
Як мінула ліха, як не гнуцца горбам,
Як жыць стала лёгка пад чырвонай зоркай.
На поле выходзяць вольнаю дружынай,
Сеюць чыстым зернем, нішчаць пустазелле,
Дзірваны ўзнімаюць, заводзяць машыны,
Дзе глянь, сады садзяць... Зацвітай, прыселле!
Зелянее жыта, жыта і пшаніца,
А так буйна, буйна, як даўней ніколі.
Вось дык будзе радасць у ясных святліцах,
Калі грамадою збяруць дабро з поля.
Калгасныя смела засяюць загоны,

Не баяцца зграі панскай недабітай,
Бо вартуюць межаў Арміі Чырвонай
Жалезныя роты, гартаваны ў бітвах.
А калі што прыйдзе, возьмуць стрэльбы самі,
Як адзін паўстануць на ворагаў дзікіх
І вызваляць брацціяў, што йшчэ кайданамі
Звоняць у няволі у муках вялікіх.

III

Шум і гоман у сталіцы,
Сцяг ля сцяга ўецца,
Як на градах мак чырвоны,
Ажно сэрца б'ецца.
Сэрца б'ецца і пытае:
— А што за навіна?
— Вызваленне ад палякаў
Сёння гадавіна!
А сталіца — дзіву дайся! —
Паўстала з руінаў,—
Мінск — сталіца, гордасць наша,
Слава ўсёй краіны.
Дзе дымелі папялішчы —
Сляды панскай ўлады,
Гмах ля гмаху вырас новы,
Чыстата, парадак.
Дзе крывавы баль спраўляла
Хеўра інтэрвентаў,
Ходзяць з песняй пераможнай
Тысячы студэнтаў.
Дзе была вакол пустэча,
Як тая магіла,
Ўсталі фабрыкі, заводы —
Рэспублікі сіла.
А народ там гераічны,
Наш народ рабочы —
Рукі моцны, бы са сталі,
Арліныя вочы.
Беларусь, мая радзіма,
Як жа расцвіла ты
За час гэты, за кароткі,
Як выгнала катаў!
Не злічыць тваіх здабыткаў
І не змерыць меркай...

Чалавек твой на свабодзе
Стаўся чалавекам.
Каласіся ж, расцвітайся
Краскаю чырвонай
У Саюзе у Савецкім,
У законе роўным!
Знай, сягоння дзень твой важны
Важнай нагароды;
Святкуй весела, шчасліва
Ў полі і ў заводах!
У вадзіцы у крынічнай
Чысценька памыйся,
Прыбярыся ў кветкі-краскі,
Сонцам атуліся.
За ўсё тое, што стварылі
Шчыра твае людзі,
Ордэн Леніна сягоння
Твае ўквеціць грудзі.
Рана, позна — гэта ведай,
Ці сонца, ці зоры,—
Мудры Сталін падзяляе
Тваё шчасце й гора.

*1935*

## ГОСЦІ

Ка мне у госці з прывітаннем шчырым
І з песнямі калгаснікі прыйшлі.
Сам старшыня прыйшоў і брыгадзіры,
Настаўніца, даяркі й пастухі.

А з падарункамі прыйшлі у госці
Зямлі абноўленай гаспадары:
Пірог пшанічны, кветкі, лёну горсці
На стол паклалі й мёду пляйстары.

І селі мы з павагай дзіўнай нейкай
За стол, дзе быў пірог, і лён, і мёд...
За хатай заліваўся салавейка,
Гудзеў над хатай гулкі самалёт.

Такога гонару не меў ніколі,
Як я на гэтае зямлі жыву,
Каб так віталі мяне хлебам-соляй
І то не ў сне якім, а наяву.

Памалу гутарку мы распачалі,
А шмат аб чым пагутарыць было:
І пра сягонняшнія ў сонцы далі,
І як даўней жыло-было сяло.

Пра нашы гаварылі зімы, вёсны,
Пра добры ураджай і працадні...
За вокнамі шумелі згодна сосны,
Начлежнікі разводзілі агні.

...Здаём належнае сваёй дзяржаве,
Дарогі ладзім, лес на сплаў вязём.
Жывём заможнікамі ў самай справе,
Як трэслі, не трасём рыззём.

— Загаціць,— кажуць далей,— трэба рэчку,
Каб возера было, каб быў і млын,
Каб і ў хлявы каровам і авечкам
Сама вада пайшла ўгару з нізін.

І кажуць: — Школа ў нас чатырохлетка,
Дзесяцілеткай трэба каб была,
Каб нашым здольным працавітым дзеткам
Далей вучыцца сцежка пралягла.

Ды шмат аб чым яшчэ мы гаманілі,
А больш за ўсё аб дасягненнях тых...
Спрасоння певень недзе хлопнуў крыллем,
На неба ўсходзіў месяц залаты.

Зайграў музыка; хлопцы і дзяўчаты
Пад музыку пусціліся скакаць...
Дрыжэлі сцены новай звонкай хаты.
Было нам весела, што і казаць!

І госці выйшлі. Ціша наступіла.
Тут адна думка ўзбегла мне на яў:
Калгаснікам адвагі не хапіла
Прасіць, каб песню аб калгасе склаў.

*1935*

## ВЕЧАРЫНКА

Вечарынка у калгасе,
У «Чырвоным аратаю»,—
Прыйшлі Сцёпкі, Пецькі, Васі,
Прыйшлі Зосі, Стасі, Касі,
І гармонік грае, грае.

Прыйшлі з поля, з гаспадаркі,
Клуб запоўніўшы да краю,
Брыгадзіры і даяркі,
Брыгадзіркі і свінаркі,
А гармонік грае, грае.

Ходам ходзяць гаспадыні —
Маладая і старая,—
Зіна шэпча штось Мальвіне,
А Мальвіна шэпча Зіне,
А гармонік грае, грае.

Захапіўшы ў першай пары
Янка Маньку, Юрка Раю,
Даюць дыхту, даюць жару,
«Сербіянку», польку шпараць,
А гармонік грае, грае,

За сталом ідзе бяседа
Аб жыцці, аб ураджаі,
П'е суседка да суседа,
Хто не снедаў, тут даснедаў,
А гармонік грае, грае.

Ночка сходзіць, сонца ўсходзіць,
І дамоў было б пара ім,
А скакаць яшчэ не годзе,
Яшчэ танец на расходзе,
А гармонік грае, грае.

Во й начлежнікі з начлегу
Як бы хто ім там нараіў,
Закаціліся з разбегу
І пайшлі у скок шарэнгай,
А гармонік грае, грае.

Весяліся, ганарыся,
Мой «Чырвоны аратаю»!
Скварка плавае у місе,
У шаўку скача Марыся,
І гармонік грае, грае.

*1935*

## АЛЕСЯ

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.

Гаманіў бор сасновы
Ўвечары і ранкі,
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі.

— Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі,
Спі, засні, мая кветка,
Люлі, люлі, люлі.

— Спі, не ведай трывогі,
Надыдзе часінка,—
На свае ўстанеш ногі,
Мая ты дзяўчынка.

Будзеш кужаль ты прасці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаці долі, шчасця
Ў маладыя вёсны.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.

Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчаслівай краінай,
Над роднай старонкай.

Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам
Ці як ястраб з высотаў
Скача з парашутам.

І да сонца праз хвілю,
А ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыллем
Воблакі калыша.

Стара маці днём, ночкай
Марыць ля аконца:
Ужо к прасніцы дочка
Не зляціць з-пад сонца.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

*1935*

## ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык
І ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне мама сягоння казала,
Што стукнула мне ўжо сем год,

Табе гэта, можа, і мала,
А мне ляцець толькі ў палёт.

Мне ўжо надакучыла дома —
Ў дзіцячы хадзі адно сад,
А так паглядзеў бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вазьмі ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь,

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так пабываць і ў Крамлі.

І там з-пад нябеснае далі,
Грымнуць громка ўсімі грудзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш Сталін!
Паклон з самалёта прымі!

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

*1935*

## ЯК Я МОЛАДА БЫЛА...

Як я молада была,
Бедавала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.

Не хапала той зямлі,
Не хапала ежы,
Ні той скваркі хоць калі,
Ні цэлай адзежы.

Бацька гоніць на начлег,
Маці ў двор да пана;
Ні вясёласці, ні ўцех
Ад долі паганай.

А сягоння, во, мае
І дзеці, і ўнукі —
Кожны ўдоваль есць і п'е,
Не ведаюць мукі.

Ці Кастрычнік, ці то Май,—
Гонару набралі,—
Ім ядваб ужо давай,
Не хочуць паркалю.

Патэфоны граюць ім,
Радыё іграе;
Не было ў жыцці маім
Гэтакага раю.

Як я молада была,
Бедавала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.

*1935*

## ЛЁН

Як на поле, на зямлю
Прыйшла раніца вясны,
Я пасеяла ў раллю
Жмені зёран ільняных.

Неба сеяла цяпло,
Цёплы дождждык церушыў,

Ў думках радасна было,
Беглі песні ад душы.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як расці стаў, як падрос,
Як лісткі ўзняў дагары,—
Лён палола з ранніх рос
Да вячэрняе зары.

Сэрца ныла, бы з нуды,
Бы сама была не ўся,—
Спадабала я тады
Брыгадзіра Міхася.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як адцвіў ды як надзеў
Лён галоўкі на сябе,
Быў не горш, як у людзей,
Мела шчасце я ў сяўбе.

Рваць ішла яго ў снапы,
Пела песні аб вясне,
Брыгадзір лічыў капы,
Час ад часу моргаў мне.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як ішла лён абіваць,
Пад нагамі цёрся жвір;
Нібы семя арфаваць,—
За мной следам брыгадзір.

А мой пранік лясь ды лясь
Па гліняным па таку,
Падышоў бліжэй Міхась,
Мне паклаў на стан руку.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

А як слала я лянок
На зялёным на лугу,
Дзе папаўся Міхасёк,
Цалавала на бягу.

Сэрцу лёганька было,
Цэлы свет — вясёлы рай,
Хоць і восень, а святло
Так і льецца цераз край.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Змяла ў мяльніцы я лён,
Адтрапала лён траплом,—
Засвяціў, як цудны сон,
Лён шаўковым валакном.

Промень ясны загуляў
Па страсе і па сцяне...
Хату новую стаўляў
Брыгадзір мой для мяне.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

*1935*

## ПАРТЫЗАНЫ

Як ішлі у лясы партызаны
На заклятага ворага-пана,
Расступаліся долы і горы,
Шляхі значылі сонца і зоры.

Як табун разграмілі варожы
Партызаны ў сваім падарожжы,
Задымелі агні на начлезе,
Зашумеў кучаравы бярэзнік.

Як жа свой партызан адзін здрадзіў
І навёў ліхадзеяў к засадзе,
Пайшоў гул па зялёных імшарах,
Паплылі небам чорныя хмары.

...А на вогнішчы попелу горсці,
А ў тым попеле чорныя косці...
Выюць ночкай ваўкі на палянцы,
Касцякі даядаючы здрайцы.

Як прыйшла перамога над панам,
Ішлі з песняй з лясоў партызаны,—
Расступаліся долы і горы,
Шляхі значылі сонца і зоры.

*1935*

## ДАРОГІ

Дарогі вы шасейныя,
Шчаслівыя дарогі,
Істужкамі паслаліся
На нашыя разлогі.

Праз поле ураджайнае,
Тарфяныя балоты,
Праз пушчы векавечныя
Ляглі вы пазалотай.

Ніколі вы не дрэмлеце,
Ад ранка і да ранка
Па вас машына коціцца
І конная фурманка.

І пешаходам весела —
Малодшы ён ці старшы,
Байцы Чырвонай Арміі
Ідуць паходным маршам.

Грузавікі з таварамі
Бягуць ва ўсе староны,

З лістамі віншавальнымі
Шнуруюць паштальёны.

Злучылі з гулкім горадам
Спакойныя разлогі,
Дарогі вы шасейныя,
Шчаслівыя дарогі.

З бяспуцця непраходнага,
З калдобін-катлавінаў
Ты выйшла, ардэнаносная,
На роўны шлях, краіна.

*1935*

## МАЁ МНЕ СОНЦА ПРАВАДЫР...

Маё мне сонца правадыр,
Мне сцежкі знача безупынна,
За ім ляцеў бы на Памір
І на Эльбрус, і на Хібіны.

За ім, не знаючы нуды,
Каналам плыў бы Беламорскім,
Ляцеў бы вызнаць гарады —
Магнітагорскі й Краматорскі.

За ім ляцеў бы я ў прастор,
Туды — у высь, у стратасферу,
Пабыць гасцём у ясных зор,
Жыццё планетнае праверыць.

За ім — за сонейкам мой шлях,
Куды яно з сваёю ласкай,
Ляцець, плысці, як той жар-птах,
На полюсах рабіць папаску.

Зямлю і неба ўдоўж і ўшыр
Так кожнай зведаваць хвілінай...
Маё мне сонца правадыр,
Мне сцежкі знача безупынна.

*1935*

## ЯК У ГОСЦІ СЫН ПРЫЕХАЎ...

Як у госці сын прыехаў —
А да маці, а не зблізка,—
Яе шчасце, яе ўцеха
Ад пялёнак, ад калыскі,—

Запрашала у святліцу,
За дубовы стол саджала...
Слёзы капалі расіцай,
Што сынок такі удалы.

Частавала белым сырам,
Хлебам сітным, мёдам пчолім,
Заклікала шчыра-шчыра
Не чурацца хлебам-соляй.

І цікавілася маці —
Сэрца матчына, вядома,—
Як на службе там дзіцяці,
Ці там лепей, ці мо дома?

А суседкі каля вокнаў,
Як бы ўбачылі праяву:
— Які чысты, які стройны,
Які з твару малажавы!

— Дома добра, там не горай,
Там не горай, а мо й лепей,—
Сын развэжліва гавора,
Сэрца смуткам не зачэпе.

— Ты адно падумай добра,—
Служу ў Арміі Чырвонай,
Служу ў конніцы харобрай,
Дзе начальнік сам Будзённы.

Я таксама камандзірам,
Хоць служу другое лета,
Глянь, адзнака на мундзіры,
За заслугі ж усё гэта.

А парадак там у войску,
Кожна ўлічана хвіліна.

Ой, далёка нашым вёскам
Да такое дысцыпліны.

І ні суму, ні дакукі,
Час імчыцца, нібы хвалі;
Пасцігаем і навукі —
Болей знаем, як мы зналі.

А ўжо коні, нашы коні!
Ці то суха, ці разводдзе —
Буйны вецер не дагоне,
Шлях пярун не загародзе.

Байцы ж нашыя — героі.
Ты не знойдзеш гэткіх армій.
Што за выпраўка у строі,
Што за послух у казарме!

А суседкі каля вокнаў,
Як бы ўбачылі праяву:
— Які чысты, які стройны,
Які з твару малажавы!

— А парад як быў нядаўна,
Ты й не бачыла, й не чула,—
Гэткі важны, гэткі слаўны,
Колькі бляску, колькі гулу!

Во спачатку йдзе пяхота,
За ёй конніца і танкі,
На машынах едуць роты,
А там — быстрыя тачанкі.

За тачанкамі — гарматы —
Палявыя і марціры,
А пад небам — рой крылаты —
Самалётаў цэлы вырай.

Як зірнеш, дык ажно люба,
Галава аж ходам ходзіць!
Во дзе ворагу загуба,
Калі ўздумае нам шкодзіць!

А музыкі граюць маршы
Ў нечуваным ладзе-складзе,

Граюць маршы — і мне такжа,
Бо я такжа на парадзе.

А суседкі каля вокнаў,
Як бы ўбачылі праяву:
— Які чысты, які стройны,
Які з твару малажавы!

— Ды скажу табе я мілай:
Дзень той быў у нас не штодзенны:
Сам таварыш Варашылаў
Прымімаў парад ваенны.

Не высокі сабе ростам,
Не высокі і не нізкі,
І такі вясёлы, просты,
Хоць далёкі, а так блізкі!

А свой погляд, свой юначы
Калі кіне, бы зарніца,—
Сэрца з радасці заскача,
Кроў адвагай забурліцца.

Адным словам, свой брат родны,
Адно хочаш, мая маці,
Быць яго дастойным, годным,
За яго жыццё аддаці.

Конь пад ім, прост, вярнігора!
А як скача, як гарцуе!
Ён вачыма лічыць зоры,
Ён вушамі вайну чуе.

Вайну чуе, броў не хмура,
Толькі бліскаюць падкоўкі,
Бо яздок на ім, што бура,
З віхрам пойдзе ў перагонкі.

Нашай Арміі Чырвонай
Камандзір над камандзіры,
За ім пойдзеш, хоць сягоння,
Цераз пушчы, цераз віры.

У міжбур'е з ім жыць міла,
Лёгка ж будзе і ў паходзе.

Во, які наш Варашылаў!
Во, які наш палкаводзец!

Так у госці сын прыехаў —
А да маці, а не зблізка,—
Яе шчасце, яе ўцеха
Ад пялёнак, ад калыскі.

Нездарма вяла ў святліцу,
За дубовы стол саджала.
Слёзы капалі расіцай,
Што сынок такі удалы.

Нездарма там каля вокнаў
Цёткі гутарылі жвава:
— Які чысты, які стройны,
Які з твару малажавы!

*1935*

## ШОЎ Я ПУШЧАЮ...

Шоў я пушчаю аднойчы,
А ісці нялёгка пушчай,—
Тут насустрач позірк воўчы
Вызірае жудка з гушчы.

Пацярэб'ем, ломам трушчу,
А ён следам патарочай,
Кіну торбай, грыбам-хрушчам,—
Зубы скаліць, пхнецца моўча.

Хоць бы ўжо расстацца з ночай,
Хоць бы вочы дзень расплюшчыў:
Каб зазірнуць сонцу ў вочы,
Каб не знаць цянётаў-блюшчаў.

Развіднела. Ў чорнай гушчы
Знік маланкай позірк воўчы,
Заіграла песні пушча,
Дзяцел дзюбай затуркочыў.

За яснотай, каб не збочыць,
Мкнуся, пруся, верас трушчу —
Праз карчоўе, праз ламочча,—
Хай звяр'ё там пушчу лушча.

Гэтак з ношай, як той грузчык,
З ношай рызыкі малойчай,
Рвучы путы, скруты, блюшчы,
Відным шляхам далей крочу.

*1935*

## ДЗВЕ ДЗЯЎЧЫНЫ

Па узгорках, па далінах,
Ветрам-віхрам несупынна
Мчыцца быстрая машына,
А ў машыне дзве дзяўчыны,
Дзве дзяўчыны, як маліны...

Сцеражыся, супрацiўнік!
Адбівае дні гадзіннік.

Шофер з іх адна бывалы —
Ёй не страшны віры, скалы,
Долы, горы, перавалы,
Дае ход машыне ўдалай,
А ўсё далей хваляй, валам...

Сцеражыся, супрацiўнік!
Адбівае дні гадзіннік.

Інжынер — тая другая,
Будаваць машыны знае,
Аб ёй слава па ўсім краі:
Што такая маладая,
А машыны выдумляе!..

Сцеражыся, супрацiўнік!
Адбівае дні гадзіннік.

У раскрвечаным прасторы
Дзве дзяўчыны-непакоры
Едуць полем, едуць борам,
Перад імі сушы, моры,
А над імі сонца, зоры.

Сцеражыся, супрацiўнік!
Адбівае дні гадзіннік.

*1935*

## НАШАМУ СВЯТУ

Расчыні шырока дзверы,
Мілая старонка,
Выйдзі стрэнуць свой Кастрычнік
Песняй гулкай, звонкай!

Свята нашай гадавіны,
Хоць і ўвосень свята,
Свеціць вечнаю вясною
Нашым гоням, хатам.

Гэй вы, хлопцы, гэй, дзяўчаты,
Камсамол шчаслівы,
Сыпце кветкі, сыпце радасць
Нашым сёлам, нівам!

Перад намі ў сонцы, ў зорах
Будучыня наша,
Кожны дзень сягоння лепшы,
Як быў учарайшы.

Наша праца не йдзе марна
Ў полі, на заводзе,—
Аб здабытках, дасягненнях
Слава ходам ходзіць.

Мы не марамі сягаем
Высака пад неба,—

Самалёты — нашы птахі, —
Даль вышынь цярэбяць.

Мы не пекла дасягаем
У зямлі глыбінах,
А багацце здабываюць
Нашыя машыны.

Нашы межы не баяцца
Здраднїцкіх напасцяў;
Мы — сяўцы для чалавецтва
Яснай праўды, шчасця.

Нашых песень, светлых думак
Нішто не зацемрыць —
Ні наганы, ні кайданы
Фашыстоўскай хеўры.

Мы ідзём у сонцы з сонцам
Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
І яе народам!

Слава сокалу, што родам
З-пад каўказскіх скалаў,
Што з Крамля прамені сее
З юнацкім запалам!

*1935*



# 1936

## ПРЫВЕТ ВАМ...

Прывет вам, вольныя паэты,
Прывет вам ад душы ўсяе!
Хай вашы песні з лета ў лета
Зямля савецкая пяе!

Жывём у сонечнай краіне
І будзем жыць у добры час,
Дзе праўда ясная не гіне,
Дзе праўдзе служыць кожны з нас.

*

Прывет вам, вольныя паэты!
Мінуўся подлы гнёт і здзек,—
Мы з цемры выйшлі да прасвету,
Мы рабства скінулі навек.

Ніхто нам песень не спаганіць,
Свабодных песень, як віхор,
Ні чорных здрайцаў завыванне,
Ні рабаўласнікаў тапор.

*

Прывет вам, вольныя паэты,
Квяцістай волі песняры,
Вам, з блізкіх і далёкіх светаў
Людскіх душ слаўныя майстры!

Нам расцярэблены дарогі
Да небывалых новых дзён,
Нам сэрцы б'юцца без трывогі,
Спакойны нашы ява, сон...

*

Прывет вам, вольныя паэты,
Хай час вам радасна бяжыць!
Нам пад шчасліваю каметай
Так лёгка жыць, тварыць і жыць!

Тут гаспадарку мудры Сталін
Вядзе на дзіва ўсіх вякоў,
Тут людзі плакаць перасталі,
Ў заможных выйшлі з жабракоў.

*

Прывет вам, вольныя паэты,
Народаў братніх дружны хор!
Хай прамянее агняцветам
Радзімы нашае прастор!

Зайграюць сурмы нам да бойкі,
Пажарам задымяць шляхі,—
Алоўкі зменім на вінтоўкі,
Заменім пёры на штыхі.

*

Прывет вам, вольныя паэты!
Вітае вас і мал, і стар.
Нясіце ж ленінскім заветам
Свой шчыры песень вашых дар!

Каб праз вякі вясной распетай
Дум вашых сказы ў свет ішлі...
Прывет вам, вольныя паэты,
На беларускае зямлі!

*1936*

## КАМСАМОЛУ

Гэй ты, моладзь, наша змена,
Камсамольцы, камсамолкі,
Як жа светла, як адменна
Свеціш колерам вясёлкі!

Маладой юнацкай славай,
Ці то ўзімку, ці то летам,
Нібы сонца, цуднай з'явай
Прамянееш ты ў сусветах.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Хто наперадзе са сцягам,
На якім красуе Сталін,
Пакарыў сваёй адвагай
Неразгаданыя далі?

Хто найшчырэйшыя парывы
Сваіх думак, свайго сэрца
Аддае савецкім нівам,
Дрогнуць светам з сэрцам рвецца?

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Ці то сушы, ці то моры,
Ці то высі паднябесся,
Ўсюды стрэнеш непакораў —
Камсамольцаў нашых з песняй.

Хай там бура, завіруха,
Хай пурга сапе і плача,
Стуль тваё пачуе вуха
Камсамольскі гарт юначы.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Чыя кірка ў падзямеллі
Першай пласт вугля цярэбіць
І чый трактар першым сцеле
Скібы на калгаснай глебе?

Чые звоняць звонка косы
На мурожнай сенажаці?
Хто йдзе першым у пракосах,
Што і ветру не дагнаці?

Глыбей, далей, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Глянь, карабль плыве дасужна,
Дыміць комін параходны,—
Камсамольцы сям'ёй дружнай
Рэжуць хвалі ў шляху водным.

Ніпачым ім рыфы, скалы,
Ані смерчы, ні бураны,—
З маладым плывуць запалам
Цераз моры-акіяны.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Глянь у неба, ў стратасферу,
Дзе сягнуць не можа й вока,—

Камсамолец неба мерыць,
Сячэ крыллем вал аблокаў.

З самалётам днём і ночай
Мігаціцца ў безграніччы,
Днём смяецца сонцу ў вочы,
Ночкай зорнай зоры ліча.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

На фарпостах, на граніцах
Безгранічных нашых зямляў
З карабінам ля стражніцаў
Камсамолец не задрэмле.

З ім не жарты, з ім не гулі,—
Сцеражыся, подлы вораг!
Яго метка цэліць куля,—
Змеле злыдзеня на порах.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

*

Я шчаслівы, што я разам
Пяю песні з камсамолам,
Пяем песні складным сказам —
Ажно рэхі йдуць наўкола.

Родзіць буйна наша поле,
Сады нашы, агароды,
Гудуць гулка з добрай волі
Нашы фабрыкі, заводы.

Далей, вышай, у прасторы
Па ўраджай з сяўбы багаты,
Камсамольцы-вярнігоры,
Сталінскія арляняты!

[*1936*]

## ПЕСНЯ ТРАКТАРЫСТКІ

Трактар, мілы трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Пахавалі гора
Мы з табой нядаўна.

Пахавалі гора,
Гора ды няволю,
Як пайшлі з табою
Па шырокім полю.

Сонца нам смяецца,
Нібы строіць жарты,
Месячык святляны
Служыць нам за варту.

А вецер гуляе,
Абівае росы,
Косы расплятае,
Мае русы косы.

Трактар, мілы трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Пахавалі гора
Мы з табой нядаўна.

Мы ідзём з табою
Ў новы свет і людзі,
Новы шлях цярэбяць
Твае, мае грудзі.

Зложым з табой казкі,
Песні з табой зложым,
Радасці і шчасця
Краіне прымножым.

З табою аб'едзем
Навакола света,
Людзі нас сустрэнуць
З вясёлым прыветам.

Песняй прывітаюць
Каля кожнай хаты,
Кветкамі абсыпяць
Нас з табой дзяўчаты.

Трактар, мілы трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Пахавалі гора
Мы з табой нядаўна.

Я цябе пакіну
На вольную волю,—
Даляцець да сонца
Мяне кліча доля.

Паляту я, трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Дзе воблакі ходзяць,
Плаваюць дзе плаўна.

Даляту да зорак,
Вольная дзяўчына,
Стуль табе, мой мілы,
Адну зорку скіну.

І пашлю ад сонца
Табе прывітанне
Аб маім вялікім
Да цябе каханні.

Трактар, мілы трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Пахавалі гора
Мы з табой нядаўна.

З табою паедзе
Стаханавец новы,
Гэткі ўдалы, стройны,
Стройны, светлабровы.

З ім ты будзеш скарбы
Здабываць з зямелькі,
А ён будзе рады,
Як той рыцар нейкі.

Аба мне ён будзе
Думкі думаць міла,
Што з табой сядзела,
Сны дзявочы сніла.

Трактар, мілы трактар,
«Сталінец» мой слаўны,
Пахавалі гора
Мы з табой нядаўна.

*1936*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Жыві у радасці і ў шчасці,
У яснай долі, слаўнай волі,
Няхай праклятыя напасці
Цябе, брат, не крануць ніколі.

Хай сонца след табе карчуе
Да новых песень каласістых,
Хай кожны знае, хай пачуе,
Як мы йдзем сцежкай залацістай.

А дні былі, калі жылі мы
Ў нядолі, ў падняволлі цяжкім;
Жыла уся наша радзіма
Пад гнётам панскім і пад царскім.

Над Нёманам спяваць пачаў ты
У хаце курнай, загібелай
У час рэакцыі праклятай,
Пад скрогат шыбеніц, расстрэлаў,

Былі то песні смутку, жалю
Над сваім краем, над народам;
Свабодны вецер бліжай, далей
Разносіў іх у непагоду.

Ты помніш, помніш, Колас мілы,
Як я к табе ішоў у госці,
У час той подыху магілаў,
У час бяссільнай помсты, злосці.

Княжацкі бор шумеў пакутна,
Як нашы песні таго часу,

Пужалі зверы штомінутна,
Душа не бачыла папасу.

Княжацкі бор шумеў, а Нёман
Мне да цябе дарогу значыў,
Блішчэлі зоры, чуўся гоман
Над Нёманам, змяшаны з плачам.

Сягоння пешкі мы не ходзім,
А на машыне ў госці едзем.
Княжацкі бор, пужаць нас годзе.
Не страшны князевы мядзведзі.

Ды веру: хутка, незадоўга,
У непрымушанай ахвоце,
З табой нябеснаю дарогай
Мы паляцім на самалёце.

Мы паляцім над Нёман сіні,
Над бор, ад князя ўжо свабодны,
Заглянем, хто жыве ў хаціне,
Дзе жыў ты, брат, з жыццём нязгодны.

Стуль паляцім мы і да Вільні,
Дзе хлеб і соль дзялілі спольна,
І ўсё агледзім вокам пільным
У Вільні, ўжо савецкай, вольнай.

Жыві у радасці і ў шчасці,
У яснай долі, слаўнай волі,
Няхай праклятыя напасці
Цябе, брат, не крануць ніколі.

Шляхі нам партыя да зораў,
Да небывалых цудаў знача,—
Народ не знае болей гора,
Народ раскованы не плача.

Гудкі на фабрыках, заводах
Гудуць гудліва, безустанна.
Заваяваную свабоду
Рабочы люд не дасць спаганіць.

Калгаснік — а мужык нядаўна —
Паходкай пахаджае гордай,

Зямлю парадкуе аддана,
І ў Сталіна ён верыць цвёрда.

Дык хай жа песні з лета ў лета
Твае мкнуць, Колас, вольнай хваляй
І кажуць людзям, кажуць свету,
Як тут кіруе мудры Сталін.

*1936*

## ІСПАНІЯ БУДЗЕ СВАБОДНАЙ

Зараза ў Севіллі, ў Грэнадзе,
На трупы плююць генералы,
Іспанія корчыцца ў здрадзе,
Бушуе фашыстаў навала.

Шалее разгул інтэрвентаў,
Зладзейскія цягнуцца лапы,
Рэспубліку, волю дашчэнту
Утрупіць мяркуюць сатрапы.

Італія шле самалёты,—
Хай гінуць іспанцы, іспанкі,
Германія шле кулямёты,
Падводныя лодкі і танкі.

У Лондане лорды плімуты
Разводзяць свае працэдуры,
Смяюцца з народнай пакуты,
Спраўляюць народу хаўтуры.

Лунае крывавае сонца,
Крывёй абліліся загоны.
Да бою ўстаюць каталонцы,
Стальныя ідуць батальёны.

Выходзяць з Астурыі горнай
У бой гарнякі за свабоду.

Народ не падставіць пакорна
Сваіх плеч фашысцкаму зброду.

А рэжа і дзетак, і матак
Мяцежнікаў чорная зграя.
О, смерць вам бандыты і каты,
Магілы вам помста капае!

Гатовы Мадрыд к абароне
За шчасце, за ясную долю.
Рэспубліка ў горы сягоння,
Рэспубліка выйдзе на волю!

Змяце інтэрвентаў навалу,
Змяце мецяжы гнеў народны;
Расквецяцца долы і скалы,
Іспанія будзе свабоднай!

*1936*

## ТАБЕ, ПРАВАДЫР...

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход...

*(З пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну)*

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Бо хто калі думаў, што я жыці буду,
Як птушка, як вецер над нівай квяцістай,
І дзівам дзівіцца вялікаму цуду,
Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.

Што ты, правадыр, нібы яснае сонца,
Мне вочы адкрыеш на землі і неба...

Свяціся ж ты, сонца, ў мае век аконца!
Вітаю цябе я і соллю, і хлебам!

Выходзяць на поле плугі,
Ўзнімаюць плугі дзірваны.
Ні пана няма, ні слугі,
Не гоняць народ бізуны.

Зярняты свабодны сявец
З сяўні сее ў пульхны загон.
Махае касою касец,
Пазбыўшы галодны прыгон.

Шасцяць у калоссі сярпы,
Сцяною дабро залягло,
Кладуцца снапы у снапы,—
Такога жніва не было.

Звініць песня ў полі, звініць,
Уторыць сярпу і касе,
Бурліцца вадзіца з крыніц,
Купаецца сонца ў расе.

Цвіце, каласіцца мой край,
*Ці сонейка захад, ці ўсход.*
Спявай, маё шчасце, спявай!
Спявай, беларускі народ!

*

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Зірнуць жа на годы, на час мой мінулы,
На край, адкуль веяла цемрай, трывогай,
Дзе люд каталі ўраздроб і агулам,
Дзе блукала крыўда ўтаптанай дарогай.

Туман засцілаў людзям душы і вочы,
З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы.
І думаў — канца не дазнаць гэтай ночы,
І думаў — не зведаць шляхоў чалавечых.

Ты, мудры, прыйшоў, правадыр,—
Апалі туманы, імгла,
Па свеце і ўдоўжкі, і ўшыр
Шчаслівая слава пайшла.

З туманаў, з імглы, з цемнаты
Паўстала краіна мая,
А быў жа туман той густы,
Была ж доля — злая змяя!

Паўстала радзіма. Замок
Няволі зламала навек,
Надзела з пралесак вянок
І слёзы сагнала з павек.

Глядзіш — для яе, маладой,
Ткуць кросны атласы, шаўкі,
Паважнаю ходзіць хадой,
Шуршаць залатыя пяскі.

Цвіце, каласіцца мой край.
*Ці сонейка захад, ці ўсход,*
Спявай, маё шчасце, спявай!
Спявай, беларускі народ!

*

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Што гэткае ўстане жыццё прада мною
Маё і маёй раскаванай радзімы,
Што справы тваіх дум адна за адною
Так зменяць удала мне вёснамі зімы!

Глядзяць мае вочы і вокала бачаць,
Як дзіва за дзівам ідзе ў нашы хаты,
І слухаюць вушы гул песень юначых,
І цешыцца сэрца з вялікага свята.

Іскрыцца пад молатам сталь,
А молат не біў так калісь.

А гордыя сокалы ўдаль!..
А гордыя сокалы ўвысь!..

Па моры плывуць караблі,
Плывуць паміж рыфаў і скал.
А рэчкі іначай ляглі,
А лёг за каналам канал.

Дзе вечная пустка была,
Там горад паўстаў і расце,
А стужкай чыгунка лягла,
Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.

Агні, аганькі, дзе зірнеш,—
Не страшны канавы і вір...
То свецяць, не знаючы меж,
Паходні твае, правадыр.

Цвіці ж, каласуйся, мой край,
*Ці сонейка захад, ці ўсход!*
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

*

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Тваіх, правадыр мой, законаў асновы,
Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы
Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы,
Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.

Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні,—
Законы ж твае, нібы светач нязгаслы,
Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням,
Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.

Шчаслівы наблізіцца век,
І над чалавекам ужо
Не будзе стаяць чалавек
Гадзюкаю, п'яўкай, смаўжом.

Не стане тых меж і граніц,
Што дзеляць народы сабой,
Заціхнуць гарматы байніц,
Не ўгнояцца нівы крывёй.

Не будзе, не будзе тады
Вайны, калатні між людзей;
Дзяўчына, юнак малады
Не зложаць без часу касцей.

На шчасце, на радасці ўзлёт
Збуцвелы разваліцца тын,
Адчыняцца дзверы варот
Да працы, да ведаў вышынь.

Цвіці ж, каласуйся, мой край,
*Ці сонейка захад, ці ўсход!*
Аб Сталіне песні спявай!
Спявай, беларускі народ!



Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы...

Што яваю станецца сон міліёнаў,
Цудоўныя казкі ў жыццё ператворыш,
Абсееш пасевам жывучым загоны
І сцежкі наметіш да сонца і зораў.

На небе — Шлях Млечны, на небе — вясёлкі,
На гонях красуе пшаніца і жыта...
Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі
К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!

На сход, незвычайны свой сход,
Да новых нявіданых дзён
Ідзе наш савецкі народ
З далёкіх і блізкіх старон.

Ідзе, ўвекавечыць ідзе
І долю, і праўду сваю,

Каб воля жыла ў грамадзе
І цешыла вольных сям'ю.

Засядзе народ у Крамлі
Кліч кінуць на цэлы бел-свет,
Пацвердзіць для роднай зямлі
Свой сталінскі вечны завет.

Кліч пойдзе аб сходзе да хат,
За тыя капцы, рубяжы,
Дзе путы валочыць мой брат,
Дзе значаць дарогу крыжы.

Цвіці ж, каласуйся, мой край,
*Ці сонейка захад, ці ўсход!*
Аб Сталіне песні спявай!
Спявай, беларускі народ!

*1936*



# 1937

## МАЛА ІХ ПАВЕСІЦЬ...

*Да працэса над бандай трацкістаў-дыверсантаў*

Мала іх павесіць
На сухой асіне,
Бо нават асіна
Ад сябе адкіне.

Дзерава адкіне,
Дзерава сухое
Сябе не спаганіць
Поскуддзю такою.

Прадавалі немцу,
Немцу ды японцу
Нашую радзіму,
Долі нашай сонца.

Пятакоў і Радэк,
Троцкі — ўся арава —
Хлёбалі, зладзюгі,
З адной міскі страву.

Страву, што ім Гітлер
Варыў смачна, ласа,
Страву, што мікада
Запраўляў закрасай.

Гандляры айчынай
Па чужым заказу...
Вынішчыць дашчэнту
Гэтую заразу!



Ураздроб, агулам
Намі гандлявалі —
Па цане даступнай,
Па цане крывавай.

Дынаміт і порах
Запускалі ў дзела,—
На шматкі хай рвецца
Народнае цела!

Плача горка ўдоўка,
Плача горка маці
Па забітым мужу,
Спаленым дзіцяці.

Спіце вы, нявінна
Згінуўшы, афяры!
Пакараем катаў
Самай лютай карай!



Пятакоў і Троцкі,
Муралаў і Радэк
Пакінуць хацелі
Царскі нам парадак.

Не вам, інтэрвенты,
Шпегі, дыверсанты,
На прыстані нашы
Выпускаць дэсанты.

Не вам край савецкі
Знішчыць, крывапіўцы...
У нашых чэкістаў
Зоркія зраніцы!



Шастоў, Ліўшыц, Радэк,
Пятакоў, Муралаў,—
Растаптаць, як гнідаў,
Вас, звяр'ё, замала!

Нахай жа ў зямлі вам
Не будзе спагады

За ваша зладзейства,
За вашыя здрады.

Хай калом магіла
Для вас, злыдні, будзе,
Каб гэтай магілы
Цураліся людзі!

Каб гукалі совы
Па-над вамі, псамі,
Косці расцягалі
Груганы з ваўкамі!



Чуй, народ савецкі,
Чуй, мая радзіма!
Сваёй долі, волі,
Чуй, не аддадзім мы!

Будзеш векі жыці,
Зямелька Саветаў,
На радасць, на шчасце
Працоўнаму свету.

Ворагаў зніштожыш,
Хатніх і замежных,
Сонцам апранешся,
Як табе належна.

Мы ідзем наперад
Пераможна, ў сонцы...
Глядзіць яно ярка
Ў нашыя аконцы.

Засяваць мы самі
Будзем нашы нівы,
Збіраць самі будзем
Ураджай шчаслівы.

Хай пад сонцам знаюць
Чым мы сёння сталі...
Мы падставім грудзі
За цябе, наш Сталін!

*1937*

## НА ТЭМУ КРЫТЫКІ І САМАКРЫТЫКІ

У век наш крытыкі сур'ёзнай
І самакрытык агнявых
Мы падыходзім вельмі грозна
Не да сябе, а да другіх.

Пылінку бачым у суседа,
Ды што? — ў яго іх не адна!
А ў сваім воку, даўнім следам,
Не заўважаем бервяна.

Без лішніх захадаў, ухмылак
У канкурэнта на вынос
Мы столькі вылічым памылак,—
Таму хоць рэжся, як з пагроз.

Самабічуемся ж часамі,
Але злягка — гады ў рады,
Ды ўсё больш хвалім сябе самі,
Другіх бічуем заўсяды.

Куды ім лезці да Парнаса? —
Дзе тыцнеш — хіба ці захіл...
Ах, падпякаем смачна, ласа
Таго, хто нам чамусь не міл!

Вось я — пясняр, я — літаратар,
Я толькі песняй твару цуд,
А ён... агіткі агітатар,
Насценгазетчык, і ўсё тут...

Пазбыцца рапаўскіх заскокаў
Мы не навучыліся як след
І часта судзім аднабока
Другіх, саміх, падзеі, свет.



А крытыкі?.. Майстры з разборам,—
Не ўзнімуць воч вышэй халяў;
З гразёй змяшае, што йшчэ ўчора
Так падхалімна выхваляў.

Не азірнуўся — ўлез у нерат,
Тандэтны разваліўся мост,
Глядзіць, мычыць,— ні ўзад ні ўперад,—
Управа, ўлева круціць хвост.

Глядзіць. І што? За розум розум
Заскочыў туга, неўпапад.
Чаго ж не ўцяміць і цвярозым
Напіша — й сам смяецца, рад.

О, крытык, грызапёр мой бедны!
Чытач, яго ты пажалей:
Не месціць, брат, яго лоб медны
Ні прынцыпаў тых, ні ідэй.

Як баба на куццю, варожыць,
Аб кім, аб чым, што, як сказаць,
Каб сам сябе не растрывожыць
І ўгнаць другога ў рай ці ў гаць.



Мы дукі, гранды, інжынеры
Складаных чалавечых душ.
Якой жа мерым душы мерай,
Чаму ў пісанні ціш ды глуш?

Зірнеш. Брыдзе сабе фігура:
Мо ён чарняў, мо белабрыс...
Згадай, што гэта за натура? —
У снах аб почасцях закіс.

Нічога ж слаўнага не даўшы
Сваёй краіне, грамадзе —
У гонар лезе, грозна страша
Курэй на цётчынай градзе.



Мы інжынеры... А не ўмеем
Рамантаваць сваіх жа душ,—
Дзе цвік загонім, дзе падклеім,
І во іграй, музыка, туш!

Іграй мне славу! Пішу вершы,
Раманы, драмы і сцэнар.
А ці падумаў лепшы-першы,
Як прыме гэта гаспадар?

Той гаспадар, што сее зёрны,
Што косіць, жне, дае нам хлеб,
Што сталь гартуе ў кузні горнах,
Што раскаваў цямніцы склеп.

О так, мае вы — для паказу —
Празаікі і песняры!
Народ пакліча да адказу,—
Ваду жбан носіць да пары.

На службу вам зямля і неба
Даны,— адно пішы з душы.
Якога ж чорта йшчэ вам трэба?
Якой чакаеце імшы?!

Не спяць шляхі, жыццё не дрэме,
Шасціць над рэчкай ясакор.
Нам сонца кажа, хто мы, дзе мы,
Іскрыцца ў зорах кругазор.

Дні йдуць вялікай гадавіны,
А мы йшчэ з места ані руш,
Мы — інжынеры у галінах
Складаных чалавечых душ.

Ідуць па свеце гулы, шумы,—
Заснуць няма каму калі,—
Ідуць і твораць песні-думы,
Красу і радасць на зямлі.

Цвітуць пад нашым небам вёсны,
Спявае збуджаны разлог.
Жыццё шаўковыя тчэ кросны
Шчаслівай долі й перамог.

*1937*

## МАЙ

Да нас у госці май прыходзіць,
А з новым шчасцем кожны год,—
Заводзіць песні ў карагодзе,
А ў карагодзе сам народ.

Жалобай думкі аб мінулым
Замітусяцца ў нас падчас,—
Наскочыць радасць гудам-гулам,
І май наш повен ясных крас.

Гармонік рэжа, бубен б'е...
Гэй, грай, музыка, ў родны тон
І аб мінулай барацьбе,
І аб здабытках нашых дзён!



Да нас у госці май прыходзіць,
Як не прыходзіў у вяках,—
Спявае песні аб свабодзе
На полі, ў моры, ў рудніках.

Спявае дзецям калыханкі,
Прыгожыць кветкамі сады,
Вядзе сялянаў і сялянкаў
На шлях шчаслівы, малады.

Бурляць крыніцы, бор шуміць,
Рунее зелена загон.
Як не спяваць тут, як не жыць
У казках-былях нашых дзён!..



Да нас у госці май прыходзіць,
Як той старанны гаспадар,—
Глядзіць, як поле наша родзіць,
Ці ўзнялі ўвесь мы свой папар.

І бачыць, як за год звычайны,
Што адлічыў свае ўжо дні,

Была ў нас праца ураджайнай,
Аб чым наш продак і не сніў.

І танк, і трактар, і камбайн
Пасведчаць, што гэта не сон.
З лясоў, капальняў і палян
Дабро йдзе к нам — скарб нашых дзён.



Да нас у госці май прыходзіць
І аглядае рубяжы,
Дзе пагранічнік наш не зводзіць
Вачэй з варожае мяжы.

І вокам бача май празорным:
Жывём спакойна ля граніц,
Спакойна сеем збожжа зёрны,
Спакойна п'ем ваду з крыніц.

Зямлі, людзей і родных хат
Нікому не дамо ў палон,
Не апаганіць вораг-кат
Шчаслівых, вольных нашых дзён.



Да нас прыходзіць май у госці
І бачыць, як той яснавід,—
Стаім скалою на фарпосце,
Заставы нашы, як граніт.

Сталёвая пільнуе варта
Спакой савецкае зямлі,
Байцы не дрэмлюць поўны гарту,
На крыллях — нашы патрулі.

Хай жа руку на нас, як гад,
Падыме вораг-ліхадзей,—
Не вернецца жывым назад,—
Свабодных не скаваць людзей!



Да нас прыходзіць май у госці
І ўспамінае ў свята свят
Герояў, што злажылі косці
У бітвах за савецкі лад.

Шумяць над імі ясакоры,
Шасцяць чырвоныя сцягі,
Унуку дзед свайму гавора,
Хто у магіле спіць такі.

Бы срэбрам выснутую ніць,
Унуку думкі дзед снуе,
Як трэба волю бараніць,
Як уміралі за яе.



Прыходзіць май дваццаты ў госці,
А з падарункамі ідзе,
Уцеху буйнай сыпе горсцю
Святочна ўбранай грамадзе.

Ён Канстытуцыю прыносіць —
Веквечны сталінскі закон —
Для нас, для ўсіх, хто сее, косіць,
Для ўсіх народаў і старон.

Лісты дубовы й каласы
Наш родны аздабляюць герб,
На ім нявянутай красы —
І молат, і сталёвы серп.



Да нас прыходзіць май у госці,
А вые дыверсант, трацкіст,
Рве валасы ў звярынай злосці
Крывёй абрызганы фашыст.

Бушуйце, каты! Нам зараза
Не страшна ваша й ваш разбой...

Смяемся з маем нашым разам
І весялімся грамадой.

Гармонік рэжа, бубен б'е...
Гэй, грай, музыка, ў родны тон
І аб мінулай барацьбе,
І аб здабытках нашых дзён.

*1937*

## СВЯТОЧНЫЯ ВЕРШЫ

### I

Не пра быўшае кайданнае
Гэту песню я складаю,
А пра з'яву нечаканую,
Што сягоння шчасна маем.

Не пра турмы, здзекі царскія,
Мукі люду і народаў,
А пра волю пралетарскую,
Залатыя нашы годы.

Не пра цемру беспрасветную,
Што людзям сляпіла вочы,
А пра яснасць зорнацветную,
Што развеяла нам ночы.

Не пра беднасць беспрытульную,
Гора вечнае, жабрацтва,
А пра наша ўсеагульнае
Неабсяжнае багацтва.

Не пра ненавісць, што гадамі
Нас давіла цяжкім грузам,
А пра дружбу між народамі
Усяго нашага Саюза.

Не пра сны з цяжкімі зморамі,
Што цягнулі нас у нерат,
А пра сталінскі пад зорамі
Сонечны паход наперад.

Не пра быўшае кайданнае
Гэту песню я складаю,
А пра з'яву нечаканую,
Што сягоння шчасна маем.

II

Ідзе гоман урачыста,
Ідзе з хаты ў хату,
Ідзе з песняй агнявістай
Аб вялікім святу.

Дваццаць год святкуем сёння
Магутных праяваў,
Край Савецкі ўвесь гамоніць
Бальшавіцкай славай.

Ідзе гоман расспяваны
Далёка ў прасторы,
Дзе льдзяныя акіяны,
Дзе цёплыя моры.

Мы святочна сходы клічам —
Вольныя, ў бясстрашшы —
Канстытуцыю ўзвялічым
Сталінскую нашу.

Ідзе гоман пушчай, борам,
Ідзе лугам, полем,
Развіталіся мы з горам,
З нядоляй, з няволяй.

Мы ўраджай збіраці сталі
Буйны, небывалы,
Што нам Ленін, што нам Сталін
Засеялі дбала.

Ідзе гоман а крылаты,
Ідзе, не сціхае,

На вялікае на свята
  Народы склікае.

Так збыліся ў год — нямнога —
  Леніна заветы.
З новым шчасцем, з перамогай,
  Народзе Саветаў!

*1937*

## НАШАМУ ДЭПУТАТУ

І песні, і музыка, й людзі гамоняць
Ад фабрык да фабрык, ад хат і да хат.
Народ беларускі шчаслівы сягоння —
Клімент Варашылаў яго дэпутат!

Народ усім сэрцам, як роднага брата,
Шануе і любіць яго па-над свет.
І сэрца аддасць за свайго дэпутата,
Пасла-дэлегата ў Вярхоўны Савет.

У нашым Савецкім Саюзе не мала
Хто нам пазайздросціць, вось так, з дабраты,
Дык ведайце: маршал даўно ўжо і стала
Любіў Беларусь нашу й любіць, браты!

Калі ён, бывала, да нас на манеўры
Прыедзе агледзець капцы, рубяжы,—
О, колькі той радасці, колькі той веры,
Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!

Паважна старыя вітаюць наркома,
Падносяць хлеб-соль, каравaі і мёд.
І кветкі-вяночкі дзяўчаты, вядома,
Падносяць яму на шчаслівы прыход.

Наш слесар луганскі, Нарком абароны,
Засядзе ў Вярхоўным Савеце ад нас.
Краса нашай Арміі слаўнай Чырвонай,
Мы пойдзем з табою ў паходы не раз!

Бо час як надыдзе і гром бітвы ўдара,
І трубы затрубяць, паклічуць у бой
Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў
Народ беларускі паўстане з табой.

І песні, і музыка, й людзі гамоняць
Ад фабрык да фабрык, ад хат і да хат.
Народ беларускі шчаслівы сягоння:
Клімент Варашылаў яго дэпутат!

А сонейка будзе усходзіць, заходзіць,
Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.
Жыць будзе ў свабодным шчаслівым народзе
Імя палкаводца ад зорак да зор.

*1937*

## ПАМЯЦІ ДАГЕСТАНСКАГА АШУГА СУЛЕЙМАНА СТАЛЬСКАГА

Умíралі, будуць уміраці людзі,—
Такая ўжо доля, доля чалавека,—
А народ жыць будзе, песня жыці будзе,
Пакуль свет жыць будзе — ад века да века.

Ці там, дзе на скалах вольнага Каўказа
Днююць і начуюць арлы на свабодзе,
Ці там, дзе з пургою, з завірухай разам
Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць,—

Песня чутна ўсюды
Ў бязмежным прасторы,
Ці то дзень, ці ночка,
Ці сонца, ці зоры.

Хто стрымае хвалі
Мора-акіяна,
Хто стрымае голас
Песні раскаванай?!



У краіне гордай, горы дзе пад неба,
Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы,
Рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба
Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.

Гналі, высмявалі багачы і князі,—
Яго песні-думы былі ім не мілы.
У сваім ауле з гора не вылазіў.
У бядняцкай саклі шчасце не гасціла.

Ды мінулі годы
Бедаў і кайданаў,
Прыйшла радасць, воля
Ў хату Сулеймана.

Песні яго ў людзі
Выйшлі гулка, дзіўна,—
Ўдаўся у ашуга
Голас салаўіны.



Аб Сталіне мудрым, аб жыцці шчаслівым,
Што бурліць сягоння залатой крыніцай,
Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах
І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца.

Былі твае песні, ашуг Дагестана,
А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся,
І рэха ляцела дарогаю слаўнай,
Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.

Спі, пясняр наш родны.
Ты жыццё прыгожыў.
Аб табе таксама
Народ песні зложа.

Будзеш жыць ты ў сэрцах
Думкаю арлінай
На красу і славу
Роднае краіны.

*1937*

## ПЕСНЯ

Ой, рана, рана войска ўставала,
Войска ўставала, з песняй ішло,
Клім Варашылаў на кані ўдалым
Войска выводзіў у бой за сяло.

Бітва кіпела, не заціхала,
Кроў вызначала ў полі сляды,
Белагвардзейцы, іх генералы
Беглі, ўцякалі а хто куды.

Страх, суматоха ў варожым стане,
Біліся нашы не абы-як,
Белапалякі ды англічане
Ох, будуць помніць нашых ваяк.

Ой, рана, рана войска ўставала,
Войска ўставала, з песняй ішло,
Клім Варашылаў на кані ўдалым
Войска з паходу вёў у сяло.

Музыка йграла, як спатыкалі,
І чырванелі ў сонцы сцягі,
Ціха байцы тут успаміналі
Пройдзены імі сцежкі-шляхі.

Бойкі заціхлі, сціх гул гарматаў,
А за мяжою вораг не спіць:
Точыць ён шаблі, точыць заўзята,
Хоча крыві йшчэ нашай папіць.

Ой, рана, рана войска паўстане,
Войска паўстане, пойдзе ў паход,
Клім Варашылаў ўперадзе стане,
Ўперадзе стане за свой народ.

*1937*

## ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ

*(5 снежня)*

Дзень Канстытуцыі сягоння,—
Вялікі дзень, святочны дзень!
Народ, што быў вякі ў прыгоне
І блукаў без пуцця, як цень,—
Ён вольны гаспадар сягоння.

Смяюцца з сонцам побач людзі,
А сонца — госць штодзённы іх,
Бо што было, ўжо больш не будзе,—
Ні марных сноў, ні бед ліхіх...
Шчаслівыя вы, нашы людзі!

Ідзе па белым свеце слава,
Шуміць разбуджаны прастор.
І над Савецкаю Дзяржавай
Святлей яснее чырвань зор.
Каб больш расла йшчэ наша слава!

Ідзе жыццё чароўнай казкай,
Душу абвіў цудоўны чар.
На свет глядзяць з вясёлай ласкай
Дзяўчына, хлопец, мал і стар,
Бо стала явай, праўдай казка.

Іграй, музыка, гулка, громка!
Дзяўчына, песні нам спявай!
Не пойдзе жабраваць з катомкай,
Як некалі, наш родны край.
Спявайце ж, грайце гулка, громка!

Так мудры Ленін, мудры Сталін
Прыдбалі долю для людзей,
Адкрылі сонечныя далі,—
Адно да дна піць шчасце ўмей,
Як вуча Ленін, вуча Сталін.

Дзень Канстытуцыі сягоння,—
Вялікі дзень, святочны дзень.
Народ, што быў вякі ў прыгоне
І блукаў без пуцця, як цень,—
Ён вольны гаспадар сягоння.

*1937*

## ВЫБАРЫ

*(Малюнак)*

I

Запыталіся ў Галінкі,
У малой дзяўчынкі:
— Што сядзіш ты, Галя, ў хаце,
І не йдзеш гуляці?

— Пайшлі ў госці мама, тата,
Голас свой панеслі,
Ну, а я пільную хату,
Сяджу сабе ў крэсле.

Мяне ўзяць з сабой прасіла,
Але ўзяць не ўзялі,
Адно кажа мамка міла:
— Ты йшчэ сходзіш, Галя.

Во, глядзі сама ў аконца,
Гуляючы дома.
Свой за Сталіна, за сонца,
Голас панясём мы.

Ды йшчэ кажа, што малая,
Урны не дастану...
Што ж такое,— пачакаю,
Пакуль большай стану.

Пройдзе зімка, пройдзе лета,
Як сказаці слова,
Дачакаюся я гэтак
І выбараў новых.

Будуць рады татка, мама,
Калі падрасту я,
І за Сталіна таксама
Я прагаласую.—

І ў Галінкі-дзіцяняткі
Ад такой гаворкі
Ажно йскрацца вачаняткі,
Нібы ў небе зоркі.

II

— Куды йдзеш ты, мая бабка,—
Кажа ўнук бабулі,—
То сядзіць, не злазіць з печкі,
Цяпер, во, на гулі.

Сама ведае, што хвора,
Што баляць ёй грудзі.
Аддыхала б лепей дома,
Чымся пхнуцца ў людзі.

І бубніць, бубніць бабульцы
Ўнук сямігадовы.
А бабуля яму кажа,
Падбірае словы:

— Што ты ведаеш, Данілка,
Лепш пабудзь во ў хаце.
То ж на выбары іду я,
Голас свой падаці.

Сабе ўжо і дэпутата
Выбрала адразу —
Варашылаву свой голас
Аддам з сэрцам разам.

— Варашылава я знаю,
Сам я з ім вітаўся,
Ён, калі былі манеўры,
Ў нашым быў калгасе.

Ну, за гэтага дык можна,
Чалавек вядомы.
Галасуй ідзі, бабулька,
Я пабуду дома.

Варашылава я такжа
Выберу з часамі,
На сямі канях паеду
З сямю галасамі.

Сеў Данілка, выразае
Коніка з бярозкі,
Адно бліскаюць у вочках
Радасныя слёзкі.

*1937*

# СОНЕЧНАМУ
# ШАТА РУСТАВЕЛІ

Грузінка, і сонца, і снежныя горы,
Віно вінаграднае, месяц і зоры,
Шчаслівыя сонечна саклі, аулы...
О, колькі прастору для думкі для чулай!

У скалы мёд зносяць руплівыя пчолы,
Чабан грае песню на зурне вясёлай.
О, слаўная Грузія, Эльбрус герояў,
Як соладка жыці, спяваці з табою!

Тут казка і праўда жыве з Руставелем
У кожнае сакле, у кожным ушчэллі,
Арол недасяжны, мядзведзь неапеты
І барс быстраногі нам сведчаць аб гэтым.

Народ гераічны скрозь горы, даліны
Стагоддзямі з сэрцам радзімай краіны
Да нашага часу, да сталінскай славы
Данёс Руставелевы думы і справы.

Стагоддзі мінулі, йсці будуць стагоддзі,
А ў гордым, свабодным грузінскім народзе
Для песень, для шчасця, хвалюючы грудзі,
Як быў Руставелі, так вечна жыць будзе.

Каўказскія казкі, як ласка дзявоча,
Далёка, прывабна, скрозь сонца, скрозь ночы,
Разносяць па свеце людскія прыселлі
І думы, і сказы, што даў Руставелі.

Грузінка, і сонца, і снежныя горы,
Віно вінаграднае, месяц і зоры,
Шчаслівыя сонечна саклі, аулы...
О, колькі прастору для думкі для чулай!

*1937*



# 1938

## ГЕНАЦВАЛЕ

Снег бялееецца ў вышынях,
На гары, на стромкай скале,
Кветкі квецяцца ў даліне,—
Ў сонцы, ў кветках Генацвале.

Было люба мне ў Цхалтуба,
Ў жыватворнай цёплай цхалі,
Было люба, як галубіў
Цябе ў думках, Генацвале.

Ты лячыла ўсмешкай мілай,
Твае лекі чаравалі,
Сны чароўныя будзіла
Ты, грузінка, Генацвале.

Ой, паеду я далёка,
Сэрца сціснецца ад жалю,
Будзе сумна, адзінока
Без цябе мне, Генацвале.

Будуць сніцца скалы, горы,
Грузіі цудоўнай далі,
І адна ты з ясных зораў
Сніцца будзеш, Генацвале.

Эліко, маё світанне,
Смутна зоркі мне міргалі...
«Суліко» на адвітанне
Праспявай мне, Генацвале!

*1938*

## МЫ ЛЮДЗІ СВАБОДНЫЯ

Мы людзі свабодныя,
Вольныя птахі,—
Магутныя, грозныя
Крылляў размахі.

Зямлю непасціглую
Сэрцам пранялі,
Нябеснай валодаем
Сонечнай даллю.

І поўдні, і поўначы
Нам падуладны,
Калышам усходамі
Й захадам здрадным.

Змагаемся з громамі
Сілай нязмернай,
Пярун з бліскавіцамі
Служаць нам верна.

Шлях зоры крамлёўскія
Ў сонцы цярэбяць,
Ляцяць ясназорныя
Сокалы ў небе.

Мы людзі свабодныя,
Вольныя птахі,—
Магутныя, грозныя
Крылляў размахі.

*1938*

## ГРУЗІЯ

Грузія, дружная з сонцам краіна,
Як жа ты сэрца і думкі салодзіш!
Вочы тут бачаць цуды з'яў дзіўных,
Вушы тут чуюць напевы стагоддзяў.

Змерыў стагоддзі народ ваяўнічы,
Люд Цмерэцій, Кахэцій, Картэлій,
Песнямі скарбы радзімы вялічыў,
Вернасць і дружбу расціў з Руставелем.

Капае золата з праменем сонца,
Золата ў нетрах залегла скалістых.
Думы, ах, думы лунаюць бясконца,
Колькі да песень парываў агністых.

З сонцам гадуе зямля вінаграды,
Побач галіны цытрын, мандарынаў,
Там залатых памяранцаў прысады,
Бурныя рэкі ў квяцістых далінах.

Сокам чырвоным наліты гранаты,
Дружна, бы яблыкі, дрэва абселі.
Шастае лісце пахучай гарбаты,
Лісце і шоўкам калышацца ў белі.

Сумна было тут. Драмаў з сваёй славай
Горды народ, а з ім спала прыселле.
Сон прамінуўся,— сны сталіся явай,
Горы, лагчыны гуляюць вяселле.

Край абудзіўся. Жыццё забурліла,
Глянулі ў неба палацы свабоды.
Бурныя рэкі — жывая іх сіла —
Выйшлі на службу герою-народу.

Вецер свабоды гуляе па скалах,
Скалы абнялі арлы, арляняты.
Домік у Горах абвеяны хвалай,
Домік — не домік — бядняцкая хата.

Той, хто з няволі рабочы люд вывеў,
Новыя вызначыў свету скрыжалі,
Той, хто народы збудзіў, ашчаслівіў...
Ў доміку гэтым убачыў свет Сталін.

Грузія, дружная з сонцам краіна,
Як жа ты сэрца і думкі салодзіш!
Вочы тут бачаць цуды з'яў дзіўных,
Вушы тут чуюць напевы стагоддзяў.

*1938*

## ТО НЕ РЫЦАРЫ З КНЯЗЕМ...

То не рыцары з князем
Шлі гурмой на войны,—
Гэта шлі ваякі
Арміі Чырвонай.

Пралятала слава
Па лясах, па полю,
Як свайму народу
Здабывалі волю.



Не нявольнікаў скутых
Толпы шлі па ночы,—
То ўставаў да працы
Вольны люд рабочы.

З дымаў, з папялішчаў
Выйшаў ў свет са славай,
Ворагаў зніштожыў,
Збудаваў дзяржаву.



То не вікінгі ў чоўнах
Выплылі ў паходы,—
То плывуць па хвалях
Нашы цеплаходы.

Плаваюць, бы тыя
Лебедзі ў азёрах,
Па сцюдзёных, цёплых
Акіянах, морах.



То не сокалы-птушкі
Вымыкалі ў далі,—
Гэта самалёты
Нашы вылятал.

Аблятаюць неба
Лётам небывалым,
Дзе людская думка
Векі не сягала.



То не новая зорка
Узышла на ўсходзе,—
Гэта Сталін шчасце
Засяе ў народзе.

Засяе рукою
Дбалаю, магутнай,
Толькі чутны песні,
Радасць толькі чутна!

*1938*

## ЧЫРВОНАЙ АРМІІ ПАХОДЫ

### I

Ты паслухай, наш маршал,
Аб мінулых нягодах,
Аб раз'юшаных маршах,
Аб крывавых паходах.

Жудка стане на сэрцы,
Калі ўспомніш сягоння,
Як цары-самадзержцы
Людзей гналі на бойню.

Як Вільгельма салдаты
І панят легіёны
Руйнавалі нам хаты,
Спусташалі загоны.

Наш народ катавалі —
Вешалі, калолі.
Ой, каб гэтай навале
Не паўстаці ніколі.

Заглушаў посвіст куляў
Салавейкаву славу.
Кукавала зязюля,
Не к дабру кукавала.

Пакідаў гняздо бусел,
Свае пожні і сосны,
Паляцеў, не вярнуўся
Ў тыя чорныя вёсны.

Так было нам нялёгка,
Дарагі Варашылаў,
У той час недалёкі —
Час крыжоў і магілаў.

Беларусь пад панамі,
Пад жандарам і царам
Палівала слязамі
І крывёю папары.

II

Ой, гула завіруха
 Гулам-шумам,
Ты падумай, брат, толькі,
 Ты падумай.

Гэткае ты не знойдзеш
 Век часіны
Ні ў тых казках-баладах,
 Ні ў былінах.

Кроў, брат, наша лілася,
 Мглою вісла
Над Амурам далёкім
 І над Віслай.

След губляла кроў наша
 Ў моры Чорным,

Ў Белым моры губляла
    Непакорна.

Адусюль налягалі
    Скарпіякі,
І смакталі кроў нашу,
    Як вужакі.

Генералаў і князяў,
    Як той гразі,
І паноў і панятаў,
    Як шчанятаў...

І, здавалася, згасла
    Ў небе сонца,
Англічане, германцы
    Ды японцы.

І мячамі Пілсудскі
    То ж ляскоча,—
Ён ад мора да мора
    Польшчы хоча.

Не было канца-меры
    Ліхам, бедам,
Кастыляў, як здань тая,
    Голад следам.

Ой, гула завіруха
    Грозным шумам,
Ты падумай, брат, толькі,
    Ты падумай.

III

Загудзелі гулка трубы,
    Паўсталі народы,
Пайшлі Арміі Чырвонай
    Слаўныя паходы.

Біла наша войска злыдняў
    Днём і ноччу ўдала —
Акупантаў, інтэрвентаў,
    Князяў, генералаў.

І ўцякалі, дзе папала,
Са страхам вялікім,
Скарападскі і Пятлюра,
Калчак і Дзянікін.

І паны ўцякалі жвава
Да сваёй Варшавы,
Збаляваўшы ў Беларусі
Свой банкет крывавы.

Ідзе армія з паходу
Пад сцягам чырвоным,
Шляхі сонца асвятляе,
Кветкі б'юць паклоны.

Ідзе войска, сцягі ўюцца,
Кроў бурліцца ў жылах,
А паперадзе ўсіх едзе
Сам Клім Варашылаў.

IV

Як ішлі ў паходы
Нашыя ваякі,
Сум стаяў у полі,
Бор зялёны плакаў.

Кроў лілася рэчкай
Арміі Чырвонай,
Па дарогах-сцежках,
Па глухіх загонах.

Пелі кулямёты,
І гарматы пелі.
Не адзін ваяка
Ў вечнай спіць пасцелі.

*

Як змаглі ваякі
Ворагаў праклятых,
Пасыпалі кветкі
Дзеці і дзяўчаты.

Пасыпалі кветкі,
Дзе ішлі малойцы,
А на ясным небе
Цешылася сонца.

Сам таварыш Ленін
Спатыкаў ваякаў
Бальшавіцкім словам,
Казаў войску — дзякуй!

V

Прагрымела слава
Блізка і далёка —
Ад муроў Варшавы
Да Уладзівастока.

Слава прагрымела,
Жыве далей слава
Нашай долі, волі
У сонечных праявах.

Абымае сонца
Маладыя ўсходы,
Не марнуюць люду
Буры, непагоды.

Пад кнутом не гнёмся
Змалку да магілы,
Не дратуе поля
Варожая сіла.

Капыты не топчуць,
Як таптали здаўна,
Вясны ў кветках нашай,
Восені ўраджайнай.

Пячом караваі
З пшанічнага цеста
І спяваем песні
Сталінскага зместу.

VI

Каваль быў луганскі,
А сталь ён каваў
І песні-вяснянкі
Пра волю спяваў.

І слухалі песню
Загоны і бор,
Імчаў яе вецер,
Адносіў віхор.

Іскрыліся ў горне
Агніста вуглі,
А іскры далёка
Ляцець не маглі.

Біў молат магутна,
Як гора, як гнеў,—
Кавадла звінела
І молат звінеў.

І кузня звінела,
Аж рэха йшло ў даль...
І выкаваў волю,
Як іскру, як сталь.

*1938*

## СМЕРЦЬ ЗАБОЙЦАМ А. М. ГОРКАГА

Гэтакай подласці, гэтакай здрады
Свет і не чуў і не бачыў.
Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам,
Вынішчыць след іх сабачы.

Годы міналі, жылі яны годы,—
Іх за людзей палічылі,—
А яны, здрайцы вольных народаў,
Нож нам пад сэрца тачылі.

Мала падпалаў, ім трэба атруты,
Дай ім крыві па калені.
Смерць вам, жывыя нябожчыкі-трупы,
Смерць за пісьменніка-генія.

Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі
Хэўрай прадажніцкіх юдаў.
Дум тваіх радасных ясныя зоркі
Векі свяціці нам будуць.

Мы, згартаваныя сталінскай воляй,
Смерцю сатром людаедаў,
Пойдзем, як йшлі мы, у сонечнай далі
Ленінска-сталінскім следам.

*1938*

## ПАМЯЦІ МАКСІМА ГОРКАГА

Праспяваў сваю песню аб сокале,
Скалыхнуў белы свет буравеснікам.

Вачэй тваіх ясных зара-заранiца
Як ясна свяціла, так будзе свяцiцца,—
Ці то сярод вёснаў, ці то сярод зім,
Усім пакаленням, народам усім.

Шляхі-пуцявіны асветліваць будзе
У цёмныя ночы прыгнечаным людзям,
Каб з правільнай сцежкі не збіцца ў жыцці,
За шчасце, за волю наперад ісці.

Тваіх думак ясных, як яснае неба,
Як рунню квяцістай пакрытая глеба,
А ўзлётных, крылатых, як птушкі-арлы,
Ніхто не забудзе — ні стар, ні малы.

Твой голас сардэчны, а мілы, як струны
Пявучае ліры, спакойны, задумны.
Я слухаў яго, і мне сэрца расло,
Мы ўсе яго чулі... нядаўна было.

Ён клікаў ісці на шляхі, на дарогі,
Дастойныя сталінскай слаўнай эпохі,
Вачамі адкрытымі ў сонца глядзець
І звонкае слова тварыці, як медзь.

Мяне ты тады йшчэ заўважыў, мой сокал,
Калі была цемра і жудасць навокал,
І гора стагнала з капца да капца,
Здавалася, ночы не будзе канца.

Сваім зоркім вокам мяне ўсё ж прыкмеціў,
Забытага светам, людзьмі, ў беспрасвецці,
І песню маю спадабаў, пахваліў...
О, як жа тады быў я рад і шчаслів!

А песня была з беларускіх загонаў,
Аграбленых, скованых царскім законам.
Былі мае словы: — А хто там ідзе?
А ты быў магутны ў сваёй барацьбе.

Сягоння іначай — не стогне, не плача
Мой край раскаваны, багаты, юначы,
І песні свабодна звіняць з краю ў край,
Ці гэта на свеце кастрычнік, ці май?!

Народ беларускі, пазбыўшыся путаў,
Сваіх другаў помніць і кожнай мінуты
Цябе ўспамінае у думках сваіх,
Вялікага друга народаў усіх.

*1938*

## ДЖАМБУЛУ

Джамбулу я песню сягоння пяю,
Пад сэрца і думу настроіў сваю,—
Ляці, мая песня, ляці і спявай,
Суседа акына як след прывітай.

Джамбул, калі песню пускае ў палёт,
Аб Сталіне песню ў мільённы народ,—
Ад сонцаў усходніх у сонц агніве
Да сонцаў заходніх, бы ў вырай, плыве.

Джамбул, сізакрылы сталетні арол,
Бурліцца крынічна жыццё навакол,
Ці гром, ці маланка, ці грозны пярун,
Стаіш непахісна, дзён светлых вястун.

Джамбул, песнятворац, казахскі акын,
Народа казахскага сонечны сын,
Спявай, казахстанскіх стэпоў салавей,
Чаруючых песень і дум чарадзей.

Джамбуле, баяне савецкіх часін,
Калі песню кінеш з казахскіх далін,
Ляціць гэта песня па нашай зямлі
І водгук знаходзіць у самым Крамлі.

Джамбуле, баяне, хоць стар на гады,
А сэрцам, а песняй заўжды малады,
На сталінскіх крыллях ляціць песня ў свет,
А сонца да шчасця цярэбіць ёй след.

Джамбуле, баяне, шчаслівы акын
Сягочасных сталінскіх цудаў, былін,
Праз годы і долы, палі і лясы
Лятуць тваіх песень да нас галасы.

Джамбуле, баяне, магутны твой сказ
Аб дружбе народаў пяяў ты не раз.
Казах, беларус пяюць песні адны.
Радзімы адной арляняты-сыны.

Джамбулава песня ад ясных крыніц,
Джамбулава песня не знае граніц,
Не знаюць граніцаў пад небам арлы,
Лунаюць па светах скрозь ветры, скрозь мглы.

Джамбуле, у госці да нас прыляці,
Пабудзь хоць хвіліну у нашым жыцці.
Цябе прывітаюць шум сосен, бяроз
І кветкі-вяснянкі брыльянтамі рос.

Джамбулу я песню сягоння пяю,
Пад сэрца і думу настроіў сваю,—
Ляці, мая песня, ляці і спявай,
Суседа акына як след прывітай.

*1938*

## КАНДЫДАТАМ НАРОДА

Не аб сонцы, што нам свеціць
І зімой, і летам,
Не аб зорках, што міргаюць
Ночкамі над светам;

Не аб сяміцвет-вясёлках
Фарбаў негаданых,
Што красу ў сябе ўбіраюць
З мора-акіянаў;

Не аб снах, у якіх сніцца
Доля, шчасце людзям,
Не аб казках, дзе цудоўна
Цуд ідзе па цудзе,—

Мая песня сёння будзе
Радасцямі ройнай —
Аб любімых кандыдатах
У Савет Вярхоўны.

Хто з нас думаў, спадзяваўся,
Мой ты, родны браце,
Што такіх мы кандыдатаў
Будзем выбіраці.

Сталін, Молатаў любімы,
Слаўны Варашылаў,
Што зладзюгаў, інтэрвентаў
Загнаў у магілу!

Во каго мы ў дэпутаты
Па новым законе
У парламент беларускі
Выберам сягоння!

*

Сталін — друг наш, друг народаў,
Друг людзей, свабоды,
Колькі радасці прыносіць,
Шчасця ў нашы годы!

Яго мудрыя законы
Сонцам ясна ўзыдуць
Для вякоў, для пакаленняў,
Што ідуць, што прыйдуць.

Канстытуцыі векпомнай
Слова залатое
Напісаў нам добрым сэрцам,
Дбалаю рукою.

Звіні звонка, мая песня,
Ляці вышай, далей!
Беларускую дзяржаву
Збудаваў нам Сталін!



Нашым Молатаў славуты
Дэпутатам будзе,
Бо дзе лепшага мы знойдзем,—
Падумайце, людзі!

Ён дзяржаваю кіруе,
Ў крыўду не падасца,
Люд рабочы яго любіць,
Ворагі баяцца.

Чалавек ён гаспадарны,
Скажам смела ў вочы,
Аб рэспубліках савецкіх
Дбае днём і ночай.

Дзень і ноч працуюць дружна
Фабрыкі, заводы,
Землі родзяць ураджайна,
Буйней з кожным годам.



Варашылаў калісь войска
Вадзіў у паходы,
Інтэрвентам, акупантам
Не даваў праходу.

Біў, як мух, белагвардзейцаў,
Не даў ходу зброду,
І савецкую краіну
Вывеў на свабоду.

Яго ўжо мы выбіралі
Мінулага году,
А дні выбараў былі нам
Светлай асалодай.

А йшчэ скажам: як што прыйдзе,
Як нам зробяць шкоду,—
Стар і мал — усе з ім разам
Пойдзем у паходы.



Людзі ходзяць урачыста
У святочных строях,—
А з павагай, з санавітай,
Ходзяць як героі.

Людзі ходзяць, весяляцца,
Ў думках іхніх свята,
А на вуснах іх імёны
Слаўных кандыдатаў.

*1938*

## А Я ДУМАЎ...

А я думаў — сонца да нас не загляне...
Гора хадзіла ад хаты да хаты,
Пела жалейка бяду на кургане,
Сонца сляпілі цары, цараняты.

Рэдкае град вымалачваў калоссе,
Слёзы, нядоля — на печы, у сенях.
Густа жабрацтва па сёлах паслося,
Плесня, сухоты цвілі ў сутарэннях.

Помню я гэтыя жудкія часы,
Помняць Расіі народы,
Помняць бацькі і дзяды па калгасах,
Помняць бацькі і дзяды па заводах.

І я памыліўся. Бясстрашных не ўстрашыў
Трон златаверхі, сатрапаў малітвы.
Голасна коні заржалі на пашы,
Гвардыі смелых памчалі на бітвы.

Біліся доўга. У славе палеглі
Тысячы, можа, а можа, і болей.
Войскі варожыя з бойкі пабеглі,
Густа крывёю зліваючы поле.

Ворага выгналі, волю здабылі,
Ў гразь патапталі кароны і троны.
Весела трубы ў Крамлі затрубілі,
Сцягі ўзвіліся, як макі, чырвона...

Горад шчаслівы, шчаслівыя сёлы,
Льюцца крыніцы з вясновых праталін.
Шчыра, ад сэрца, з усмешкай вясёлай
Волю і шчасце гадуе нам Сталін.

*1938*

## АДНААСОБНІКУ

Што ты спіш? для каго?
Эх, аднаасобнік!
Адзіноцтву, бядзе
Дасужы падсобнік.

Дваццаць год, як за сном
Свету ты не бачыш.
Нібы курыца, ў цьме
Квокчыш ды кудахчыш.

Чуць карова і конь
Дыхаюць за плотам.

І чуць дыхаеш сам,
Вымазаны потам.

Во — калгас, вунь — калгас,
Людзі там як людзі,—
Ў грамадзе, ў яснаце
Вольна дышуць грудзі.

Трактар полем ідзе,
Ложыць скібу ў скібы,
А ў цябе тупы плуг,
Ці ж не бачыш хіба?

Засяюць а ў пару
Землі зернем чыстым,
Буйна руні растуць,
Гнуцца каласіста.

Во касцы грамадой
Косяць сенажаці,
Грамадой ураджай
Выйшлі жнеі жаці.

Гоман, песні плывуць
Гулка ад калгаса...
Ты маўчыш і глядзіш
На ўсё гэта ласа.

Яны ўперад ідуць
Шляхам бітым, ясным,
Ты пляцешся ў хвасце,
Збеднены, няшчасны.

Во на выбары йдуць
З сталінскім партрэтам,
Ты ж украдкай брыдзеш,
Як не сорам гэта?!

Што ты спіш? для каго?
Эх, аднаасобнік!
Адзіноцтву, бядзе
Дасужы падсобнік.

*1938*

## НА ВЫБАРЫ ВЫЙШЛІ...

Вялікая сталася ў свеце прыгода
Пад сталінскім сцягам удалым:
Заззяла ўрачыста свята народаў,
Якога ў вяках не бывала.

Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі
Па шумных дубровах і нівах,
Да сонца выходзяць шчаслівыя вёскі,
Наперадзе — горад шчаслівы.

Народ беларускі, таптаны вякамі,
Навекі пабратаўся з шчасцем,
Радзіму-краіну ўпрыгожыў садамі
Варожыя знішчыў напасці.

На выбары выйшлі. Пшаніца і жыта
Калышуць свой колас у колас.
І кожнаму хочацца яўна і скрыта
Аддаць свой за Сталіна голас.

Партрэт Варашылава ўбралі дзяўчаты
Ў чырвоныя кветкі-вяснянкі.
Свабодныя людзі! Вялікае свята!
Як хочацца жыць безустанку!

*1938*

## ЧАС БЫЎ ТАДЫ...

Час быў тады, калі ў поле
Плуг не выходзіў іржавы.
Хаты паліў на вуголле
Вораг — прыблуда з Варшавы.

Сейбіт не йшоў працавіты
Зернем абсеяць палетак...
Вытаптаў вораг і жыта,
Што сеяў сейбіт для дзетак.

Людзі, век ліўшы кроў з потам,
Гэткіх не зналі падзеяў...
Вылі сабакі за плотам,
Клікалі смерць ліхадзеям.

Дрогнулі пушчы, курганы
Супроць магнацкай навалы,—
Лесам пайшлі партызаны,
Помста на ворага ўстала.

А з-пад Масквы з-пад чырвонай
Войска ішло ўжо за войскам
Браць пад сваю абарону
Нашыя месты і вёскі.

І людзі выцерлі слёзы,
Раны свае загаілі.
Панскай не страх ім пагрозы,
Вораг больш іх не асіліць.

Сёння народ ачунялы
Стаўся заможны, багаты,
Сёння ён смела і дбала
Сее, збірае зярняты.

Вечнай не мучыцца смагай,
Сонца ясней яму свеціць,
Стаўся пад сталінскім сцягам
Знатным народам на свеце.

Радасць, як хваля на рэчцы,
Радасць плыве маладая.
Сталіну людзі ўсім сэрцам
Песні і думы складаюць.

*1938*

## ЯПОНСКІМ САМУРАЯМ

Грозіць мікада Саветам,
Хоча мікада вайны.
Ох, не зазнае прасвету,
Светлай не ўбача вясны.

Марш паграбальны сірэны
Зграюць яму на вайне.
Дым спаўе Токіо сцены,
Мора палацы глыне.

Разам з крывавай каронай
Скоціцца з плеч галава.
Будзе касцёр з яго трона,
Будзе калом булава.



Мы свае межы, граніцы
Пільна вартуем, глядзім.
Нашай свабоднай зямліцы
Ў крыўду, ў палон не дадзім.

Земляў чужых мы не хочам,
Землі ўбаронім свае.
Чорную сілу зламочым,
Хай толькі нас закране.

За кожную кроплю пралітай
Нашай нявінна крыві
Выльем крыві мы з бандытаў
Мора на іхняй зямлі.



Арміі нашай Чырвонай
Востра наточаны штык.
Порах сухім у патронах
Дзержыць баец-бальшавік.

Нашых гарматаў прыцэлы
Б'юць без прамахаў у цэль.

Бандзе сляпнёў азвярэлых
Смерцю пасцелюць пасцель.

Нашы арлы-самалёты
Ворагу сонца зацьмяць,
Злыя варожыя сілы
Бомбамі ўтопчуць у гаць.



І рыхтаваць не пасмее
Ўказаў мікада для нас.
Зброду японскіх зладзеяў
Выдадзім мы свой указ.

П'яных разнёй самураяў,
Храму фашыстаўскіх орд,—
Знішча ўсю гэтую зграю
Вольны савецкі народ.

Ліцца не будзе нявінна
Кроў па зямлі ручаём.
Будуць народы, краіны
Жыці шчаслівым жыццём.

*1938*

## ПАМРОКА НАД ПОЛЬШЧАЙ ЗАВІСЛА...

Памрока над Польшчай завісла,
Не спіцца ў палацах магнатам.
Крывава хвалюецца Вісла,
Бунтуе сялянства па хатах.

Бастуе галодны рабочы,
Гудкі на заводах чуць дышуць.
Цягнік адзінокі сіроча
Вагоны пустыя калыша.

Па вуліцах п'яных Варшавы
Снуюць прастытуткі і франты.
У думках аб рэзнях крывавых
Шабелькамі звоняць сяржанты.

Бельведэр ахутаны змрокам,
Начніцы вядуць гаспадарку.
Ў паліцыі бродзяць пад бокам
Чырвоныя здані па парку.

Скаголіць нядоля па сёлах,
Канае па местах галота.
Малебны ксяндзы па касцёлах
Спраўляюць за ўдовіны злоты.

На згорбленых кракаўскіх вежах
Надгробны час звоняць куранты.
Да нашых узброеных межаў
Паўзуць, як вужы, дыверсанты.

Зблякнее сцяг бела-чырвоны,
Апусціць арол белы крылле.
Груган пракрумчыць пахароны,
Завыюць ваўкі на магіле.

Няпамяццю будзе пакрыты
Дух панскі, нікчэмны, абшарны,
І панская Рэч Паспаліта
Мінецца, як прывід кашмарны.

*1938*

## ТРЫ АРЛІЦЫ

*Лётчыцам*
*самалёта «Родина»*

Ой, далёка заляцелі
Гордыя арліцы!
Даляцелі, палі-селі
Ў славе на зямліцы.

Тры арліцы-чараўніцы
Свет зачаравалі
І дадому, з свята быццам,
Вяртаюцца ў хвале.

А ляцець было нялёгка,—
Груган чорны пасвіў.
Шлях нязведаны шырока
Небяспекай слаўся.

Там — пад імі — нетры, пушчы,
Багнішчы, імшары,
А над імі — чорнай гушчай
Воблакі і хмары.

Ды адважных не спужалі
Ні груган, ні ночка,—
Паляцелі вышай, далей
Савецкія дочкі.

Цераз віхры, навальніцы,
У глухіх прасторах,
Шляхі значылі арліцам
Крамлёўскія зоры.

Ох, арліцы, добра лётаць
Сцежкамі такімі,
Дзе ляціць з тваім палётам
Сталінскае імя!

*1938*

## НАША МОЛАДЗЬ

Мілая моладзь, слаўная моладзь
Нашай бязмежнай краіны!
Горы і мора можаш ты здолець,
Сэрцам расплавіць ільдзіны.

Знала паходы ў цёмныя ночы,
Гіканне хеўры варожай,

Смерці глядзела ночамі ў вочы,
Ястраб начлегі трывожыў.

З гонарам выйшла, з яснаю славай,
Сёння грыміш перамогай,
Перад табою ў зорных праявах
Сцелецца к сонцу дарога.

Вёсны прыходзяць, вёсны адходзяць,
Моладзь красуе заўсёды,
Слаўная вечна ў вечным народзе,
Славу будуе з народам.

Весела квеціцца ў небе вясёлка,
Скрозь хмары-воблакі свеціць...
«Я — камсамолец! Я — камсамолка!»
Хто лепей скажа на свеце?!

*1938*

## А МЫ САБЕ СЕЕМ І СЕЕМ...

### I

А мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу, і радасць, і кветкі;
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

---

Гудкі нашых фабрык, заводаў
Складаюць нам песні і думы;
І сэрцы прастoрам, свабодай
Калышуць нам трактараў шумы.

Шляхі нам далёка, адкрыта
Ляглі ва ўсе свету староны;
На шлях, ружай-кветкай спавіты,
Бяды не нашле груган чорны.

Стаіць наш страж на граніцах,—
Вартуе ад чорнай напасці

І нашы загоны з пшаніцай,
І наша вялікае шчасце.

І мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу, і радасць, і кветкі;
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

## II

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы,—
Судзіла доля шчасце на вяку,—
Збіраем кветкі папараці ўночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку.

Квяцістыя шырокія дарогі
Каберцам перад намі ў свет ляглі,
Заранкі сцелюць промені пад ногі
Па ўбранай па-святочнаму зямлі.

Для нас цвітуць сады і агароды
І жытнія звісаюць каласы;
Галубяць думкі, льюць нам асалоду
Жывою гутаркай бары, лясы.

Растуць, цвітуць сады і вінаграды,
У сонцы спеюць сочныя плады;
На травах сочных у лясных прысадах
Пасецца статак рослы, малады.

Багацце ў нашым маладым прыселлі
З павагаю засела на куце
І клапатліва, ў будні і ў нядзелі,
Пшанічны каравай для нас пячэ.

Мы, гордыя сваёю доляй, воляй
І добрай славаю паміж людзей,
Імкнемся з поглядам вакол саколім
Ды сочым бег тварэння і падзей.

Дзе пустка поруч з вечным ліхалеццем
Са зверам дзікім самапас жыла,
Паўсталі гарады і свету свецяць
Снапамі яркімі жыцця й святла.

Каналамі злучылі мора з морам,
Стан Волга абняла Масквы-ракі,
Плывуць па сініх караблі прасторах,
Плывуць, куды не плавалі вякі.

І над зямлёй販уем у высотах,
І над зямлёй лунаюць караблі,
Як мёд пчала збірае рупна ў соты,
Збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі.

Рэк быстрабурных воды запынілі,
Плацінамі скавалі іх гульню
І асвятляць моц далі воднай сіле
Электрыкай савецкую зямлю.

І там пайшла вада, дзе неба спекай
Высушывала поле і пасеў,
Дзе адно голад пасвіў чалавека
Ды дзіка вецер-сухавей свісцеў.

Збудзілася зямля і падзямелле,
Збудзілася, што спала доўгім сном,—
Пяскі сухія рунню зарунелі,
З-пад скал медзь палілася ручаём.

Ракой, фантанамі з зямлі б'е нафта,
Б'е стуль, скуль і не сніў прыгонны дзед,
І вугаль з-пад зямлі, з вугольных шахтаў,
У скірты сыпецца на белы свет.

Плыве, гудзе шум гулкі, будаўнічы
Па ўсёй краіне вольнай з краю ў край,
Зязюля годы радасныя ліча,
І песняй жаўранкавай звоніць гай.

З усмешкаю жыццю глядзім у вочы,
Жыццё нясе нам свой багаты дар,
Нясе, а сонцам развідняе ночы
Руплівы наш крамлёўскі гаспадар.

*1938*



# 1939

## СЭРЦА І ДУМКА МНЕ КАЖА...

Сэрца і думка мне кажа,
Гоманы кажуць на ніве,—
Песню маю той заўважыў,
Той, хто народы ўшчаслівіў.

Радасць хай будзе мне сведкай,
Свет няхай бача і людзі,—
Нібы цудоўная кветка,
Ордэн галубіць мне грудзі.

Ці сонцу ў вочы я гляну,
Ці ў вочы зорак свабодных,—
Будзе ён мне талісманам,
Зоркай маёй пуцяводнай.

Ленін на сэрцы шчаслівым,
Леніна ў сэрцы заветы,
Ясныя думак парывы
Песняй імкнуцца над светам.

Песнямі ўслаўлю сваімі
Наша жыццё маладое.
Раніцай, вечарам імя
Сталіна будзе са мною.

Вочы мне з часам самкнуцца,
Жвір мяне ўхутае цвёрды,
Жыць між людзей застануцца
Песня і Леніна ордэн.

*1939*

## ПАМЯЦІ ЭДУАРДА САМУЙЛЁНКА

Дружа мой, сокале ясны, крылаты,
Крыллі навекі апалі тваe,—
Ты ўжо не прыйдзеш на нашыя святы,
Голас твой песень для нас не спяе.

Слёзамі дожджык пальецца на грудзі,
Насып-магілку абсыпе расой,—
Слёзы высушываць сонейка будзе,
Сонейка будзе заўсёды з табой.

Восенню кветкі завянуць у полі,
Кветцы засохшай ізноў не цвісці,—
Думкі твае не завянуць ніколі,
Думкі аб нашым прыгожым жыцці.

*1939*

## ШЛЯХІ

*XVIII з'езду*
*партыі бальшавікоў*

З Масквы, з Крамля на ўсе староны
Ляглі шляхі, святлом усланы.
Па іх ідуць, ідуць мільёны
Людзей магутных, гордых, вольных,
Ідуць мільёны раскаваных.

Абапал — гарады і сёлы
Ў садах квяцістых, пладаносных,
У кветках нівы, горы, долы,
Шуміць вяселлем дзень вясёлы,
Шуміць людзям аб вечных вёснах.

Абапал — рэкі і азёры,
Па новых рэкі ходзяць ходах:
Да Балтыкі скрозь даль прастораў
Шлях Белае прасекла мора,
Здружылі моры свае воды.

Абняўшыся, як дзве сястрыцы,
Масква-рака і Волга шумам
Збіраюць да сябе крыніцы —
Ўсе з жыватворнаю вадзіцай —
І шумам будзяць, песцяць думы.

Дняпро і Церак, хоць далёкі,
Здружылі з Волгай мнагаводнай,
А быў да дружбы шлях нялёгкі,
Пакуль шлях новы лёг вясёлкай,
Крамлёўскай зоркай пуцяводнай.

Ідуць мільёны. Шлях не скрывіць
Ні ўсходні вецер, ні заходні.
Усходы буйныя на ніве
Азнакай на шляху шчаслівай,
Чырвоны ў сонцы сцяг паходняй.

Шляхі, шляхі зямлі радзімай!
О, колькі песень з сэрца рвецца!
Мінуліся ліхія зімы,
Другія зоры прад вачыма,
І па-другому б'ецца сэрца.

Масціў шляхі вялікі Ленін,
Шляхі шчасліваць мудры Сталін,
Каб з пакалення ў пакаленне
Людское з путаў вызваленне
Ў прамяністыя йшло далі.

З Масквы, з Крамля хадою ўдумнай,
Усенароднай, чалавечай,
Праз поле, поплавы, буруны
Ідзе, таварышы, камуна
На свеце шчасце ўвекавечыць!

*1939*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МАСКВА!..

Дзень добры, Масква, як вясна, маладая!
Дзень добры, крамлёўскія зоры!
Мы песню табе, Масква наша, складаем,
А песня аб шчасці гавора.

І песня гавора, як цяжка жылі мы,
Як чахлі ў прыгонныя ночы,
Як нас гадавалі галодныя зімы,
Як цемра сляпіла нам вочы.



Дзень добры, Масква, наша доля і воля!
З табою жыць радасна людзям.
Цябе не забудуць народы ніколі,
Як песні ніхто не забудзе.

Табе шлюць прывет нашы пушчы, крыніцы,
Калгасныя нівы і хаты,
Бо, дзякуй табе, маладая сталіца,
Мы хлебам і шчасцем багаты.



Дзень добры, Масква! Як жа ясна ты свеціш
На ўсе чыста свету староны.
Шляхі да шчаслівасці казачнай меціш
І пішаш, як сонца, законы.

Сама ў сонцы сонцам навек валадаеш,
Зганяеш туманы з прагалін.
Дзень добры, Масква, як вясна, маладая!
Дзень добры, крамлёўскія зоры і Сталін!

*1939*

## ВЕРАСЕНЬ МЕСЯЦ...

Верасень месяц абходзіў палеткі,
Птушкі не пелі, не квакалі жабы,
Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі,
Дружна капалі з раллі бульбу бабы.

Курна дыміцца ў хаціне лучына,
Ліпа шуміць адзінока над хатай,
Сажалка дрэме, заросшая цінай,
Гул далятае здалёку гарматаў.

Гутарка важная ходзіць па хаце,
Вецер за хатаю вее і вее.
З дзедам унук, побач бацька і маці
Селі, гамоняць, а з імі — надзея...

Водгукі бітваў плывуць здаля грозна,
Думы вясняныя сняцца народам.
Верацъ а шчыра, што рана ці позна,—
З Захаду голас іх трапіць да Ўсходу.

## Дзед

Вось калі прыйдуць, калі іх пабачу,
Вылажу праўду я ўсю перад імі;
Сёння ўжо стар я, і мне не да плачу,
Вушы хоць слабы, а ўловяць іх імя.

Я раскажу ім, як следна, па плану,
Як мне, гаротнаму, пот вочы выеў,
Як адрабляў крукам паншчыну пану...
Пан гуляў панам, нявольнікам быў я.

Ночка ці дзень, ці марозы, ці спёкі,—
Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце.
Быдлам зрабілі нас панскія здзекі,
Век марнаваліся ў слёзах і поце.

І перад тым, як сысці мне ў магілу,
Колькі мне сілы і дум старых хваце,
Я пракляну іх праклятую сілу,
Каб і ў магіле іх грызла праклянцце.

**Унук**

Дзедка, таксама я здам справаздачу,
Крыўды шмат маю зімою і летам;
Жыці таксама мне трэба іначай,
Сам Варашылаў хай знае аб гэтым.

Я раскажу, як за хлеб, за зацірку
Ў пана служыў пастухом нядаўна,
Лезла на вопратцы дзірка на дзірку,
Лапцяў і тых не дастаў я ад пана.

Неяк прыгнаў я, змарыўшыся, з поля
Іхнія, панскія, з поля авечкі,
Шоў цераз сад, дзе валялася ўволю
На зямлі яблык. Іх бачыў без свечкі.

Я падняў яблык. Тут пан як наскочыў,
Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.
Я паваліўся, падняўся. Ах, вочы...
Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.

**Бацька**

Я раскажу ім — яны зразумеюць.
Сталіну крыўду маю хай даложаць.
Цёплая ў жылах мне кроў ледзянее,
Сонца не сонца мне ў свеце прыгожым.

Парабкам пану служыў я з дзён малку,
Розум і сілы свае абязвечыў;
Добра запомніў я панскую палку,
Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.

Так я гібеў, а знікуль яснай весці,
Горкае гора і ў будні, і ў свята;
Ён і дачку мне маю абясчэсціў
Непаўналетнюю, дзеспат пракляты.

Выгнаў на старасці з хаты, сатрапа,
Выгнаў бадзяцца галоднаму ў горы,
А калісь мусіў паганую лапу —
Парабак я — цалаваці з пакорай.

Можа, дакоціцца й мой голас ціхі,
Выслухаюць там, у Крамлі светазарным.
Мамкай служыла я на сваё ліха
Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.

Грудзі смактаў мне паніч недапечны,
Высахла там я на шчэпку, як мара,
Сынам, як кажуць, маім быў ён млечным,—
Хай бы магілу лепш гэткі сын парыў.

Годы прайшлі. Паніч вырас дубінай,
Звычай з ім вырас нягодніцкі, панскі.
Быў, як бацькі, азвярэлай скацінай,
Катаваў, гвалціў дзяўчат парабчанскіх.

Лета было. Пайшла ў ягады. Раптам
Рынуўся знекуль паніч-сумазбродзень,
Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту,
Хустачку здзёр мне і кофтачку, злодзей.

---

Сурмы зайгралі. Чырвонае войска
Горда ідзе, разбівае кайданы.
Воля ідзе цераз горад і вёску,
Сталінскі промень у хаты заглянуў.

Як днём начніцы, разбегліся госці,
Што з беларуса смакталі кроў ласа.
Чорны груган клюе панскія косці,
З трупаў гербоўных складае запасы.

Новая доля, шчаслівая доля
Ясна з Усходу квяцістай дарогай
Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле,
Сее вясёласць, зганяе трывогу.

І сейбіт выйдзе, свабодны, без путаў.
Трактарны ў рукі руль возьме з паклонам,—
Сейбіту праца не будзе атрутай,
Вольная праца на вольных загонах.

*1939*

## СОНЦА СВЯЦІЛА НАМ АДНАЛЬКОВА...

Сонца свяціла нам аднолькова
Гэтак нядаўна — ўчора, заўчора,—
Толькі ж была нам радасць асновай,
Вам ткаць прыйшлося слёзы і гора.

Нашы палеткі буйным абшарам
Нас гадавалі хлебам пшанічным,
Вашы палоскі голым папарам
Голад дарылі вам безгранічны.

Сталінец-трактар нам без прынукаў
Поле араў і сеяў зярняты,
Вы над сахою гнуліся крукам
І праклівалі свой лёс пракляты.

Мы сабе самі збожжа збіралі
І частавалі мёдам суседзяў.
Вас бізуном паны частавалі,
Ад бед схавацца вам было недзе.

Зноў аднолькова свеціць нам сонца,
Толькі ў вас з намі межаў не будзе,—
Жыці шчаслівай доляй бясконца
Будзеце з намі, з Захаду людзі.

*1939*

## ОЙ, ПАВЕЙ, ВЕЦЕР!..

Толькі йшчэ ўчора, не далей,
Сярод малітваў, кляцьбы
Гэткія песні складалі,
Песні нуды і журбы:

Ой, павей, вецер, з Усходу,
Вестачку нам прынясі,
Як там жывецца народу,
Хто колькі зжаў, накасіў.

Ой, павей, вецер-саколік,
Хай там пачуюць яны,
Як мы цярпім у няволі,
Як нас катуюць паны.

Ой, павей, вецер, нам, мілы,
Голас ім твой хай спяе,
Як мы без часу ў магілы
Косці складаем свае.

Ой, павей, вецер, над гаем,
Хай прыйдуць ночкай ці днём,—
Кветкамі іх прывітаем,
З ружы вянкі ім спляцём.

*1939*

## ТЫ МНЕ ПЕСНЮ СПЕЙ, ДЗЯЎЧЫНА...

Ты мне песню спей, дзяўчына,
Як у пана ты служыла,
Чаму смутна, бедачына,
Накрыж ручанькі злажыла?

Уставала рана,
Лажылася позна
І ў сне чула панаў
Голас хрыплы, грозны.

З горкай, цяжкай долі,
У пякельнай нетры,
Як былінка ў полі,
Гнулася ад ветру.

Ты мне песню спей, дзяўчына,
Як ты пану жыта жала,
Як згібала крукам спіну
І аб чым тады спявала.

Ой, цяжка дзяўчыне
Жаць поле чужое,
На марнае гіне
Жыццё маладое.

Ой, цяжка днём, ночай
Рабіці на пана,
Ліць слёзы дзявочы
Ад рана да рана.

Ты мне песню спей, дзяўчына,
Як цябе за тваю працу
На бадзянне сірацінай
Выгнаў пан зімой з палаца.
Ты мне спей!..

*1939*

## КАЛЫХАНКА

Спі, мой маленькі сыночак,
Спі, мая дзетка, засні,
Многа з табою мы ночак
Спаць не заснулі ані.

Недзе ў астрозе твой татка,
Ў панскім астрозе гніе...
Ціха, не плач, дзіцянятка,
Вочкі заплюшчы свае.



Спі, мой сыночак, мой родны,
Будзеш расці ў новы час!
Чуеш, як ветрык свабодны
Шчасцейкам вее на нас.

Ведаць не будзеш няволі,
Панскіх кайдан, бізуноў,

Панскай не будзеш ніколі
Служкай, сыночак ты мой.



Спі, мой сыночак! Лёс горкі
Больш не кране ў барацьбе,
Зоркі, крамлёўскія зоркі,
Будуць свяціці табе.

Жудкіх не зведаеш ночак,
Блукаць не будзеш нідзе.
Долю тваю, мой сыночак,
Сталін да сонца ўзвядзе.

*1939*

## НАКАРМІЛІСЯ ПАНСКАЮ ЛАСКАЙ...

Накарміліся панскаю ласкай,
Горкіх слёз напіліся дасыта.
Што здавалася ўчора йшчэ казкай,
Прыйшло сёння ў сонцы спавітым.

Расплываліся ў небе туманы,
Разганяў вецер ссохшае лісце.
Салавейка спяваў над курганам,
Неяк быццам спяваў галасісцей.

Ішлі гоманы нівай наспелай,
Гарады аклікаючы й вёскі.
Белавежская пушча шумела
І шумеў цёмны лес Аўгустоўскі.

Пераклікі чуваць былі ў хвалях
Паміж Нёманам, Днепрам і Бугам.
І да Волгі плылі, дабягалі
Шэпты хваляў ад Нёмана-друга.

Перад намі за панскай стражніцай,
За слупамі з арламі, а блізка,
Новы свет развідняўся зарніцай,—
Долі, волі народнай калыска.

Мы лавілі і думкай, і вухам
Стуль найменшае водгулле-рэха.
Вораг толькі стуль вестак не слухаў,
Упіваўся раз'юшаным смехам.

Выглядалі, чакалі цярпліва,
Як чакае з вайны маці сына,
Той хвіліны чароўнай, шчаслівай,
Калі прыйдуць з вялікай навінай.

І прыйшоў гэты час перамогі,
Вярнігорай прыйшоў ён з Усходу,
І руйнуе кайданы, астрогі,
На свабоду выводзіць народы.

Накарміліся панскаю ласкай,
Горкіх слёз напіліся дасыта.
Што здавалася ўчора йшчэ казкай,
Прыйшло сёння у сонца спавітым.

*1939*

## РАСШУМЕЎСЯ ЛЕС ЗЯЛЁНЫ...

Расшумеўся лес зялёны
Ад шчаслівых новых дзён.
Слава Арміі Чырвонай!
Варашылаву паклон!

Скінуў з плеч няволю Нёман,
Усміхаецца Вілля,
І з-пад Буга плыве гоман,
Весяліцца ўся зямля.

Уцякаюць панкі-ляхі,
Бы з пажару пацукі,
Пана ў процьму гоняць страхі,
Смела ходзяць беднякі.

Ўжо ад мора і да мора
Пан не строіць сабе меж,
Бо нядаўна, толькі ўчора,
Які меў, згубіў рубеж.

Уцякаюць, дзе папала,
І ўцякаць няма куды,
Пазбываемся навалы,
Панскай подлай злыбяды.

Паўстае народ рабочы,
Паўстае сялянскі люд,
Развідняе сонца ночы,
Нібы казка, нібы цуд.

Песняй гулкай міліёнаў
Ў сэрцы ўдарым, нібы ў звон.
Слава Арміі Чырвонай!
Варашылаву паклон!

*1939*

## З НОВАЙ ДУМКАЙ

З новай думкай, з новай песняй
Выйдзеш ты на нівы,
Беларусе, напрадвесні,
Браце мой цярплівы.

Засяваці будзеш зернем,
Як бурштын, адборным,
І ніхто цябе не зверне
Са шляхоў прасторных.

Думкі пабягуць іначай
Цераз долы, горы,
Ты сягоння тое ўбачыш,
Што не бачыў ўчора.

Будзе свет табе вясёлым
Весялей з днём кожным,
Не пабачыш навакола
Злыбяды астрожнай.

Будзеш важна паглядаці,
Як у цябе дома
На куце сядзіць багацце,
Нібы госць вядомы.

Пра дзень заўтрашні пакінеш
Думаць думкі ў горы,
Дабром поўны будуць скрыні,
Жывёлай — аборы.

Біць не будзе пан вяльможны
З твайго ж лесу палкай,
Што ты быў неасцярожны,
Зняць забыўся шапку.

Знаць не будзеш ты век-векам
Нядолі абрыдлай,
Звацца будзеш чалавекам,
А не панскім быдлам.

Ў добрай долі і прыгодзе,
Радасны, шчаслівы,
Жыць ты будзеш у свабодзе,
Браце мой цярплівы.

*1939*

## СЛАВА ТАБЕ, АРМІЯ!..

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя,
Слава табе, Армія,
Армія Чырвоная!

З-пад няволі панскае
Беларусь Заходнюю
Вывела ты, Армія,
На шляхі свабодныя.

Свята з намі святкуюць
З ласкаю жычліваю
Браты нашы з Захаду,
Вольныя, шчаслівыя.

З думкай пераможнаю,
Урачыста важная,
Ў госці да нас сходзіцца
Грамада сярмяжная.

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя
Слава табе, Армія,
Армія Чырвоная!

*1939*

## ЕДУ СЯГОННЯ Я Ў ВІЛЬНЮ...

Мінск, Маладзечна, Вільня...
Як жа знаёмы шлях гэты!
Змерыў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах.

Колькі ж ні ехаў тады я,
Ці то ў мароз, ці ў разводдзе,
Царскі жандар мяне тупа
І спатыкаў, і праводзіў.



Ехаць прыйшлося нядаўна,
Год таму тры ці чатыры,—
Тыя ж убогія хаты,
Тыя ж ля хат камандзіры.

Бачыў, як тамка пасліся
Свінні ў чужым агародзе.
Польскі жандар мяне тупа
І спатыкаў, і праводзіў.



Еду сягоння я ў Вільню
Следам за арміяй нашай,—
Царскім і польскім жандарам
Думак дарога не страша.

Сум недзе згінуў кашмарны,
Жудасць па хатах не бродзіць,
Кветкамі дзеці й дзяўчаты
Нас спатыкаюць, праводзяць.

*1939*

## ТЫ З ЗАХОДНЯЙ, Я З УСХОДНЯЙ...

Ты з Заходняй, я з Усходняй
    Нашай Беларусі,
Больш з табою ўжо ніколі
    Я не разлучуся.

Тваe коні, мае коні,
    Пасля дзён трывожных,
Будуць пасвіціся разам
    На лугу мурожным.

Разам будзем араць поле
Трактарам сталёвым,
Сеяць жыта і пшаніцу
На загонах новых.

Частаваццa будзем разам,
З кожным новым годам,
Верашчакаю калгаснай
І калгасным мёдам.

Складаць будзем думкі-песні
Не на панскай службе,—
Песні будуць аб свабодзе,
Аб сталінскай дружбе.

*1939*

## ПРАМІНУЛІ ДЗЯНЬКІ...

Прамінулі дзянькі
Роскашы вясёлай,—
Уцякалі панкі
З нашых ніваў, сёлаў.

Годзе піць, балявaць
На чужым прыселлі,
Наш народ частаваць
Атручаным зеллем.

Як чуму, ясным днём
Выгналі прыблудаў,
Свой ачысцілі дом
Ад варшаўскіх брудаў.

Нішчыць ворага ўшчэнт
Савецкім законам
Варашылаў Клімент
З Арміяй Чырвонай.

Воля йдзе на зямлі,
А ўсё далей, далей.
Сталін родны ў Крамлі
Перамогу хваліць.

*1939*

## НАСТАЎ ЧАРОД...

Настаў чарод,
Ідзі, народ,
На свой вялікі вольны сход!
Ты сотні год
Ліў кроў і пот,
Каб сыты быў варшаўскі зброд.

Цябе, мой брат,
Губіў пан-кат,
Скарынцы хлеба ты быў рад,
У світцы з лат
Не ведаў свят
І не мінаў астрожных крат.

Плыве гул-сказ:
— Настаў твой час,
Час кінуць жудкі свой папас!
Быць сярод нас
Між ясных крас
Мы клікалі цябе не раз.

Ідзі і знай,
Свой голас дай
За свой савецкі родны край!
Зялёны гай,
Чырвоны май
Ты з намі радасна спаткай!

Палёў прастор,
І луг, і бор,

Спакой і шум далін і гор
У твой жа двор
Прыйшлі на збор,
Прыйшлі ў святле крамлёўскіх зор.

Не будзе здзек
Табе ўвесь век
Крывавых слёз тачыць з павек.
Чужых апек
Ланцуг пасек —
Ты ўжо свабодны чалавек!

У новы свет
Пасля ўсіх бед
Ідзі, красуй, як макаў цвет!
Іскрыць прасвет,
Звініць прывет,
Ты церабі да шчасця след!

За шчасце, знай,
Свой голас дай
За свой савецкі родны край!
Зялёны гай,
Чырвоны май
Ты з намі радасна спаткай!

*1939*

## ЗАСВЯЦІЛА ЯСНА ЗОРКА...

Засвяціла ясна зорка
Добраю навінай
Над Заходняй Беларусяй
І над Украінай.

Пад царамі, пад панамі
Мучыліся людзі,—
У нядолі, у няволі
Чахлі, сохлі грудзі.

Песні сонцам не яснелі
Ў вясну, ў прадвесне,
Ночка цёмная шумела
Ў паднявольных песнях.

Сталін-бацька знаў аб гэтым,
Ды чакаў здарэння,
Каб сваім братам панесці
Радасць вызвалення.

І пабачыў ён, магутны,
Сваім вокам ясным,
Што надходзіць час расплаты
За людзей няшчасных.

Варашылаву і кажа,
Што з Луганска родам:
— Час нам, браце, вызваляці
З-пад ярма народы!

Пасылай байцоў адважных,
Стрэльбы, кулямёты,
Танкі, трактары, гарматы,
Птахі-самалёты!

І пайшло ў паходы войска
Полем, лугам, борам,
А байцоў, як зор на небе,
Як пясчын у моры!

Ніхто гэтакіх паходаў
Не чуў і не бачыў,—
Гэта ў казках знойдзеш толькі,
Або ў снах дзіцячых.

Ідзе армія ўдалая,
Не знае трывогі,
Пасыпаюць буйна людзі
Кветкамі дарогі.

Спатыкаюць і вітаюць
Песняй, хлебам-соляй.
Люд рабочы, люд сялянскі
Не засне ўжо болей.

Ён ідзе ўжо ў сям'ю нашу,
Наш народ свабодны,
Да рэспублікаў савецкіх
Як да сваіх родных.

Негаданай доляй, воляй
У яго аконца
Глядзець будзе век да веку
Сталінскае сонца.

Засвяціла ясна зорка
Добраю навінай
Над Заходняй Беларусяй
І над Украінай.

*1939*

## ФІНЛЯНДЫІ

З чорнай памрокі ў праменні зарніцаў
Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!
Шчасцем напоўняцца хатаў святліцы,
Воляй акрыляцца горы, даліны.

Горды народ твой не будзе згібацца
У ёрмах прыгонных, у здрадніцкіх лапах,
Болей не будзе ён з торбай жабрацкай
Жыць, як прыкажа з-над Тэмзы сатрапа.

Скалы і долы над Фінскай затокай,
Прыстані, выспы Балтыцкага мора
Вораг заморскі пражорлівым вокам
Больш не пасмее трымаць у пакоры.

Родныя з пут вызваляці загоны,
Сонцам развідніваць мутныя ночы,
Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных
Грозна народная армія крочыць.

Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай,
Ад гандляроў, п'яных славай крывавай,
Што гандлявалі на рынках замежных
Фінскім народам і фінскай дзяржавай.

Скіне з тваіх плеч ярмо плутакратаў,
Здрайцаў прадажных нікчэмную зграю.
Святкаваць будзеш вялікае свята
Волі народнай ад краю да краю.

Будзе сабе сам народ гаспадарыць,
Вызыску чорнага ведаць не будзе;
Працай збіраці з зямлі будуць дары
Самі сабе раскаваныя людзі.

Шумам задумным карэльскія сосны,
Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады,
Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны
Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.

Дружба з магутным усходнім суседам
Будзе граніц непахіснаю стражай;
Унук тое ўбача, што прадзеды, дзеды
Ў снах толькі снілі,— і свету раскажа.

Пройдуць дні, годы. Аквечана хвалай,
Будзеш, Суомі, йсці яснай дарогай,
Новага будзеш складаць Калевалу
З рунаў красы, барацьбы, перамогаў.

*1939*

## АБ СТАЛІНЕ-СЕЙБІТУ

### I

Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сэрца і звонка, як медзь,
Якую ў жніво пяе ў полі жняя,
Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.

Багата ўраджаем
Зямля расквітнела.
У будучнасць людзі
Ўзіраюцца смела.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня з душы і гартоўна, як сталь,
Якую пяе арлоў горных сям'я,
Якую пяе пры кавадле каваль.
Арлы-самалёты
Ўсё неба ўзялі,
І волю здабылі
Сабе кавалі.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сонца, ад зор залатых,
Якую пяе уся наша зямля,
Аб сейбіту светлы разносячы слых.
Ён даў для народаў
Асноўны закон,
І дружбу народаў
Навек стварыў ён.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад казак, чароўных тых сноў,
Што сталіся яваю нашага дня,
Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.
Заглянула сонца
Да хат, сутарэнь,
Праклятых дзён прошлых
Развеяўся цень.
Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад шчасця, ад радасных дзён,
Якая на крыллях ляціць салаўя
За межы-граніцы ды будзіць там сон.
І рухнуць апоры
Фашысцкіх цямніц,
Нявольнікі выйдуць
Да ясных зарніц.

*1937*



Янка Купала. 1928 г.



Якуб Колас і Янка Купала гуляюць у шахматы
на кватэры Я. Купалы ў Мінску. 1932 г.



Янка Купала. 1934 г.



А. Лахуці, Я. Купала, М. Горкі, П. Юдзін, А. Жданаў у прэзідыуме Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. 1934 г.



Павел Малчанаў і Янка Купала. 1936 г.



Ляўкі. Дняпро



Ляўкі.
Дача
Янкі Купалы



Янка Купала
і Пятрусь Броўка
ў Ляўках сярод
работнікаў лясніцтва.
1935 г.



Янка Купала на палубе парахода ў час паездкі ў Канеў на магілу Т. Шаўчэнкі 1939 г.



Янка Купала і Якуб Колас у санаторыі Цхалтуба. Сакавік 1941 г.



Мемарыяльны знак каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна з першай страфой верша Я. Купалы «Еду сягоння ў Вільню...»



Якуб Колас, А. Метэхелі і Янка Купала. Цхалтуба. 1941 г.

Янка Купала
на Каломенскім вагонабудаўнічым заводзе. 1941 г.



Чарнарэчанскае лясніцтва,
дзе быў напісаны верш «Беларускім партызанам»

II

Яркай зімою, шумлівым прадвеснем,
У ясныя ночкі, ў заранкі
Песню ўсім сэрцам складаем аб песні —
Аб Сталіне песні-вяснянкі.

Песні-вяснянкі ў далёкія далі
Лунаюць у кожнай прыгодзе.
Сонейка, зоркі цябе ўзгадавалі
На радасць людзей і стагоддзяў.

Высніў ты волю і долю народам,
Вярнуў чалавечую славу.
Сэрца, вялікае сэрца заўсёды
Вялікія творыць праявы.

Мудрыя пішаш для свету законы,
Для шчасця ад краю да краю.
Воляй бязмернай гадуеш мільёны,
Да сонца шляхі вымяраеш.

Імя тваё ўспамінае ўрачыста
Хлапчук, які лётаць наважыў.
Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым,
Дзяўчынка вянок табе вяжа.

З імем шчаслівым тваім ў Хасане
Байцы самураяў тапілі.
Лёталі гордыя за акіяны
Саветаў арліныя крыллі.

Думкаю-песняй тваё імя славіць
Народ беларускі свабодны
За Беларускую нашу дзяржаву,
Якую стварыў ты нам, родны!

Яркай зімою, шумлівым прадвеснем,
У ясныя ночкі, ў заранкі
Песню ўсім сэрцам складаем аб песні —
Аб Сталіне песні-вяснянкі.

*1939*

III

Я Сталіну мудраму песню спяваю,
А песня ад сэрца, з-пад сэрца, такая,
Крылата лунае над полем, над гаем,
Са светам гамоніць ад краю да краю...
Аб Сталіне мудрым я песню спяваю.

Са Сталіным лёгка жывецца на свеце,
Як яснае сонейка, гэтак нам свеціць,
Шляхі ён да шчасця і радасці квеціць,
Каб гора не зналі старыя і дзеці,
Са Сталіным лёгка жывецца на свеце.

Як песня, жыве яго імя ў народзе,
У кожным здарэнні, у кожнай прыгодзе,
Ці майскае свята ў жывым карагодзе,
Ці свята кастрычніка ў хаты прыходзіць,
Як песня, жыве яго імя ў народзе.

Глядзяць і ўсё бачаць яго зоры-вочы
Скрозь светлыя дні, скрозь туманныя ночы
Ён слёзы ўцірае нядолі сірочай,
Ён новую долю бяздольным прароча.
Глядзяць і ўсё бачаць яго зоры-вочы.

Савецкіх людзей ён выводзіць у людзі,
Замежны сатрапа судоў не насудзіць,
Разбойніцкім ладам не высуша грудзі,
Пры Сталіне ў бежанцах гінуць не будзем,
Савецкіх людзей ён выводзіць у людзі.

Ён піша законы стагоддзям, народам,
Што йдуць і што прыйдуць, навек, назаўсёды,
Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай,
Чырвоныя макі цвілі ў агародах,
Ён піша законы стагоддзям, народам.

Жыві і красуйся нам вечныя векі,
Як вечна плывуць жыватворныя рэкі!
З табою дабром у нас поўны засекі,
З табою не страшны для нас небяспекі,
Жыві і красуйся нам вечныя векі!

Я Сталіну мудраму песню спяваю,
А песня ад сэрца, з-пад сэрца, такая,
Крылата лунае над полем, над гаем,
Са светам гамоніць ад краю да краю...
Аб Сталіне мудрым я песню спяваю.

*1939*

# 1941—1942

## ДЗЯКУЮ ПАРТЫІ ЛЕНІНА — СТАЛІНА

Дзякую партыі Леніна — Сталіна,
Дзякую Сталіну мудраму, роднаму,
Што на Расіі жандармскай развалінах
Гору канец палажылі народнаму,

Што Беларусь маю цёмную, ўбогую
Вывелі ў людзі, і стала дзяржаўнаю,—
Выцерла слёзы, пайшла ў свет дарогаю
Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.

Сонца ўзышло над гаротнаю ніваю,
Сны аб яснейшых днях сталіся леваю;
Вольныя людзі, як пчолы руплівыя,
Тварыць быт новы, абвеяны славаю.

Б'ецца жыццё жыватворнай крыніцаю,
Песні напевамі звоняць вясёлымі,
Воля жывая лунае арліцаю,
Доля шчаслівая дружыцца з сёламі.

Воля і доля над доламі, горамі
Госціць у нас цудатворнаю казкаю,
Радасна жыць пад Крамлёўскімі зорамі,
Сталінскай цешыцца ўвагаю, ласкаю.

Дзякую партыі Леніна — Сталіна!..
Нашы мінуліся дні беспрасветныя,
Леглі ад сонца на свеце праталіны,
Будзем спраўляць перамогу ўсясветную.

Дзякуй за годнасць паэта народнага,
Дзякуй за Леніна ордэн мне радасны,
Дзякуй за прэмію Сталіна роднага,
Дзякую Сталіну, сокалу яснаму!

*1941*

## ПАКЛОН МОЙ НАРОДУ ЗА ПЕСНІ

Аб горы, няволі народа,
Аб тым, што народ мой ускрэсне,
Была мая ў цяжкіх нягодах
Скаваная, сумная песня.

Народныя думы і казкі
Давалі мне сілы нямала,
А моладасць прагнула ласкі,
А моладасць ласкі не знала.

А песня з народам упобач
Ішла і хісталася ў полі,
Гаротнасць была яе здобыч,—
Спявала ў праклятай няволі.

І крыўда крывава смактала
Мне долю маю маладую.
Мінула пракляццяў навала,
Год дваццаць у шчасці жыву я.

І сёння не тое, іначай,—
Не знаюць стамлёнасці думы,
Душа не сумуе, не плача,—
Пявучыя вокала шумы.

Гамоняць зялёныя сосны,
Шумяць у прысадах бярозы.
Жыву я ў квяцістыя вёсны,
Знікуль не пужаюць пагрозы.

Сягоння з народам шчаслівым
Я святкую свята ўрачыста.
Багаты ўраджаямі нівы,
Буяюць, пяюць каласіста.

У песнях павыраслі крыллі,
Лунаюць пад неба, край свету;
Хоць продкі заснулі ў магіле,
Красуюць патомкі за гэта.

Паклон мой народу за песні,
Што даў, навучыў, як складаюць,—
Спяваў іх калісь у прадвесні,
Сягоння вясну апяваюць...

Паклон мой народу ад сэрца,
Што сілу даваў да змагання,
Хай далей жа сэрца ў даль рвецца
Да сталінскіх зораў світання.

*1941*

## З ПЕРШЫМ МАЕМ

Пашыраецца, Май, твой пабедны паход
На далёкі, на блізкі і захад, і ўсход,
Твой вітае сцяг поўнач і поўдзень,
Сцяг чырвоны, дзе толькі ён дойдзе.
Пашыраецца, Май, твой пабедны паход.

Па-святочнаму ўрачыста
Люд наш вольны пахаджае,
Грае сонца ў небе чыстым,
На зямлі гул галасісты,
Плывуць песні па-над гаем:

З Першым маем!
З Першым маем!

У трыумфе ў квяцістым паход ясны твой
Пройдзе свет пераможнай свабоднай хадой,

Будзеш, Май, сваё святкаваць свята
Там, дзе сёння йшчэ путы ўюць каты,—
Пройдзеш свет пераможнай свабоднай хадой.

Па-святочнаму ўрачыста,
Па ўсіх светах, край да краю,
Зайскрыць сонца ў небе чыстым;
Пойдзе гоман галасісты
Звонкім рэхам па-над гаем:

З Першым маем!
З Першым маем!

Пад расстрэлам стаяць больш не будзеш нідзе,
Больш тыран ланцуга на цябе не ўскладзе,
Бомбы больш не спадуць з самалётаў,
Кветкі сыпацца будуць з высотаў,
Пад расстрэлам стаяць больш не будзеш нідзе.

Па-святочнаму ўрачыста,
Па ўсіх светах, край да краю,
Зазвініць зямля ўся чыста,
Вышле сонца сказ вячысты —
Ў свет прывет сваім звычаем:

З Першым маем!
З Першым маем!

Сцеражом, ясны Май, мы, як зорку, цябе,
Будзеш з намі ў далейшай сяўбе-барацьбе;
За сцюдзёныя, цёплыя моры
Мы на новыя пойдзем прасторы.

Урачыста стаіць варта
Нашых межаў — край да краю,
Кулямёт прыцэл свой знае,
Самалёт гатоў да старту,
Б'юць крамлёўскія куранты:

З Першым маем!
З Першым маем!

*1941*

## ПАЎСТАЎ НАРОД

Паўстаў народ мой беларускі гераічны,
Дзяды, унукі, ўнучкі — усе паўсталі
На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны,
Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.

І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам
Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны,—
Ён перарэжа горла людаеду, ўбіўцу,
Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.

Паўстаў народ, як і ў мінулых ён стагоддзях,
За волю, за зямлю, супроць сатрапаў азвярэлых.
Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе!
Шчаслівай долі на загонах тваіх родных, спелых!

Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам
Абернецца у ворагавым горле крывасмочым,
Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам
Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.

Знай, на чале народ вялікі рускі ў зброі
Ідзе на ворага з мільёнамі народаў,
Таварыш Сталін знача шлях да перамог у бої,
Да перамогі над фашысцкай збэшчанай пародай.

Паўстаў народ, як і ў мінулых ён стагоддзях,
За волю, за зямлю, супроць сатрапаў азвярэлых,
Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе!
Шчаслівай долі на загонах тваіх родных, спелых!

[*1941*]

## БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

На руінах, папялішчах,
На крывавых іх слядах
Хай груган іх косці ліча,
На бяседу соваў кліча
Баль спраўляць на іх касцях.

Няхай Гітлеру-вампіру
Клююць сэрца, смокчуць кроў;
Сыты быў людскім ён жырам,
П'яны быў крывавым вірам,—
Хай жа гіне звер звяроў!

Выразаў ён старцам вочы,
Рэзаў матак і дзяцей,
Дзікай зданню, патарочай
Засланяў дні чорнай ночай,—
Хай жа гіне ліхадзей!

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.

Цень забітых матак, дзетак,
Дзедаў вашых і бацькоў,
Акрываўлены палетак
Клічуць мсціць крывава гэтак,
Як не мсцілі ад вякоў.

Не давайце гадам сілы
Над сабою распасцерць,
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць!

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!

За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Няхай ваша перамога
Не кідае вас нідзе,
Не пужае хай трывога,—
Ваша чыстая дарога
Да свабоды давядзе.

Вашы бітвы ўвесь свет бача,
Бача Сталін родны наш,
Як фашыстаў род сабачы,
Людарэзаў зброд смердзячы
Нішчыць ваша варта-страж.

Так ад нечысцяў ачысцім
Нашы нівы і лясы,
Фашыстоўскіх псоў панішчым,
І схінуцца, як калісьці,
Для нас нашы каласы.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

*1941*

## ГРАБЕЖНІК

Брыдзе, паўзе сліўнём раз'юшаны грабежнік,
Сцякае кроў па каршуновых яго лапах,
Людское цела рве, як вырадак-драпежнік,
Яму шчакоча ноздры-храпы трупны запах.
Пад чорны горкі дым агнішчаў, пажарышчаў,
Пад енкі-стогн канаючых ахвяр нявінных,
Спраўляе дзіка страшны свой банкет-ігрышча
Ён, п'яны ад крыві дзіцячай, мацярынай.

Пасцель сабе і трон свой жудасны хаўтурны
З касцей і чарапоў пастроіў чалавечых,
Хаўтурныя да сну яму іграюць сурмы,
На раніцу склікаюць людарэзаў веча.
Купаецца ў слязах удовіных, сірочых,
Апошнія здзірае з плеч старых кашулі
Распасвены, вясёлы рыцар цёмнай ночы,
Прысяжны вешацель, цар скоцкага разгулля.
Аграбіўшы, пусціў з жабрацкай торбай Польшчу,
Чэхаславакію, як ястраб, раскляваў на часці,
На Францыю грабеж свой зверскі растапоршчыў
І сонечную Грэцыю у цемру запрапасціў.
Нарвежскія крывёй нарвежскай зліў фіёрды,
Як ліпу, Бельгію й Галандыю абчысціў,
Ў ярмо запрог харватаў мірных, сербаў гордых,—
Ўсё для сваёй разбойніцкай грабежніцкай карысці.
Брыдзе, паўзе ў крыві людское па калена
Народамі праклятьі, гнусны зарубежнік;
Не шакал ён, не гадзіна і не гіена,—
Ён — Гітлер, фюрэр прускі, трупаед, грабежнік.

*1941*

## ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК НА ВАЙНЕ

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі мяне ўрэшце з сабой,
Цяпер не малы я ўжо хлопчык —
Сам-раз ляцець разам у бой.

Мне мамку зарэзалі немцы,
Сястрычку спалілі жыўём,
Дык хай жа кроў чорная льецца,
Іх псіная кроў ручаём.

Лічыць з табой будзем не зоры,
Галовы мы станем лічыць,
Галовы нямчур-людажораў,
Што будзем смяротна глушыць.

Ты будзеш глядзець самалёта,
А бомбы скідаць буду я,
І буду страляць з кулямёта,
Ў сабачыя сэрцы звяр'я.

Мы гітлерцаў будзем ніштожыць,
Гаціць імі тонкую гаць,
З кутоў нашых родных прыгожых
Грабежніцкі зброд выганяць.

Давіць мы іх будзем, як вошаў,
Як гадкіх смярдзючых клапоў,
Караць што-раз караю горшай
Сягонняшніх рыцараў-псоў.

Свайго самалёта днём, ночай
Не выпусцім, лётчык, мы з рук.
Берліну заглянем у вочы,
Ў крывавыя вочы гадзюк.

І зробім чуць-чуць астаноўку,
Каб сцерве папасці ў папад:
Для Гітлера скінем вяроўку,
Хутчэй каб павесіўся кат.

Так будзем лятаць з табой разам —
Адважныя ўсюды ў баю,—
Фашысцкую смерціць заразу
За мамку й сястрычку маю.

Змяцём з беларускіх загонаў
Паганыя банды прыблуд,
Край вызвалім родны з палону,
Нямецкіх пазбавімся пут.

А вернемся стуль, дзе лятаді,
Дзе ворагі трупам ляглі,
Спаткае таварыш наш Сталін
Прыветліва ў самым Крамлі.

І скажа ён так мне з табою:
Пра вас я ўжо чуў многа раз,—
Вы — хлопчык і лётчык — героі,
Чакаюць вось ордэны вас.

*1942*

## ЗНОЎ БУДЗЕМ ШЧАСЦЕ МЕЦЬ І ВОЛЮ

Лютуе Гітлер ашалелы,
Яму ў Германіі зацесна,
Яму пад ногі дай свет цэлы,
Хай гіне ў муках свет балесных.

Ускормлен мясам чалавечым,
Крывёй народнаю скупаны,
Народам волю абязвечыў,
Лютуе кат пад звон кайданаў.

На Беларусь, маю радзіму,
Як шакал, рынуўся галодны,
На Беларусь, што леты, зімы
Жыла шчасліваю, свабоднай.

І рэжа, вешае нявінных
Бацькоў, дзяцей і старцаў кволых.
Крывавым полымем, скаціна,
Папеліць гарады і сёлы.

Мой край расквечаных прастораў
Сваім салдацкім топча ботам...
Ой, і адпомсціць за ўсё гора
Народ, за кроў, за сон пад плотам!

Ужо нядоўга панаванне
Яго разбойніцкае дзічы,—
Усенароднае паўстанне
Яму апошнія дні ліча.

Паўстаў народны гнеў і помста,
Паўсталі грозна партызаны,
Б’юць фашыстоўскі зброд прахвостаў,
Б’юць, дабіваюць гнід паганых.

Чырвонай Арміі ў падмогу
Ідзе народ з байцамі разам
Да шчасця церабіць дарогу,
Знішчаць нямецкую заразу.

Так дзень зближаецца расплаты
За ўсё, што выцерпелі гэтак,

За нашы спаленыя хаты,
За нашых выразаных дзетак.

Ачысцім нашы лес і поле
Ад Гітлера, ад яго бандаў,
Зноў будзем шчасце мець і волю
Ў сваіх адноўленых прысадах.

Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зруйнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.

Зірнуць зноў нашы ўвысь палацы,
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе.

*1942*

* * *

На Гітлера-звера,
Сабачага сына —
З касой і сякерай,
З сярпом і дубінай!

Ўставайце, ідзеце
На чорнага змея,—
Няхай кроў ліецца
З твайго ліхадзея.

Парэзаў ён дзетак,
Тваіх малалетак,
Парэзаў ён матак,
Спаліў твой дастатак.

За матак, за дзетак, расстрэленых немцам,
За кроў, пралітую нявінна, і здзекі —

Ўставай, партызан, за смерць помсціці смерцю,
Ўставай, партызан, за зямлю, за свабоду навекі!

Хай вораг катуе,
Хай вораг лютуе —
Гадзюцы збаўлення няма!

Ты слухай, паслухай, таварыш мой мілы
З заходняй, з усходняй святой Беларусі,
Мы рылі французам і шведам магілы,—
Сваю рыць магілу мы Гітлера змусім.

Павер, мой народзе,
Ў пабедзе, ў свабодзе —
Ў Савецкім ззяць будзем Саюзе.
Ты будзеш шчаслівы
На родных на нівах!

[*1942*]

## ДЗЕВЯЦЬ АСІНАВЫХ КОЛЛЯЎ

*(Балада)*

Іх дзевяць, іх дзевяць асінавых колляў
Маю беларускую ганьбяць зямлю,
Іх тысячаў сотні, а можа, і болей,
Я ж толькі пра гэтыя дзевяць скажу.

Бушуе, лютуе, як злодзей, не дрэмле,
Крывёю людскою і п'яны, і сыт,
Нявіннымі трупамі выслаў ён землю,
Ён — фюрэр, раз'юшаны прускі бандыт.

Кішыць Егерштрасэ ў Берліне разгуллем
Блядых прастытутак арыйскай крыві
Ў садраных з дзяўчат беларускіх кашулях,
Трафеях германскіх войск з поля бітвы.

Засні, беларуская кветка-дзяўчына,
Салдат прускі выразаў грудзі табе,

Асляплены бацька знайшоў дамавіну,
А матку павесіў фашыст на вярбе.

Разбойнік, грабежнік на гладкай дарозе,
На ўсю Беларусь свой грабёж распасцёр.
Народ мой скаваны трымае ў астрозе,
Рэспубліку ўсю абярнуў у касцёр.

Край родны абняты агнішчам пажараў,
Звініць ланцугамі скаваны народ,
Адно партызаны крываваю карай
Частуюць фашысцкае арміі зброд.

Адно толькі ў небе навале варожай
Прарочаць пагібель і смерць груганы.
О, край Беларускі, о, край мой прыгожы,
Цябе твае выбавяць хутка сыны.

Іх вывелі дзевяць маіх беларусаў,
Іх вывелі дзевяць яўрэяў маіх,
Зямлі беларускай людзей сівавусых,
Людзей непавінных, мне родных, блізкіх.

І дзевяць было іх скатоў, людаедаў,
Прыслужнікаў фюрэра, дзевяць сабак.
Навокал прасвету, ратунку ні следу,
Дзесь толькі на ўсходзе маячыць маяк.

Каманда: «Капайце, яўрэі, тут яму!»
Яўрэі капаюць, не знаюць каму.
І вырылі яму глыбей нетры самай
Сабе па загаду магілу, турму.

Загад людаедаў: «У яму, яўрэі.
А вы, беларусы, быстрэй засыпаць!»
А вокала свішчуць вятры-сухавеі
І зверы трывожаць балотную гаць.

Стаяць беларусы, яўрэі таксама
Ні з места, над ямай стаяць, як слупы.
«— Ну што? За лапаты, лапцюжныя хамы.
А вы, юды, ў яму...»

*[1941—1942]*



## ЗАПАВЕДЗЬ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Як памру я, пахавайце
На Ўкраіне мілай,
Сярод стэпу на кургане,
Дзе продкаў магіла:
Каб нязмеранае поле,
Дняпро і абрывы
Было відна, было чутна,
Як раве бурлівы!
Як пагоніць з Украіны
У сіняе мора
Кроў варожжу... Во тады я
І нівы, і горы —
Ўсё пакіну й да самога
Бога палунаю
Маліціся... А да тых пор
Бога я не знаю!
Пахавайце ды ўставайце,
Кайданы парвіце
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце!
І мяне ў сям'і вялікай,
Ў сям'і вольнай, новай
Не забудзьце памянуці
Добрым ціхім словам.

[*1934*]

# З УСПАМІНАЎ ПРА ДЗЯЦІНСТВА

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Не называю яе раем,
Таей хацінaчкі у гаі
Над чыстым ставам, край сяла!
Мяне радзіла маці там
І, спавіваючы, спявала,
Сваю нуду пералівала
Ў сваё дзіцятка. Ў тым гаю,
У той хаціне, ў тым раю
Я пекла бачыў... Там няволя,
Работа цяжкая, ніколі
І адпачыці не даюць,
Там маці добрую маю,
Йшчэ маладую, у магілу
Бяда ды праца палажыла,
Там бацька, плачучы з дзяцьмі
Малымі, голымі, ў няволі,
Не выцерпеў ліхое долі,
Памёр на паншчыне... а мы
Разлезліся паміж людзьмі,
Як мышаняты. Я да школы —
Ваду насіці шкалярам,
Браты на паншчыну хадзілі,
Пакуль ілбы ім пагалілі,
А сёстры... Сёстры... Гора вам,
Мае галубкі маладыя.
Для каго ў свеце жывяцё?
Вы ў наймах выраслі чужыя,
У наймах косы пабялеюць,
У наймах, сёстры, й памрыцё.

*[1934]*



*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Свет мой ясны! Свет спакойны!
Не апужаны, свет вольны!
За што ж цябе, свет мой браце,
Ў сваёй добрай цёплай хаце
  Закулі, абмуравалі,
  Прамудрага ашукалі,
Багранiцамi закрылi
I распяццямi дабiлi?



Не дабілі! Страпяніся!
Ды над намі прасвяціся,
Прасвяціся!.. Будзем, браце,
З баграніц анучы драці,
З кадзіл люлькі запаляці,
Печ явленними тапіці,
А крапілам будзем, браце,
Нову хату падмятаці!

[*1934*]

## ДУМКА

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Цяжка, цяжка жыць на свеце
Сіраце без роду:
Няма куды прыхіліцца,—
Хоць з гары ды ў воду!
Утапіўся б маладзенькі
З нудой ў быстрай рэчцы:
Утапіўся б — цяжка жыці,
I няма дзе дзецца.
Ходзіць доля ў каго полем,
Каласкі збірае;
А мая дзесь, нягодніца,

За морам блукае.
Добра таму багатаму:
Яго людзі знаюць;
А са мною сустрэнуцца —
Вокам абмінаюць.
Багатага, губатага
Дзяўчына шануе;
З мяне, сіраты гаротнай,
Смяецца, жартуе.
«Ці я ж табе не прыгожы,
Ці не ў цябе ўдаўся,
Ці не люблю цябе шчыра,
Ці з цябе смяяўся?
Любі ж сабе, маё сэрца,
Любі, каго знаеш,
Але з мяне ты не смейся,
Калі ўспамінаеш.
А я пайду на край свету...
На чужой старонцы
Знайду лепшую ці згіну,
Як той ліст на сонцы».
Пайшоў казак сумуючы,
Нікога не кінуў;
Шукаў долі ў чужым полі
Ды там і загінуў.
Уміраючы, ўглядаўся,
Дзе сонейка ззяе...
Цяжка, цяжка уміраці,
Цяжка ў чужым краі!

[*1934*]

## ДУМКА

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Вецер буйны, вецер буйны!
Ты з морам гаворыш.
Збудзі яго, зайграй ты з ім,
Спытай сіне мора.
Яно знае, дзе мой мілы,
Бо яго насіла;

Яно скажа, сіне мора,
Дзе яго згубіла.
Калі мілага ўтапіла —
Разбі сіне мора!
Пайду мілага шукаці,
Ўтаплю сваё гора,
Ўтаплю сваю нядоленьку,
Русалкаю стану,
Пашукаю ў чорных <хвалях>,
На дно мора кану.
Знайду яго — прытулюся,
На сэрцы замлею,
Тады, хваля, нясі з мілым,
Куды вецер вее!
Калі ж мілы на тым боку —
Вецер буйны, знаеш,
Дзе ён ходзіць, што ён робіць,
Ты з ім размаўляеш.
Калі плача, то й я плачу;
Калі не — спяваю;
Калі згінуў чарнабрывы,
То й я прападаю.
Тады нясі маю душу
Туды, дзе мой мілы,
Чырвонаю калінаю
Пастаў на магіле.
Лягчэй будзе ў чужым полі
Сіраце ляжаці:
Будзе над ім яго міла
Кветкаю стаяці.
Зацвіту калінай-кветкай,
Каб мілага грудзі
Не пякло чужое сонца,
Не таптaлі людзі.
Вечарам я пасумую,
Раніцай паплачу;
Сонца ўзыйдзе — утру слёзы,
Ніхто й не пабача.

Вецер буйны, вецер буйны!
Ты з морам гаворыш.
Збудзі яго, зайграй ты з ім,
Спытай сіне мора!..

[*1934*]

## МАЙСТРЫ ЗЯМЛІ

*З рускай — М. Ісакоўскага*

На гоні, дзе жыта, пшаніца раслі,
Раслі дзе мурожныя травы,
З'явіліся майстры ўраджайнай зямлі —
Работнікі хлебнае справы.
Прынеслі яны сюды з вёскі сваей,
Дзе йграла багатае свята,
Маўклівую радасць працоўных людзей
І радасны воклік заплаты.
І глянулі з дзівам, як после вясны
Само ў рукі шчасце далося,
На поўнач, на поўдзень
Глядзелі яны
І жоўтае рвалі калоссе.
Яны перамогу адчулі сваю
І спорных чакалі ўмалотаў.
Яны ўспаміналі, як ў гэтым краю
Сівое
Дымела балота.
Карэннямі лозы крывыя з зямлі
Смакталі карысныя сокі.
І рэзалі рукі,
І вочы сяклі
Зялёныя пікі асокі.
І быў гэты край недаступен і глух —
Прыстанішча мукі і смерці.
І тысячу год забабонных старух
Пужалі балотныя чэрці.
Ўсё ж людзі,
Паўстаўшыя супраць чарцей,
Забыўшы лік на свае латы,
На ногі паставілі
Баб і дзяцей
І ў рукі ім далі
Лапаты.
І там,
Дзе не ўсякі мог смела прайсці
І вязлі ў калена дзе ногі,
Яны правялі
Пад'язныя шляхі,
Яны пралажылі
Дарогі.

І кожнай маўклівасць квадратнай вярсты
Яны пакарылі
Там працай нялёгкай.
І ўелася поле
Ў глухія пласты
Распетаю
Жоўтай затокай;
Прад імі ляглі маладыя лугі,
Шаўковыя скінуўшы шаты.
І стромкія свежага сена стагі
Лепш пахнуць
Ад лепшай гарбаты.
І ў свята, калі ўжо не скачуць сярпы
І косы карпацкія немы,
Па шчодрую плату
Прыходзяць сюды
Тварцы і героі паэмы.
І як бы скаваныя радасным сном
На жытніх калосістых гонях,
Стаяць і любуюцца
Буйным зярном,
Ляжачым
На жорсткай далоні.
І вецер адносіць адрыўкі іх слоў,
І гутаркі моўкнуць пустыя.
І гэтак здаецца, што ў гэтых майстроў
Іх рукі усіх
Залатыя.

[*1934*]

## ВОЛЬНЫ НАЙМІТ

*З польскай — М. Канапніцкай*

Па вузкай сцежцы, ўздыхаючы цяжка,
Між грэчак, жыта — сяўбы рук мазольных —
Бледны, апрануты рванай сярмяжкай,
    Шоў наймiт вольны.

Год той быў цяжкі: улевай тапіла
Пасевы, руні — й даспець не даспелі;
Зямелька ў слёзах чуць-чуць урадзіла
Салому й зелле.

З хаты, падаткамі труднымі змучан,
Выгнаны, там не пакінуў нікога...
Зямлі горсць толькі ўзяў у анучу
Й пайшоў дарогай.

Капалі росы з зялёных бярозаў,
Жалейка граннем вітала бяздольных...
Стаў, палой світкі сівой абцёр слёзы
Ён — найміт вольны!

Вольны, бо з путаў, ў якіх быў закуты
Родны загон, крывёй зліты чырвонай,—
Ўжо яго збавіла гэтай пакуты
Стацця закону.

Вольны, бо ўжо не было каму надта
Сена падкінуць, папасвіць уночы;
Вольны, бо кінуць мог кут сваёй хаты,
Калі захоча.

Вольны, бо ўжо ён не мае цяжару,
Хіба на плечах каса й торба з хлебам.
Сярмяга у латах ды вечная кара —
Боль, што жыць трэба.

Вольны, яго бо апошні з сіротаў,
Што вясной спух з голаду, больш не дыша,
Стары сабака застаўся пад плотам
І вые ў цішы.

Вольны! — бо можа йсці ці стаяць дрэвам,
Клясці скрыготам вячыстага болю;
Можа захлынуцца плачам ці спевам,
Даруе доля.

Можа замерзнуць, як рэчка ад лёду,
Біць галавой аб сцежку, рваць грудзі,—
Ад сонца ўсходу да сонца заходу
Змены не будзе.

Загон ўбогі для ўбогай той хаты,
Імшары, верас, луг, змыты расою,
І хоць не будзеш знаць цэлы год хлеба,
Ідзі з касою!

Чаго ж стаіць ён? — то ж вольны, як вецер,
Хоча жыве хай, а хоча ўмірае;
Ці пойдзе ў працу, ці хопіцца смерці,
Ніхто не дбае.

І хоць раздзёр бы сябе напалову,—
Не запытаюць аб долі мазольнай...
Хоць бы паў трупам, не скажуць ні слова...
Ён найміт вольны!

[*1935*]

## НА ВЕЧНУЮ ПАМЯЦЬ КАТЛЯРЭЎСКАМУ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Сонца грэе, вецер вее
З поля на даліну,
Над вадою гне з вярбою
Чырвону каліну;
Самотнае на каліне
Гнёздачка гайдае.
А дзе ж дзеўся салавейка?
Не пытай, не знае.
Гора ўспомні ды кінь думаць...
Мінула... прапала...
Добра ўспомні — сэрца вяне:
Чаму ж ды не стала?
Вось жа гляну дый успомню:
Было, як змяркае,
Зашчабеча на каліне —
Ніхто не мінае.
Ці багаты, каго доля,
Як маці дзяціну,

Прыбірае, даглядае,—
Не міне каліну.
Ці сіротка, што да свету
Ўстае працаваці,—
Апынецца, паслухае,
Як бацька ды маці
Пытаюцца, размаўляюць,—
Сэрцу люба ў грудзях...
І свет Божы, як Вялікдзень,
І людзі, як людзі!
Ці дзяўчына, што мілога
Штодзень выглядае,
Вяне, сохне сіратою,
Дзецца дзе, не знае.
На шлях пойдзе паўзірацца,
Паплакаць у лозах;
Зашчабеча салавейка —
Сохнуць дробны слёзы.
Паслухае, усміхнецца,
Пойдзе цёмным гаем...
Нібы з мілым размаўляла...
А ён, знай, спявае,

То дробна, то роўна, як Бога благае.
Пакуль выйдзе злодзей на шлях пагуляць
З нажом у халяве — пойдзе рэха гаем,
Пойдзе ды замоўкне — нашто шчабятаць?
Зацятую душу злодзея не спыніць,
Толькі страціць голас, дабру не навучыць.
Няхай жа лютуе, пакуль сам загіне,
Пакуль безгалоўе груган пракрычыць.

Засне даліна. На каліне
І салавейка дрэмле-спіць.
Павее вецер па даліне,
Дубровай рэха паляціць;
Гуляе рэха — божжа мова.
Устануць людцы працаваць,
Каровы пойдуць па дуброве,
Дзяўчаты выйдуць ваду браць,
І сонца гляне — рай, ды годзе!
Вярба смяецца, свята скрозь!
Заплача злодзей, люты злодзей.
Было так перш — цяпер жа вось.

Сонца грэе, вецер вее
З поля на даліну;
Над вадою гне з вярбою
Чырвону каліну;
Самотнае на каліне
Гнёздачка гайдае.
А дзе дзеўся салавейка?
Не пытай, не знае.

Нядаўна, нядаўна у нас на Ўкраіне
Стары Катлярэўскі вось так шчабятаў;
Замоўк небарака, сіротамі кінуў
І горы, і моры, дзе ўперад лятаў;

Дзе ватагу прайдзісвета
Вадзіў за сабою,—
Засталося ўсё й сумуе,
Як руіны Трої.
Ўсё сумуе,— толькі слава
Сонцам зазіяла;
Не ўмрэ кабзар, бо навекі
Яго прывітала.
Будзеш, бацька, панаваці,
Пакуль жывуць людзі;
Пакуль сонца з неба ззяе,
Цябе не забудуць!

Прымі ж маё слова, душа кабзарова!
Шчырае, ад сэрца — прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
Да мяне спусціся хоць на адно слова
Ды мне пра Ўкраіну маю заспявай.
Няхай усміхнецца сэрца на чужыне,
Хоць раз усміхнецца, гледзячы, як ты
Казацкую славу сваім словам дзіўным
Перанёс у хату беднай сіраты.
Прыляці, арол мой, бо я адзінокі
Сірата на свеце, у чужым краю.
Гляджу я на мора, на прастор шырокі,
Паплыў бы на той бок — чаўна не даюць.
Успомню Энея, бацькаўшчыну ўспомню,
Успомню, заплачу, як дзіцё, няўтомна;
А хвалі на той бок ідуць ды равуць.
А можа, я й цёмны, нічога не бачу,
Злая доля, можа, на тым баку плача,—

Сірату усюды людзі асмяюць!
Смяяліся хай бы, ды там мора грае,
Там месяц, там сонца зіяе ясней,
Там з ветрам магіла ў стэпу размаўляе,
Там не адзінокі быў бы ўжо я з ей.
Прымі ж маё слова, душа кабзарова!
Шчырае, ад сэрца — прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
Да мяне спусціся хоць на адно слова
Ды мне пра Украіну маю заспявай!

[*1938*]



*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Вецер з гаем размаўляе,
Шэпча з асакою;
Плыве човен па Дунаю
Адзін за вадою.
Плыве човен, вады повен,—
Ніхто не прыкмеціць,
І хто спыніць? — Ўжо рыбалкі
Няма ўжо на свеце!
Паплыў човен аж у мора,
Яно загуляла...
Пагулялі горы-хвалі —
І шчэпак не стала...
Шлях не доўгі,— як і чоўну
Да сіняга мора,
Сіраціне на чужыну,
А там — і да гора.
Пагуляюць людзі, нібы
Халодныя хвалі;
Падзівяцца, паўздыхаюць,
Як сіротка плача;
Спытай потым — дзе сіротка?
Не чуў і не бачыў...

[*1938*]

## ДУМКА

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Цячэ вада ў сіне мора,
Ды не выцякае;
Шукаў казак сваю долю,
А долі не мае.
Пайшоў казак на край свету;
Грае сіне мора,
Казацкае грае сэрца,
А думка гавора:

«Куды йдзеш ты, не спытаўшы?
На каго пакінуў
Бацьку, маці старэнькую,
Маладу дзяўчыну?
Не тыя ў чужыне людзі,
Цяжка з імі жыці;
Паплакаці не з кім будзе,
Ні пагаварыці».

Сядзіць казак на баку тым —
Грае сіне мора,
Думаў, долю ён сустрэне —
Спаткалася гора.
А жоравы лятуць сабе
Дадому ключамі,
Плача казак — шляхі біты
Зараслі цярнямі.

[*1938*]



*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Ой вы, думы, мае думы,
Цяжанька мне з вамі!
Нашто сталі на паперы
Сумнымі радкамі?..

Што вас вецер не развеяў
Ў стэпу да астатку?
Што вас гора не прыспала,
Як сваё дзіцятка?..

Бо на свет вас беды на смех спарадзілі,
Палівалі слёзы... Што ж не затапілі,
Не вынеслі ў мора, не размылі ў полі?..
Не пыталі б людзі, што ў мяне баліць?
Не пыталі б, за што праклінаю долю,
Чаму мне маркотна? «Нечага рабіць!» —
На смех не сказалі б...
Кветкі мае, дзеці!
Нашто ж я кахаў вас, нашто даглядаў?
Ці заплача сэрца адно на ўсім свеце,
Як я з вамі плакаў?.. Можа, і ўгадаў...
Можа, знойдзецца дзявоча
Сэрца, кары вочы,
Што над думамі заплачуць —
Большага не хочу...
Адну слёзку з вачэй карых —
І... пан над панамі!..
Ой вы, думы, мае думы,
Цяжанька мне з вамі!..



За карыя вачаняты,
За чорныя бровы
Сэрца млела, смяялася,
Вылівала мову;
Вылівала, як умела,
За цёмныя ночы,
За вішнёвы сад зялёны,
За ласкі дзявочы...
За стэп буйны, за магілы,
Што на Украіне,
Сэрца млела, не хацела
Спяваць на чужыне...
Не хацела ў снезе, ў лесе
Казакоў грамаду
З булавамі, з бунчукамі
Збіраць на параду...
Няхай душы казацкія
На Украйне лунаюць —

Там шырока, там вясёла
Ад краю да краю...
Нібы воля, што мінула.
Днепр шырокі — мора,
Стэп і стэп, равуць парогі,
І магілы — горы.
Там радзілася, гуляла
Казацкая воля;
Там татарамі ды шляхтай
Засявала поле,
Засявала поле трупам,
Пакуль не астыла...
Спачыць легла... А тым часам
Вырасла магіла,
А над ёю арол чорны
Сторажам лятае,
І аб ёй жа людзям добрым
Кабзары спяваюць.
Што тварылася, спяваюць
Сляпцы-небаракі,—
Бо кемлівы... А я... а я
Толькі ўмею плакаць,
Толькі слёзы за Украіну...
А слова — няма ўжо...
А за гора... Ды цур яму!
Хто яго не знаў жа!..
А надта той, што глядзіцца
На людзей душою —
Пекла яму ў гэтым свеце,
А на тым...
Журбою
Не наклічу сабе долі,
Калі так не маю.
Няхай злыдні жывуць тры дні —
Я іх захаваю,
Захаваю змяю люту
Каля свайго сэрца,
Каб і вораг не пабачыў,
Як гора смяецца...
Няхай думка, як груган той,
Лётае ды крача,
А сэрцайка салавейкам
Шчабеча ды плача
Цішком — людзі не пабачаць,
То й не засмяюцца...

Не ўцірайце ж мае слёзы —
Няхай сабе льюцца.
Хай чужое паліваюць
Поле днём і ночай,
Пакуль поп той не засыпле
Чужым пяском вочы...
Вось яно як... А рабіць што!
Журба не паможа.
Хто ж зайздросціць сіраціне.
Карай таго, Божа!

*

Ой вы, думы, мае думы,
Кветкі мае, дзеці!
Вырашчаў вас, даглядаў вас,
Дзе ж мне вас падзеці?
На Ўкраіну йдзіце, думы!
На нашу Ўкраіну,
Пад платамі, сіратамі,
А я — тут загіну.
З сэрцам стрэнецеся шчырым
І з словам ласкавым,
Там вы знойдзеце і праўду,
А йшчэ, можа, й славу...

Прывітай жа, мая маці!
Мая Украіна!
Маіх дзетак неразумных,
Як роднага сына!

[*1938*]

## ПЕРАБЕНДЗЯ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Перабендзя сляпы, стары —
Хто яго не знае!
Ён усюды блукаецца
Ды на кобзе йграе.

А хто йграе, таго знаюць
І дзякуюць людзі.
Ён тугу ім разганяе,
Хоць сам светам нудзіць.
Пад тынамі бедачына
Днюе і начуе,
Няма яму ў свеце хаты;
Нядоля жартуе
Са старога, як з малога,
А ён хоць бы слова —
Сядзе сабе, заспявае:
«Не шумі, дуброва!»
Заспявае дый успомніць,
Што ён сіраціна,
Пажурбуе, пасумуе,
Седзячы пад тынам.

Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Заспявае пра Чалога —
На Гарліцу зверне;
З дзяўчатамі на выгане —
Грыца ды вяснянку,
А калі ў шынку з хлапцамі —
Сэрбіна, Шынкарку;
З жанатымі на банкеце
(Дзе свякруха злая) —
Пра таполю, ліху долю.
А потым — У гаю;
Пра Лазара — на кірмашы,
Ці, каб тое зналі,
Цяжка-важка заспявае,
Як Сеч руйнавалі.
Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Заспявае, засмяецца,
А на слёзы зверне.

Вецер вее, павявае,
Па полі гуляе.
Кабзар сядзіць на магіле
Ды на кобзе йграе.
Вакол яго стэп, як мора,
Кавылём хістае;
За магілаю — магіла,

А там — чуць мільгае.
Вус яго сівы, чупрыну
Вецер развявае,
То паслухае, прылёгшы,
Як кабзар спявае;
Як сэрца смяецца, як вочанькі плачуць...
Паслухаў... павеяў...
Стары знайшоў схоў
На магіле ў стэпу, каб ніхто не бачыў,
Каб вецер па полі словы паразмёў,
Каб людзі не чулі — гэта ж божжа слова,
Гэта сэрца з Богам зважна гутарыць,
Гэта сэрца славу шчабеча Багову,
А думка край свету на хмары ляціць,
Арлом сізакрылым лятае, лунае,
Аж сіняе неба крыллем дастае;
Спачыне на сонцы, яго запытае,
Дзе яно начуе? Як яно ўстае?
Паслухае мора, што яно гавора?
Гару запытае: «Чаго ты нямая?»
Ды ізноў на неба, бо на зямлі гора,
Бо на ёй, шырокай, куточка не мае
Той вось, хто ўсё знае, той вось, хто ўсё чуе:
Што мора гавора, дзе сонца начуе,
Яго ў гэтым свеце ніхто не прымае.
Адзін ён між імі, як месяц высокі.
Яго знаюць людзі, бо носіць зямля...
А як бы пачулі, што ён, адзінокі,
Пяе на магіле, з морам размаўляе,—
Дык Божае слова яны б асмяялі,
Дурнем бы назвалі, ад сябе прагналі:
«Няхай па-над морам,— сказалі б,— гуляе!»

Добра гэтак, мой кабзару!
Добра, бацька, робіш,
Што спяваці, размаўляці
На магілу ходзіш!

Хадзі сабе, мой галубе,
Пакуль не заснулі
Думкі, сэрца, ды спявай так,
Каб людзі не чулі.

А каб цябе не міналі,
Патурай жа, брат, ім!

Скачы, ўража, як пан кажа:
На то ён багаты.

Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Вясельнае заспявае,
А на слёзы зверне.

*[1938]*

## ДА АСНАВЯНЕНКІ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Б'юць парогі; ўсходзіць месяц,
Як і перш усходзіў...
Няма Сечы, прапаў і той,
Хто ўсім верхаводзіў.
Няма Сечы! А чароты
У Дняпра пытаюць:
«Дзе дзеліся нашы дзеці?
Дзе яны гуляюць?»
Лятаючы скігліць чайка,
Бы па дзецях плача;
Сонца грэе, вецер вее
На стэпу казачым.
На тым стэпу скрозь магілы
Стаяць ды сумуюць;
Ветра буйнага спытаюць:
«Дзе нашы пануюць?
Дзе пануюць, банкятуюць?
Дзе вы загасцілі?..
Вярніцеся! Во пшаніцы
Колас пахілілі,
Дзе пасліся вашы коні,
Дзе трава шумела,
Дзе kроў ляхаў і татараў
Морам чырванела.
Вярніцеся!..»
    «Не вернуцца! —

Загулі, сказалі
Хвалі мора.— Не вернуцца,
Навекі прапалі!»
Праўда, праўда, сіне мора:
Такая іх доля!
Не вернуцца чаканыя,
Не вернецца воля,
Не вернуцца запарожцы,
Не ўстануць гетманы,
Не пакрыюць Украіну
Чырвоны жупаны.
Абадрана сіратою
Па-над Днепрам плача;
Цяжка-цяжка сіраціне,
А ніхто не бача,
Толькі вораг, што смяецца...
Смейся, люты ўража!
Дый не дужа, бо ўсё гіне,—
Слава не паляжа;
Не паляжа, а раскажа,
Што было на свеце,
Чыя праўда, чыя крыўда
І чые мы дзеці.
Наша дума, наша песня
Не ўмрэ, не загіне...
Вось дзе, людзі, наша слава,
Слава Украіны!
Без золата, без камення,
Без хітрае мовы,
Галасіста ды праўдзіва,
Як Божае слова...
Ці так, бацька-атамане?
Ці праўду спяваю?
Эх, каб тое!.. Ды казаць што! —
Таленту не маю.
Маскоўшчына йшчэ пры гэтым,
Скрозь чужыя людзі.
«Не патурай!» — можа, скажаш:
Ды што з таго будзе?
Насмяюцца з таго псалму,
Што выллю слязамі;
Насмяюцца!.. Цяжка, бацька,
Жыці з варагамі!
Пабароўся б і я, можа,
Каб сілы прыклікаў;

Заспяваў бы,— галасок быў,
Ды з'елі пазыкі.
Вось яна бяда якая,
Бацька мой, ліхая!
Блуджу ў снезе ды сабе сам:
«Ой, не шумі, гаю!»
Не зайграю больш. Ты ж, бацька,
Як сам здароў знаеш,
Цябе людзі паважаюць,
Добры голас маеш.
Спявай жа ім, мой галубе!
Пра Сеч, пра магілы,
Дзе насыпалі якую,
Каго палажылі;
Пра былое й тыя дзівы,
Што былі, мінулі...
Зайграй, бацька! Каб нехаця
На ўвесь свет пачулі,
Што тварылася на Ўкрайне,
За што памірала,
За што слава казацкая
На ўсім свеце стала!

. . . . . . . . . . . . . .

Зайграй, бацька, арол сізы!
Няхай я заплачу,
Няхай сваю Украіну
Я йшчэ раз пабачу;
Хай паслухаю яшчэ раз,
Як мора іграе,
Як дзяўчына пад вярбою
Грыца заспявае;
Хай яшчэ раз усміхнецца
Сэрца на чужыне,
Пакуль ляжа ў чужу зямлю,
Ў чужой дамавіне!

[*1938*]

# ІВАН ПАДКОВА

*В. І. Штэрнбергу*

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

I

Было калісь на Ўкраіне —
Гарматы равелі;
Было калісь — запарожцы
Панаваць умелі!
Панавалі, здабывалі
І славу, і волю,—
Мінулася: засталіся
Магілы на полі.
Ой, высокія магілы
Ля долаў-байракаў,
Дзе казацкае спіць цела,
Спавіта кітайкай.
Ой, высокія магілы
Чарнеюць, як горы,
Ды пра волю сціха ў полі
З ветрамі гавораць.
Сведка прадзедавай славы
З ветрам размаўляе,
А касу ў расу нясе ўнук,
За імі спявае.
Было калісь на Ўкраіне —
Гора танцавала,
Журба ў шынку мёд-гарэлку,
Як ваду, смактала.
Было калісь добра жыці
На той Украіне...
Дык успомнім, можа, сэрца
Хоць трохі спачыне.

II

Чорна хмара з-за Ліману
Неба, сонца крые;
Сіне мора дзікім зверам
То стогне, то вые.

Дняпра вусце затапіла...
«Нуце, хлопцы-брацці,
На байдакі! Мора грае —
Хадзем пагуляці!»
Высыпалі запарожцы —
Ліман чоўны ўслалі.
«Грай жа, мора!» — заспявалі,
Пайшлі пенай хвалі;
Кругом хвалі, нібы горы,—
Ні зямлі, ні неба.
Сэрца млее, казакам жа
Таго толькі й трэба —
Плывуць сабе ды спяваюць;
Рыбалка лятае;
Атаман стаў на сам-перад,
Вядзе, куды знае.
Пахаджае ўздоўж байдака,
Гасне люлька ў роце;
Пазірае сюды-туды —
Дзе-та быць рабоце?
Закруціўшы чорны вусы,
За вуха чупрыну,
Падняў шапку — чоўны сталі.
«Няхай вораг гіне!
Не ў Сінопу, атаманы,
Панове-малойцы!
А ў Цараград да султана
Паедзем у госці!»
«Добра, бацька-атамане!» —
Кругом заравела.
«Дзякуй жа вам!» Надзеў шапку.
Ізноў закіпела
Сіне мора. Ўздоўж байдака
Ізноў пахаджае
Пан атаман ды на хвалю
Моўчкі паглядае.

[*1938*]

## НА НЕЗАБУДЗЬ

*В. І. Штэрнбергу*

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Паедзеш далёка,
Свету ўбачыш дужа;
Заглядзішся, зажурышся,—
Ўспомні мяне, дружа!

[*1938*]

## М. МАРКЕВІЧУ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

Бандурыста, арол сізы!
Добра табе, браце:
Маеш крылле, маеш сілу,
Ёсць калі лятаці.
Цяпер ляціш на Ўкраіну —
Цябе выглядаюць.
Паляцеў бы я з табою,
Ды хто прывітае?
Я чужы тут, адзінокі,
І на Украіне
Сірата я, мой галубе,
Як і на чужыне.
Чаго ж сэрца б'ецца, рвецца?
Я там адзінокі!..
Адзінокі... А Ўкраіна!
А той стэп шырокі!
Там павее вецер буйны,
Як брат загавора;
Там у полі доля, воля,
Там сіняе мора
Выйгрывае, хваліць Бога,
Тугу разганяе;
З буйным ветрам там магілы
Ў стэпе размаўляюць.

Размаўляюць такім ладам,
Сумуючы ў полі:
«Было калісь, ды мінула,
Не вернецца болей!»
Паляцеў бы я, паслухаў,
Заплакаў бы з імі...
Ды бач! Доля прыкавала
Між людзьмі чужымі.

[*1938*]

# Іншыя рэдакцыі і варыянты



## ВЕРШЫ

### 1931

*А ў Вісле плавае тапелец...*

*Варыянт газ. «Звязда», 1931, № 100, 12 крас.:*

34 Бы дзень апошні хмелем хмеліць...

*Дзе крыўда адвечная спела*

*Варыянты газ. «Звязда», 1931, № 310, 16 лістап.:*

5 Мінулася цемры навала,
7 Мужычая ночка сканала,
8 Ўзнялося калгаснае сонца.
9 Сялянскае, панскае поле.

### 1932

*Адзінаццаць месяцаў...*

*Варыянты газ. «Звязда», 1932, № 154, 11 ліп.:*

21—24 *Адсутнічаюць*

*Пад чырвонай зоркаю*

*Варыянты газ. «Звязда», 1932, № 154, 11 ліп.:*

29 Калі фашысцкі захад

*Якубу Коласу*
(«Як калісь спявалі...»)

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1932, № 24, 15 снеж.:*

11 А так, дружа, ўдала.

## 1935

### *Сыны*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

1 Шэсць сыноў паклікаў бацька
3а Шэсць сыноў непаўналетніх
б Шэсць сыноў да працы здатных
4 Але зухаватых.
23 Каб аж госці к нам з-за мораў
29а Будаваць буду што сілы
б Будаваць буду заўзята
41—44а Сын чацвёрты: — Мне паслушны
Будуць самалёты.
Будуць мерыць паднябессе
З радасцю, з ахвотай
б *Як у асноўным тэксце*
45а Сябе птушкаю ў сне бачу
б *Як у асноўным тэксце*
51 Сцерагчы буду граніцы
56 Сам Клім Варашылаў
57а Самы меншы, шосты кажа
б *Як у асноўным тэксце*
59 Пра вялікае геройства
62 Ворагаў напасці
67 І такі адказ казаці

### *Сонцу*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 33, 28 чэрв.:*

12 Паводка разрыла.

### *Здаецца ж, было гэта ўчора...*

*Варыянты аўтографа:*

3а Калі па няроўных разорах
б Калі па бядняцкіх разорах
5а Аб горкай нядолі напевы
б *Як у асноўным тэксце*
10а Плылі рэчкі ў мора, як сёння,—
б *Як у асноўным тэксце*
14а Якая пагасне без следу;
б *Як у асноўным тэксце*
29а Разбудзіла сонных, спячых,—
б *Як у асноўным тэксце*
31а Адбірай свой ад зладзеяў
б *Як у асноўным тэксце*

33а Ліся, кроў, жывой крыніцай
б *Як у асноўным тэксце*
41а Нечысць з бацькаўшчыны знялі
б Зваявалі злыдняў самі
в І дабілі злыдняў самі
г І разбілі злыдняў самі
42а Як рукой
б Мы сабой
45 Загасціла перамога
47а Сеў бядняк...
б Пайшлі думкі у няпамяць
в Зніклі думкі аб нядолі
г *Як у асноўным тэксце*
51 Аквяціла зелень сонца
53а Мы наперад ужо знаем
б Па сялібах векавечны
в Па сялібах даўгавечны
54—55а { Куды йдзём
Шлях у сонцы перад намі
б *Як у асноўным тэксце*

*Беларусі ардэнаноснай*

*Варыянты аўтографа:*

4—5а { Сонца не бачыла, а толькі ночы...
Дзеці твае, у бядзе гадаваныя,
б *Як у асноўным тэксце*
7а Завывалі вятры над курганамі,
б Жудка стагналі вятры над курганамі,
12а Розгамі секлі, цьмілі багамі.
б Розгамі секлі, цямнілі багамі.
15а Вёску бядняцкую думкі трывожылі,
б Вёску жабрацкую думкі трывожылі,
17—18а Годы ішлі, ўслед ішло гора цяжкае
Прад вачмі беспрасветныя далі
б *Як у асноўным тэксце*
19а Хаўтуры пелі песню пабедную
б Ой, а хто ўсе шляхі гора выведаў
20а І не жылі, а век свой дажывалі
б Песні мы толькі аб горы складалі
в Песні аб горы адвечным складалі
г *Як у асноўным тэксце*
23 Горы Карпацкія, нетры Мазурскія,
25 Скрэжат і плач. А там... бежанцы, бежанцы...
26а Густа раслі за магілай магіла.
б *Як у асноўным тэксце*

29—32 *Адсутнічаюць*
34 Яснае панства ад польскай кароны
35а Скрыпяць вісельні ласкаю панскаю
б *Як у асноўным тэксце*
36а Запалалі пажары, пагромы
б Ўзвылі крывава пажары, пагромы
37а Льюцца горкія слёзы ўдовіны
б Капаюць слёзы гаротныя ўдовіны
39—40а {Ой панове, панове, закованы
Вамі люд адамсціць у прыгодзе
б *Як у асноўным тэксце*
52 Дзе глянь. Сады садзяць ля сваіх прыселляў.
58 Не баяцца зграі польскай і нямецкай,
66—68а {Што ж такое стала,
Вызваленне Беларусі
Ад польскай навалы.
б *Як у асноўным тэксце*
73—75 Стары Мінск памёр, а новы
Узышоў з руінаў,
Гордасць наша, радасць наша,
78 Сляды польскай ўлады,
80а Як на новых лядах.
б *Як у асноўным тэксце*
83 Ходзяць з песняю шчаслівай
87—88 Стаяць фабрыкі, заводы,
Ажно воку міла.

## *Госці*

*Варыянты аўтографа:*
1—16 *Адсутнічаюць*
18а А шмат аб чым пагаварыць было;
б *Як у асноўным тэксце*
23а За вокнамі там гаманілі сосны,
б *Як у асноўным тэксце*
25—28 *Адсутнічаюць*
29а Загаціць, кажуць, трэба рэчку грэбляй,
б Загаціць далей, кажуць, трэба рэчку,
43—44а {Ажно дрыжэлі сцены новай хаты.
І весела было нам, што й казаць.
б *Як у асноўным тэксце*
46а Аж раптам думка ўзбегла мне на яў:
б *Як у асноўным тэксце*
47а Адно калгаснікам адвагі не хапіла
б Маім гасцям адвагі не хапіла

*Вечарынка*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

3—4а Прыйшлі Юркі, Пецькі, Васі,
Прыйшлі Манькі, Стасі, Касі,
б *Як у асноўным тэксце*
6—10, 11—15 *Перастаўлены месцамі*
7 Клуб папоўнілі да краю,
21—30 *Адсутнічаюць*
31—35, 36—40 *Перастаўлены месцамі*
36 Весяліся, не смуціся,
37а Ты, «Чырвоны аратаю»!
б *Як у асноўным тэксце*
40а А музыка грае, грае.
б *Як у асноўным тэксце*

*Алеся*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

2а З году ў год у лесе
б *Як у асноўным тэксце*
13—16 *Адсутнічаюць*
17а Будзеш кужаль ты ткаці,
б *Як у асноўным тэксце*
20 Ў залатыя вёсны.

*Хлопчык і лётчык*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

12а Які дзе парадак і лад
б *Як у асноўным тэксце*
17—18а Як злеплены ясныя зоры,
Чаму не відаць іх ўдзень
б *Як у асноўным тэксце*
20а Плывуць безупынна ад нас
б *Як у асноўным тэксце*
32а Не будзеш, мой браце, жалець!
б *Як у асноўным тэксце*

*Лён*

*Варыянты аднаго з аўтографаў:*

5 Сонца сеяла цяпло,
10, 30 Залацісты, серабрысты!
22—24 На сябе галоўкі лён,—
Не абманіў ён надзей:
Быў найлепшы з лепшых ён.
26 Песні пела, як у сне,

31—32 Лён пайшла я абіваць,
Пранік бухаў ўдоўж і шыр,
35—36, 37—38 *Перастаўлены месцамі*
36 Мне паклаў за стан руку,
43 Падыходзіў Міхасёк.
53—55 І прызнаў яго закон
Чатырнаццатым чыслом.
Промень сонца загуляў.

*Другі аўтограф з'яўляецца па сутнасці адной з першых рэдакцый верша і значна адрозніваецца ад канчатковага тэксту, таму падаецца цалкам:*

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Залацісты, серабрысты.
Я пасеяла ў раллю
Жмені зёран ільняных,
Як на поле, на зямлю
Прыйшла раніца вясны.
Лён я сеяла ў зямлю,
У загон у ільняны,
Спадабала я тады
Брыгадзіра Змітрака.
Сонца сеяла цяпло,
Дожджык цёплы церушыў,
Ў думках радасна было,
Беглі песні ад душы.
Калгас свята адгуляў,
Хату новую стаўляў
Брыгадзір мой для мяне.
Сэрцу лёганька было —
Цэлы свет шчаслівы рай.
Хоць і восень, а святло
Так і льецца цераз край.
А як слала ■ лянок
На зялёным на лугу,—
Падыходзіў Міхасёк,
Цалавала на бягу.
а Як на шчасце лён мой рос
б Як даждала ранніх рос
в Як палола з ранніх рос
г А палоць мне не наўды
д Як расці стаў, як падрос,
■ Як даждаліся пары
б Як дайшоў сваёй пары
в Як зляцелі снігіры
г Як лісткі ўзняў дагары,

Лён палола з ранніх рос
Да вячэрняе зары.
А палоць мне не наўды,
Сэрца ныла бы з нуды,
Бы сама была не ўся,
Спадабала ж тады
Брыгадзіра Міхася.
Як адцвіў ды як надзеў
На сябе галоўкі лён,
Не абманіў ён надзей —
Быў найлепшы з лепшых ён.
Рваць ішла яго ў снапы.
Пела песні, як у сне,
Брыгадзір лічыў капы,
а І на вуха шаптаў мне.
б Час ад часу моргаў мне.
Лён пайшла я абіваць.
Пранік бухнуў ўдоўж і ўшыр,
Нібы семя арфаваць,
Мой ідзе ўслед брыгадзір.
Мой жа пранік лясь ды лясь
Па гліняным па таку,
а Аж не вытрываў Міхась,
б Падышоў бліжэй Міхась,
Мне паклаў за стан руку.
Змяла ў мяльніцы я лён,
Адтрапала лён траплом,
а Выйшаў ён з усіх старон
б І прызнаў яго закон
а На дзесяты нумар той
б Чатырнаццатым чыслом
Промень сонца загуляў
Па страсе і па сцяне,
Хату новую стаўляў
Брыгадзір мой для мяне.

*Партызаны*

*Варыянты аўтографа:*
3а Усміхаліся долы і горы,
б *Як у асноўным тэксце*
4а Усміхалася сонца і зоры,
б Іх праводзіла сонца і зоры,
в Шлях паказвала сонца і зоры,
г Шлях ім значыла сонца і зоры,

7а Задымеліся вогнішчы ў пушчы,
б Запылалі агні на папасе,
в Запылалі агні на начлезе,
9а Як жа іх партызан адзін здрадзіў
б Як жа свой партызан ды іх здрадзіў
10а І прывёў ліхадзеяў к засадзе,
б *Як у асноўным тэксце*
13—14 Згасла вогнішча, попелу горсці
Засталіся, а ў попеле косці
15а Над касцямі воўк ляскаў зубамі
б Ваўкі вылі, свае грызлі пальцы
в Ваўкі вылі на блізкай палянцы
16а Над звуглеўшымі здрайцы касцямі
б Над касцямі звуглеўшымі здрайцы

*Як у госці сын прыехаў...*

*Варыянты зб. «Для дзяцей» (1940), зб. «Слава Арміі Чырвонай» (1941):*

77 — Раскажу я маме мілай,
78 Які ў нас быў дзень адменны:
84 Такі родны, такі блізкі!

## 1936

*Песня трактарысткі*

*Варыянты «Літ. і мастацтва», 1936, № 34, 11 чэрв.:*

21—22 *Адсутнічаюць*
32—33 З радасным прыветам
Мёдам пачастуюць.
63 Малады, вясёлы,
*Пасля* 76 Я цябе пакіну
На вольную волю,—
Даляцець да сонца
Мяне кліча доля.

*Іспанія будзе свабоднай*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 63, 12 лістап.:*

33—36 Змяце мецяжы гнеў народны,
Расквецяцца долы і нівы,
Іспанія будзе свабоднай,
Іспанія будзе шчаслівай!

## 1937

*На тэму крытыкі і самакрытыкі*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 21, 23 крас.:*

9—12 *Адсутнічаюць*
18 Дзе тыцнеш — хіба не захіл...
29—48 *Адсутнічаюць*
52 З якіх бяром змест кветак-руж?
53—60 *Адсутнічаюць*
66 Паэмы, драмы і сцэнар.
82 Шчасціць ля саду ясакор.

*Май*

(«Да нас у госці май прыходзіць...»)

*Варыянт газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 23, 1 мая:*

88 Крывёй апырсканы фашыст.

*Святочныя вершы*

*Варыянт газ. «Літ. і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістап.:*

57 Так збыліся ў час нямногі

*Нашаму дэпутату*

*Варыянты газ. «Звязда», 1937, № 269, 23 лістап.:*

*Пасля* 20 Народ беларускі пазбыўся сатрапаў,
Палі свае сее спакойна штогод,
Не страшны яму дэфензівы, гестапы,
Ні панская Польшча, ні Гітлераў зброд.

## 1938

*Генацвале*

*Варыянт газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 6, 30 студз.:*

5 Было міла мне ў Цхалтубе,
11 Песні радасці будзіла
21—25 *Адсутнічаюць*

*То не рыцары з князем...*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 8, 10 лют.:*

1—2 То не рыцары з казак
З князем шлі на войны,—
17 То не вікінгі сагаў

*Кандыдатам народа*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 31, 6 чэрв.:*

23 Ды Ежоў, што дыверсантаў

*Пасля* 76 Слава нашаму Ежову,
З Ленінграда родам,
Што расправіўся, як следна,
З дыверсанцкім збродам!

Што шляхі расчысціў у нашым
Ясным падарожжы;
Што трацкістаў азвярэлых
Выкрыў і зніштожыў.

Больш на нас не рыне банда
Ашалелай сукай,
З-за вугла нас не падсочыць
Подлая гадзюка.

Слава нашаму Ежову
З Ленінграда родам,
Што расправіўся, як следна,
З дыверсанцкім збродам.

*На выбары выйшлі...*

*Варыянты газ. «Звязда», 1938, № 146, 26 чэрв.:*

1—4 Вялікая радасць людзей назаўсёды
Пад Сталінскім сцягам заззяла.
Настала ўрачыстае свята народаў,
Якога ў вяках не бывала.

*Памрока над Польшчай завісла...*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 48, 30 жн.:*

*Пасля* 16 Пан Бек чалавечым беконам
На рынку берлінскім таргуе,
Прадаў бы германцу й карону,
Каб меў пад рукою такую.

Цякуць барышы за пакражу
З украдзеных келіхаў хрупкіх,
Пан Бек задаволен з прадажы,
Гер Гітлер даволен з пакупкі.

*А мы сабе сеем і сеем...*

*Варыянты газ. «Звязда», 1938, № 258, 7 лістап.:*

*Пасля* 4 Над Тэмзай, над Сенай, над Віслай,
Над чорным Берлінам, над Рымам

Крывавая хмара завісла,
Крывавым сланяецца дымам.

Мадрыд абступілі бандыты
З Берліна і Рыма, як спруты,
І путы куюць ненасытна,
Народу свабоднаму путы.

У Прагу разбойнікаў зграя
Залезла і грабіць там нівы,
З-пад Токіо зброд самураяў
Катуе Кітай нешчаслівы.

А мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу, і радасць, і кветкі,
Ачышчаным сеем насеннем
Шчаслівыя нашы палеткі.

## 1941—1942

*Беларускім партызанам*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

26—29 Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі,
Клічу вас я на пабеду,
30а Каб вас злыдні не змаглі.
б Хай вам шчасцем свецяць дні.

*Пасля радка 30-га парадак строф наступны: восьмая, адзінаццатая, сёмая, дзесятая...*

35 Як не мецілі з прадвякоў.
36а Не давайце моцы гадам
б Не давайце сілы гадам
в *Як у асноўным тэксце*
38 Кліч адзін твой, дружа мілы,
46а Перамога будзе ваша
б *Як у асноўным тэксце*
56 Мы ад нечысці ачысцім

*Варыянты белавога аўтографа:*

10 Баль спраўляюць на касцях.
51—55 *Адсутнічаюць*

### *Грабежнік*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

3а Людское цела рве разбэшчаны драпежнік
б Людское цела рве збэшчаны драпежнік.
в *Як у асноўным тэксце*
4—5а { Шчакоча ноздры яму трупны запах
Пад чорны едкі дым агнішчаў, пажарышчаў
б *Як у асноўным тэксце*
11 Хаўтурныя да сну яму іграюць зурны
16а Прыгонны вешацель, князь скоцкага разгулу.
б *Як у асноўным тэксце*
22—23а { Абдзёр Галандыю і Бельгію, як ліпу
Ярмо надзеў харватам сербам гордым
б *Як у асноўным тэксце*
24а Запрог для фюрэрскай грабежніцкай карысці
б Запрог для гадаснай грабежніцкай карысці
26а Апошнія здзірае з плеч старых кашулі
б *Як у асноўным тэксце*
27а Распасвены...
б Не звер, не шакал, не гадзюка й не гіена

### *Зноў будзем шчасце мець і волю*

*Варыянты белавога аўтографа:*

39 Зноў будзем долю мець і волю
44 Святлом асветлім нечуваным
48 Над намі сцяг чырвоны будзе

### *Дзевяць асінавых колляў*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

2 Маю беларускую ганьбяць мяжу
8а Крывавы раз'юшаны прускі бандыт
б *Як у асноўным тэксце*
12а Трафеях войск Гітлера з поля бітвы
б *Як у асноўным тэксце*
33а І дзевяць было іх скатоў азвярэлых
б *Як у асноўным тэксце*
39 І выкапалі яму глыбей нетры самай
44а І нешта трывожыць балотную гаць
б *Як у асноўным тэксце*

## ПЕРАКЛАДЫ

### *Думка*

(«Цяжка, цяжка жыць на свеце...»)

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак.:*

9 Ў каго доля ходзіць полем,

### *Думка*

(«Вецер буйны, вецер буйны!..»)

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак.:*

14—16 *Адсутнічаюць* (замест іх шматкроп'е)
21 Калі ж мілы ўжо па той бок —
25 Калі ж плача, то й я плачу;
27—28 Калі згінуў чарнабровы,
То й я згіну, знаю.
31 Ды чырвонаю калінай
43 Ўзыдзе сонца — утру слёзы,

### *На вечную памяць Катлярэўскаму*

*Варыянты газ. «Літ. і мастацтва», 1938, № 70, 23 снеж.:*

12 Ой, чаму ж не стала?
17 Ці багаты, ў каго доля,
21 Ці сіротка, што досвіту
24 Бы бацька ды маці
90 Няхай усміхнецца душа на чужыне,
96 Гляджу ў воблік мора шырокі, глыбокі,

### *М. Маркевічу*

*Варыянты газ. «Звязда», 1939, № 22, 28 студз.:*

1 Бандурыста, арол сівы!

# КАМЕНТАРЫІ



У пятым томе Збору твораў Я. Купалы змешчаны вершы і пераклады 1930—1942 гг.

Верш «Фінляндыі» ўключаецца ў Збор твораў упершыню. Занава зробленая аналітычная зверка тэкстаў па ўсіх рукапісных і друкаваных крыніцах дапамагла ўзнавіць дакладную аўтарскую рэдакцыю шэрага вершаў, «адрэдагаванымі» тэкстамі якіх доўгі час карысталіся чытачы. Змены ў тэкст былі ўнесены цэнзурай у сувязі з новымі дэфармацыямі ў духоўна-ідэалагічнай і сацыяльна-палітычнай сферах беларускага (як і ўсяго савецкага) грамадства ў другой палове 50-х гадоў, пасля выкрыцця культу асобы і злачынстваў І. Сталіна. Гэта датычыцца такіх агульнавядомых вершаў, як «Беларускім партызанам», «Хлопчык і лётчык», «Якубу Коласу» («Жыві ў радасці і шчасці...»), «Грузія», «Трэба нам песень» і інш. Акрамя гэтага, у дадзены том уключана 22 верша, якія ў двух папярэдніх Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) па цэнзурных меркаваннях не друкаваліся («Табе, правадыр...», «Аб Сталіне-сейбіту», «Паўстаў народ», «Верасень месяц...» і інш.). Усе аўтографы, якія захоўваюцца ў ДзЛМЯнК, знаходзяцца ў фондзе 1, вопісе 1. У далейшым спасылкі робяцца толькі на адзінку захавання і ліст.

Вытрымкі з выказванняў аднаго з самых безапеляцыйных вульгарна-сацыялагічных крытыкаў на Беларусі Л. Бэндэ прыводзяцца з мэтай узнавіць рэальную грамадска-палітычную атмасферу, у якой давялося працаваць Я. Купалу.

Першая публікацыя, крыніца асноўнага тэксту і дата напісання ўказваюцца ў каментарыях да кожнага верша.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання, апрача першых публікацый у перыядычным друку, з'яўляюцца наступныя выданні твораў паэта: Збор твораў, т. VI. Мн., 1932; зборнікі «Ад сэрца», Мн., 1940; «Беларусі ардэнаноснай», Мн., 1937; «Песня будаўніцтву», Мн., 1936; Т. Шаўчэнка. «Кабзар», Мн., 1939; аўтографы.

## ВЕРШЫ

### 1930

*Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву* (с. 7)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Чырвоная Беларусь», 1930, № 2.

Датуецца 12 студз. 1930 г.

Верш напісаны да 5-годдзя выдавецтва.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У ДзМЛЯнК захоўваецца аўтограф верша з паметай: Янка Купала, быўшы тэхнічны рэдактар выдавецтва. Менск. 12.І.1930 г. (адз. зах. 272, л. 1—3).

Тэхнічным рэдактарам у выдавецтве паэт працаваў у 1924—1925 гг. Аб яго рабоце пісаў у артыкуле «Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 г.» і прысвяціў верш «Для насценнай газеты БДзВ».

Пераклаў на рускую мову Н. Кіслік.

*Корпус* — тут: назва аднаго з размераў друкарскага шрыфту.

*Цыцэра* — адзін з буйных друкарскіх шрыфтоў. Ад імя Цыцэрона, «Пісьмы» якога былі надрукаваны ў 1467 г. такім шрыфтам.

*Петыт* — дробны друкарскі шрыфт памерам 8 пунктаў (каля 3 мм).

*Літаграфія* — спосаб друкавання з плоскай паверхні каменя, на якой зроблены малюнак; малюнак, зроблены такім спосабам.

*Працай дружнай,*
*калектыўнай* (с. 8)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1930, № 190, 17 жн., з паметай: Менск. 15.VIII—⟨19⟩30 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш мае фактычную аснову і з'явіўся як водгук на канкрэтную падзею — адкрыццё Першай усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўкі, якое адбылося 10 жніўня 1930 г.

У першым пасляваенным навуковым выданні літаратурнай спадчыны Я. Купалы (Зб. тв., 1951—1954) за асноўны тэкст верша быў прыняты тэкст выдання Выбраныя творы, 1937, т. III. Але паколькі ўстаноўлена [1], што ў гэтым выданні амаль механічна передрукаваны тэкст папярэдніх выданняў, а шматлікія папраўкі, якія сустракаюцца ў тэксце, у сваёй большасці зроблены рэдактарам, апошні прыжыццёвы тэкст нельга прыняць за крыніцу асноўнага тэксту. У наступных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) за асноўны тэкст верша правамерна прыняты тэкст зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

У Зборы твораў (1951—1954) трэці радок верша некалькі зменены: *Свет будуе, свет нячуты.* У асноўным тэксце: *Свет будуе, свет нячутны.* Незразумела, на якой падставе складальнікі пасмяротнага Збору твораў (1951—1954) унеслі праўку ў асноўны тэкст верша, так як аўтарскае «нячутны» свет і папраўленае «нячуты» могуць ужывацца ў адным і тым жа сэнсе. І таму ў наступным Зборы твораў (1961—1963) слушна ўзнаўляецца аўтарскі варыянт радка.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — А. Сарока, А. Каштэйн.

---

[1] Гульман Р. І. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971. С. 48.

*Новая восень* (с. 9)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937. Пад тэкстам памета: Менск. 1930 г.

Упершыню — «Беларусь калгасная», 1932, № 1.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Колычаў, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — М. Рыльскі, на армянскую — часоп. «Харурдаін гракануцюн» («Савецкая літаратура», Ерэван, 1935, № 2, перакладчык не названы), на грузінскую — М. Мачаварыяні, на казахскую — Ж. Кашкінаў, на таджыкскую — М. Фархат, на румынскую — С. Дэлчу.

*Каўкі* — галкі.

## 1931

*А ў Вісле плавае тапелец...* (с. 10)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 з папраўкай у 13 радку паводле зб. «Песня будаўніцтву», 1936. У асноўным тэксце было: *Папы з маркізамі Парыжу.*

Упершыню — «Звязда», 1931, № 100, 12 крас., з паметай: Менск, 10.IV—⟨19⟩31 г. У часоп. «Іскры Ільіча», 1931, № 6 друкаваўся пад назвай «Балюе панская Варшава...».

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У III томе Выбраных твораў (1935—1937) адсутнічаюць радкі 29—32. Паколькі вядома, што Выбраныя творы выдаваліся без ведама аўтара і рэдактары дазвалялі сабе правіць тэкст без кансультацый з паэтам, можна лічыць, што купюра зроблена не ў працэсе творчай перапрацоўкі, а з'яўляецца вынікам старонняга ўмяшання ў тэкст.

Рэдкалегіяй Збору твораў (1961—1963) 19 радок выпраўлены ў адпаведнасці з першадрукам: *Йдзе за аблаваю аблава.* У гэтым варыянце радок друкаваўся і ў наступным Зборы твораў (1972—1976). Аргументацыя ўнесенай рэдкалегіяй праўкі адсутнічае, хаця прынятае тэксталагічнае рашэнне з'яўляецца спрэчным. На думку рэдкалегіі дадзенага выдання, змена ў асноўным тэксце не мае фактычных падстаў і не з'яўляецца правамернай.

Верш «А ў Вісле плавае тапелец...» — першы верш, які паэт напісаў пасля спробы самагубства. Як і вершы «Памрока над Польшчай завісла...», «Суд ідзе» і інш., ён накіраваны супроць тэрору ў буржуазнай Польшчы. У асабістым лісце ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры ўрадзе БССР А. Ульянава да сакратара парткалегіі ЦКК КП(б)Б А. Рыскіна ў студзені 1931 г. адзначаецца: «...Мы всячески старались на него (Я. Купалу.— *С. З.*) воздействовать — стараясь изолировать его от влияния жены и заставляя его высказаться или написать стихи (процесс Громады — террор в Польше, коллективизация и т. д.), так как это имело политический эффект не только у нас, но и в Зап[адной] Белоруссии» (Платонаў Р. «Маё чэкісцкае чуццё падвяло...» // «Полымя», 1995, № 2).

Аднак Л. Бэндэ, адзін з ідэолагаў вульгарна-сацыялагічнай крытыкі на Беларусі, лічыць, што Я. Купала вельмі павольна перабудоўваецца: «За апошні год-паўтара наша савецкая пралетарская грамадскасць мела магчымасць прачытаць толькі адзін верш Купалы «А ў Вісле плавае тапелец...». Гэтага, безумоўна, мала. Купала можа

і павінен даць больш, гэтага патрабуем не толькі мы тут з вамі, але гэтага патрабуюць працоўныя масы і Савецкай і Заходняй Беларусі»[1].

У часоп. «Чырвоная Беларусь», 1932, № 17, які прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы, паэт прадстаўлены толькі двума вершамі: «А ў Вісле плавае тапелец...» і «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...». 16 верасня 1932 г. на вечары, прысвечаным прыезду ў Мінск палітычных вязняў Заходняй Беларусі, паэт прачытаў верш «А ў Вісле плавае тапелец...» («Звязда», 1932, 18 верас.).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, В. Цвялёў, на ўкраінскую — А. Капштэйн, А. Паніў, на яўрэйскую — З. Аксельрод, на польскую — М. Мыслінскі.

*Сакрамент* — нешта свяшчэннае, рытуальнае.

*Крэсы* (польск.) — прыгранічная вобласць. *Усходнія Крэсы* — назва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якой карысталіся польскія шавіністы ў 1919—1939 гг., калі гэтая зямля была захоплена Польшчай.

*Бельведэр* — палац у Варшаве, дзе знаходзіўся ўрад Польшчы.

*Дэфензіва* — палітычная паліцыя Польшчы (1918—1939).

*Дзе крыўда адвечная спела* (с. 11)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1931, № 310, 16 лістап., з паметай: Менск, 1931 г.

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, В. Звягінцава, на чувашскую — М. Яўстаф'еў.

*Маладым паэтам* (с. 12)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — зб. «Песня будаўніцтву», 1936, з паметай: Менск. 16/XI—⟨19⟩31 г.

Ёсць падставы меркаваць, што верш быў апублікаваны ўпершыню ў перыядычным друку значна раней, чым выйшаў зб. «Песня будаўніцтву», 1936. Але гэтую крыніцу выявіць не ўдалося. У пацвярджэнне нашых меркаванняў сведчыць і той факт, што верш у перакладзе М. Ісакоўскага на рускую мову ўжо ў 1934 г. быў надрукаваны ў зб. «Поэзия Советской Белоруссии» (Смаленск).

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Зісман, С. Крыжаніўскі, М. Цярэшчанка, на армянскую — Л. Міры-джанян, на грузінскую — Г. Дзнеладзе, на туркменскую — А. Ніязаў, на кітайскую — Гэ Баоцюань, Чжу Цзі, на румынскую — С. Дэлчу.

*Песня будаўніцтву* (с. 13)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 з папраўкай у 12 радку паводле зб. «Песня будаўніцтву», 1936. У асноўным тэксце было: *Пралетараў варожыя класы.*

Упершыню — «Звязда», 1931, № 317, 25 лістап., з паметай: Менск. 22.XI—⟨19⟩31 г.

У Зборы твораў (1972—1976) дата першай публікацыі памылкова пазначана 23 лістап.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Гэтым вершам як своеасаблівым пралогам адкрываецца зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

---

[1] Бэндэ Л. Творчыя задачы пралетарскай літаратуры // «Узвышша», 1931, № 8.

Пад тэкстам верша дата напісання: 22.XI—⟨19⟩31 г. Роўна год назад, 22 лістап. 1930 г., Я. Купала перад спробай самагубства напісаў перадсмяротны ліст на імя Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякова А. Р. «Яшчэ раз, перад смерцю, заяўляю, што я ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць», — пісаў паэт. Ён быў даведзены да адчаю цкаваннем у друку такімі крытыкамі, як Бэндэ, выклікамі і допытамі ў ДПУ. Я. Купалу прымушалі прызнацца ў кіраўніцтве сфабрыкаванай ДПУ арганізацыяй «Саюз вызвалення Беларусі». Застаўшыся ў жывых, паэт быў вымушаны падпарадкавацца тагачаснай адміністрацыйна-каманднай сістэме.

Беларускі літаратуразнавец А. Лойка заўважае, што ў вершы «Песня будаўніцтву», дзе «першым радком Купала адчаканіў: «Прыйдзе новы — а мудры — гісторык», выявілася «прага новага, мудрага гісторыка — вось што пераўзыходзіла ўсё ў душы Купалы на працягу ўсіх 30-х гадоў. Прага ачышчэння ад бэндаўскага наслання, паклёпу, грубага, жорсткага зыначання праўды шляху паэта. Прага, як смага ў пустыні, пакутная, бо ад несправядлівасці...» (Лойка А. Выбр. тв. у 2-х т. Т. 1. Мн., 1992. С. 352—353).

У накіраваных у ДПУ звестках аб Я. Купале Л. Бэндэ адзначаў, што вершы «враждебного содержания в большинстве написаны ■ больном тоне, в повышенном ритме. Стихи, в коих Купала воспевает советскую действительность ■ минорных тонах, совершенно другого ритма и размера. В этого рода стихах не чувствуется такой возбужденности, чувствительности, размаха, сочности образа, как в стихах враждебного содержания. Они ■ большинстве своем сугубо рационалистические, во многих случаях с искусственно подогнанной рифмой. Особенно «Дыктатура працы», «Песьня будаўніцтву»...» (Протько Т., Лапец П., Антонович Т. Янка Купала: Трагический 1930-й // «Нёман», 1990, № 10).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Абрадовіч, С. Батвіннік, А. Карчагін, А. Чывіліхін, на ўкраінскую — М. Бажан, на літоўскую — А. Венцлава, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — У. Мэй, на карэйскую — «Карэйска-савецкая культура», Пхеньян, 1956, № 6 (перакладчык не названы), на румынскую — С. Дэлчу.

Пакладзены на музыку С. Картэсам (араторыя-паэма «Памяці паэта»).

*Ударніку* (с. 14)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

Упершыню — «Беларусь калгасная», 1932, № 2, з паметай: Менск. 1931 г., снежань.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — З. Ганчарук.

*Заўсёды наперад* (с. 15)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Беларусь калгасная», 1932, № 2, з паметай: Менск. 1931 г., снежань.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — Дз. Білавус, А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Дзеладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, А. Нілібаеў,

С. Сеітаў, на кіргізскую — А. Кыдыраў, К. Ырсаліеў, Ц. Уметаліеў, на літоўскую — А. Хургінас, на малдаўскую — П. Старасцін, на татарскую — Н. Арсланаў, на туркменскую — А. Ніязаў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Эсхель, на англійскую — У. Мэй, на фінскую — М. Лайнэ.

Паклалі на музыку М. Аладаў, І. Троска, М. Чуркін.

## 1932

*Настане такая часіна* (с. 17)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1932, № 86, 16 крас., з паметай: Менск. Сакавік 1932 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — А. Навіцкі, на азербайджанскую — Г. Беюкага, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — Э. Межэлайціс, на туркменскую — А. Ніязаў, на польскую — Т. Галавацкі, А. Гараўскі.

*Мікада* — тытул імператара Японіі; асоба, якая носіць гэты тытул.

*Прэлат* — у каталіцкіх і некаторых пратэстанцкіх цэрквах званне, якое надаецца высокапастаўленым духоўным асобам.

*Магамет* — скажоная еўрапейская форма імя Мухамед, які лічыцца заснавальнікам мусульманства.

*Егова* — Бог у іудзейскай рэлігіі.

*Буда* — заснавальнік будзійскага рэлігійнага вучэння.

*Адзінаццаць месяцаў...* (с. 19)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 з папраўкай у 11 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце было: *Няхай жые Польска!*

Упершыню — «Звязда», 1932, № 154, 11 ліп., пад загалоўкам «Адзінаццаць...». Пад тэкстам памета: Менск. Ліпень 1932 г.

У часоп. «Беларусь калгасная», 1932, № 6—7 змешчаны пад загалоўкам «Адзінаццаць месяцаў...».

Верш напісаны да 12-й гадавіны вызвалення БССР ад войск Польшчы. Пад тэкстам у зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 пазначаны недакладны дзень напісання верша: 11/VII. 11 ліп. верш быў надрукаваны, і таму ўзнікае сумненне, што ён быў напісаны і надрукаваны ў адзін і той жа дзень. Хутчэй за ўсё ў зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 пастаўлена дата вызвалення Мінска ад польскіх інтэрвентаў, паколькі верш напісаны да гадавіны вызвалення. Акупацыя Мінска польскімі войскамі адбылася 8 жн. 1919 г., а вызваленне — 11 ліп. 1920 г., адсюль і назва верша: «Адзінаццаць месяцаў...».

Першапачатковы друкаваны тэкст верша складаецца з двух раздзелаў. Апошні з гэтых раздзелаў быў надрукаваны ў пазнейшых выданнях як самастойны верш пад назвай «Пад чырвонай зоркаю».

Радкі 21—24 верша ў першадрукаваным тэксце адсутнічаюць. Гэтыя радкі *Засявае поле, // Будуе святліцы; // Люд працоўны, вольны // Шчыра весяліцца* былі дапісаны паэтам значна пазней, пры падрыхтоўцы верша да зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на туркменскую — А. Ніязаў.

*Пад чырвонай зоркаю* (с. 21)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе пад тэкстам пазначана дата апублікавання: 11/VII—⟨19⟩32 г.

Упершыню — «Звязда», 1932, № 154, 11 ліп., з паметай: Менск. Ліпень 1932 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Пры падрыхтоўцы верша да друку ў зб. «Песня будаўніцтву», 1936 у 29 радок верша *Калі фашысцкі захад* унесена, верагодней за ўсё па палітычных меркаваннях, праўка, і радок ужо меў іншую рэдакцыю *Калі рабскі захад.* Гэтая рэдакцыя радка захавалася і ў наступных публікацыях верша.

Верш пераклалі: на рускую мову — П. Кабзарэўскі, на таджыкскую — М. Фархат.

*Вялікаму Кастрычніку* (с. 22)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1932, № 21, 6 лістап., з паметай: Кастрычнік 1932 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны ў сувязі з пятнаццатай гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Я. Купала выкарыстаў радкі «Інтэрнацыянала» (р. 13—14): *Паўстаў праклящем катаваны, // Паўстаў, хто з голаду век пух* (Энцыклапедычны даведнік «Янка Купала». Мн., 1986. С. 138)[1].

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Ліпкін, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Д. Пілiпчук, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Дзнеладзе, на малдаўскую — П. Дарые, на тувінскую — О. Мангуш, М. Олуеў-оал, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — М. Яўстаф'еў.

На музыку верш паклалі Р. Пукст, М. Чуркін.

*Трыумфаваў каронны кат...* — маецца на ўвазе цар Мікалай II (1868—1918).

*Сатрап* — тут: жорсткі начальнік, самадур, дэспат, тыран.

*Суд ідзе* (с. 23)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1932, № 265, 28 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам памета: Менск. 22.XI⟨19⟩32 г.

Верш напісаны з нагоды маючага адбыцца суда над Б. Тарашкевічам, кіраўніком Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Суд быў прызначаны на 28 лістап. 1932 г.

Пасля першай публікацыі верш цалкам пры жыцці паэта больш не перадрукоўваўся. Трэцяя частка верша змешчана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1936, № 29, 1 мая як самастойны верш пад загалоўкам «Зашуміць, загудзіць...» і ў зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937. Прысвячэнне Б. Тарашкевічу, якое было ў першадруку, знята.

Прычынай, што верш цалкам пры жыцці паэта не друкаваўся, з'яўляецца тое, што Б. Тарашкевіч у канцы 30-х гадоў абвінавачваўся ў шпіянажу і ў 1937 г. быў арыштаваны. У 1938 г. расстраляны як «польскі шпіён». Рэабілітаваны Б. Тарашкевіч у 1957 г.

У пасмяротных Зборах твораў верш пачаў цалкам друкавацца толькі пасля рэабілітацыі Б. Тарашкевіча, а менавіта ў Зборы твораў (1961—1963). Пачынаючы з гэтага выдання, прысвячэнне ўзноўлена.

---

[1] У далейшым — ЭД.

Верш пераклаў на польскую мову А. Гараўскі.

*Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч* (1892—1938) — беларускі грамадска-палітычны і асветны дзеяч, філолаг. Акадэмік АН БССР (1928). У 1911 г. уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У 1918—1923 гг. адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. З 1925 г. член Кампартыі Заходняй Беларусі. Падрыхтаваў і выдаў першую «Беларускую граматыку для школ» (Вільня, 1918). Заснавальнік і кіраўнік масавай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі ў Заходняй Беларусі: Беларускай сялянска-работніцкай грамады (1925—1927). Двойчы, у 1927 і 1931 гг., быў арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены. У 1933 г. па абмену палітвязнямі пераехаў у СССР, у 1937 г. арыштаваны. Расстраляны 29 лістап. 1938 г. Рэабілітаваны ў 1957 г.

З Я. Купалам пазнаёміўся ў рэдакцыі «Нашай нівы», зблізіўся ў Пецярбургу, калі абодва там вучыліся (1911—1913). У 1928 г. Я. Купала быў абраны старшынёй камітэта навуковых працаўнікоў і пісьменнікаў БССР па абароне БСРГ і яе старшыні Б. Тарашкевіча. 2 красав. 1931 г. у лісце ў рэдакцыю газ. «Звязда» выказаў пратэст супраць арышту Б. Тарашкевіча. 4 снеж. 1932 г. у газ. «Літ. і мастацтва» змешчаны артыкул у абарону Б. Тарашкевіча, падпісаны групай беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і Я. Купалам.

*Славацкі Юльюш* (1809—1849) — польскі паэт і драматург. Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830—1831 гг. у эміграцыі. Пра Славацкага гаварыў у 1928 г. у заключным слове на судовым працэсе над членамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады Б. Тарашкевіч.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — вялікі славянскі паэт беларускага паходжання. Адзін з арганізатараў тайных таварystваў патрыятычнай моладзі. Быў арыштаваны, з 1824 г. у ссылцы. З 1828 г. у эміграцыі. Беларускую мову называў «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зменeнай». Паклаў пачатак станаўленню польскай нацыянальнай ідэі.

*Хайтурныя вашы званы зыгмунтовы...* — можна меркаваць, што гэта намёк на польскага караля Сыгізмунда III Ваза (1587—1632), які ў пачатку XVII ст. арганізаваў інтэрвенцыю супраць Рускай дзяржавы. Барацьба з Расіяй была пагібельнай для польскага народа, яна падарвала сілы Польшчы.

*Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч* (1796—1866) — дзяржаўны дзеяч Расіі, душыцель вызваленчага руху беларускага, польскага і літоўскага народаў, празваны за жорсткасць «вешальнікам». Арганізатар і кіраўнік жорсткага задушэння паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і Літве.

*Калісьці ў Галіцыі вас пілавалі...* — маецца на ўвазе паўстанне ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага супраць чужаземных прыгнятальнікаў у 1648 г.

*...за слупамі з арламі...* — выраз, характэрны для Купалы, паэт ужываў яго, калі гаворка ішла пра Заходнюю Беларусь. Гэты выраз сустракаецца, напрыклад, у вершы «Накарміліся панскаю ласкай...» (1939), у публіцыстычным творы «Ліст у рэдакцыю» (1930) і інш.

*Хай ліецца акавіта...* Акавіта (утворана ад лац. слоў: aqua (вада) і vita (жыццё) — тут: лепшы гатунак гарэлкі.

*Бельведэр* — гл. каментарый да верша «А ў Вісле плавае тапелец...», с. 224.

*Якубу Коласу* (с. 27)
(«Як калісь спявалі...»)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936, дзе апублікаваны з паметай: Менск. II/XII—⟨19⟩32 г.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1932, № 24, 15 снеж.; «Звязда», 1932, № 279, 15 снеж.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння Я. Коласа і прачытаны аўтарам на агульнагарадскім урачыстым вечары, прысвечаным юбіляру, які адбыўся 15 снеж. 1932 г.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Чывіліхін, на армянскую — Л. Мірыджанян, на грузінскую — З. Балквадзе, на калмыцкую — М. Ханінаў, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — Ю. Скварцоў.

*Дзіцячае* (с. 28)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны. Датуецца годам апублікавання.

Уключаўся ў зб. «Для дзяцей», 1940.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў (ч. II), Я. Мазалькоў (ч. I), А. Пракоф'еў (ч. I), на чувашскую — А. Эсхель (ч. I).

*Танок* — тут: карагод, круг.

## 1933

*Май* (с. 31)
(«Ходзіць май па свеце...»)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1933, № 19, 1 мая; «Звязда», 1933, № 95, 1 мая, з паметай: Менск, 19.IV—⟨19⟩33 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Лешчанка, П. Усэнка, на польскую — Р. Квяткоўскі, на фінскую — Я. Віртанен.

*Сатрап* — гл. заўвагу да верша «Вялікаму Кастрычніку», с. 227.

## 1934

*Трэба нам песень* (с. 33)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе датуецца 1934 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 132, 18 чэрв.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны адразу пасля Першага Усебеларускага з'езда пісьменнікаў (8—14 чэрв.), на якім Янку Купалу абралі членам праўлення ССП БССР і дэлегатам на I Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў (17 жн.— 2 верас.). На I Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў СССР замест прамовы Я. Купала прачытаў гэты верш.

У Зборы твораў (1972—1976) радкі 49—56 апушчаны. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, М. Сідарэнка, на літоўскую — В. Рэймерыс, на таджыкскую — Рахімі, на туркменскую — А. Ніязаў, на нямецкую — Х. Цынер, на чэшскую — К. Беднарж.

*То не шум баравы...* (с. 35)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 з папраўкай у 36 радку паводле зб. «Песня будаўніцтву», 1936. У асноўным тэксце было: *Нечуванай хваляй*. Пад тэкстам: Менск. 19-VI-⟨19⟩34 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 133, 20 чэрв.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш услаўляе подзвіг чэлюскінцаў і лётчыкаў, якія выратавалі ўдзельнікаў палярнай экспедыцыі.

Параход «Чэлюскін» 13 лют. 1934 г. быў расціснуты льдамі ў Чукоцкім моры. Удзельнікі рэйса былі выратаваны савецкімі лётчыкамі, якія першымі ў СССР атрымалі званне Героя Савецкага Саюза. У Маскву вярталіся праз беларускую станцыю Негарэлае.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на казахскую — Д. Мулдагаліеў.

*Нашай Канстытуцыі* (с. 37)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Менск. 1934 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 147, 6 ліп.; «Известия ЦИК», М., 1934, № 156, 6 ліп. (на бел. мове).

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны да X гадавіны першай Канстытуцыі СССР.

У Зборы твораў (1961—1963) 22 радок верша выпраўлены паводле першадруку: *І панскі прыгонны*. Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць унясенне гэтай праўкі фактычна неабгрунтаваным і таму неправамерным.

Пераклалі: на рускую мову — І. Садоф'еў, Е. Сокал, на казахскую — Д. Мулдагаліеў.

*Калгасу «Чырвоны баец»* (с. 38)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936.

Упершыню — «Бальшавік Барысаўшчыны», 1934, № 154, 14 ліп., з паметай: 10.VII ⟨19⟩34 г., калгас «Чырвоны баец».

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны ў калгасе «Чырвоны баец», дзе паэт быў у творчай камандзіроўцы ў ліп. 1934 г. Калгас знаходзіцца ў вёсцы Скупліно Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Верш упершыню надрукаваны ў калгаснай насценгазеце. Пра паездку ў Скупліно паэт пісаў у артыкуле «Сам напаўняешся вялікай радасцю» (1934). Вынікам непасрэдных нагляданняў і ўражанняў з'явіліся апрача названага вершы «На нашым полі», «Абвілася краіна...», «Я — калгасніца...», «Выпраўляла маці сына», «Хвалююцца морскія хвалі...», якія пад агульным загалоўкам «Песні» былі змешчаны ў святочным нумары газ. «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.

«Калгас «Чырвоны баец», [...] — зазначае Я. Купала ў артыкуле «Сам напаўняешся вялікай радасцю»,— заснован у былым панскім маёнтку пана Ёдкі. Пан пры наступленні Чырвонай Арміі збег разам з белапалякамі, якія яго цэлымі дзвюма ротамі «ахоўвалі» ад акаляючых сялян. Перад тым як збегчы, пан Ёдка ў бяссільнай злосці спаліў свой палац. Парабкі маёнтка стварылі спачатку саўгас, які потым, пры надзяленні зямлёй беззямельных і малазямельных, разбілі на пасёлкі. Цяжка, разумеецца, было беднаце падняцца на хутарах-пасёлках. Тады семнаццаць парабчанскіх сямей разам з беззямельнымі і малазямельнымі сялянамі вёскі Скупліно, якія таксама атрымалі

прырэзку зямлі з былога маёнтка, абагулілі свае хутаркі-пасёлкі і арганізавалі калгас» (Янка Купала. Публіцыстыка. Мн., 1972. С. 58—59).

*Я — калгасніца...* (с. 39)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.; часоп. «Работніца і калгасніца Беларусі», 1934, № 14, з паметай: «Калгас «Чырвоны баец». 15.VII—⟨19⟩34 г.».

Гл. каментарый да верша «Калгасу «Чырвоны баец», с. 230.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — І. Цітовіч, на грузінскую — Г. Дзнеладзе, на казахскую — С. Машакаў, на калмыцкую — М. Ханінаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Э. Адамсан, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — А. Эсхель, на венгерскую — Д. Тот, на славацкую — М. Крно, на французскую — Ж. Гаш.

Паклалі на музыку С. Палонскі, Р. Пукст, Дз. Смольскі (араторыя «Паэт»), А. Туранкоў, М. Чуркін, В. Яфімаў.

Па матывах верша — карціна М. Савіцкага «Калгасніца», ілюстрацыя М. Басалыгі.

*«Звяздзе»* (с. 40)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936 з папраўкамі ў 9, 15 і 19 радках паводле першадруку. У асноўным тэксце было адпаведна: *На варце савецкай, Грамадзе працоўнай, На ніве калгаснай.*

Упершыню — «Звязда», 1934, № 167, 30 ліп., з паметай: Менск. 28 ліпеня 1934 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш прысвечаны выхаду ў свет 5000-га нумара газ. «Звязда». Першы нумар выйшаў 27.7 (9.8).1917 г.

Пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*На нашым полі* (с. 41)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе датуецца 1934 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.

Гл. каментарый да верша «Калгасу «Чырвоны баец», с. 230.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Прыгара, на азербайджанскую — Г. Беюкага, А. Кюрчайлы, на асецінскую — А. Пухаеў, на башкірскую — С. Кудаш, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — Ю. Скварцоў, на албанскую — В. Д'эч, на венгерскую — Г. Кёмювеш, на славацкую — М. Крно.

На музыку верш паклалі В. Багуслаўскі, С. Палонскі, Р. Пукст, М. Сірата, А. Туранкоў, Л. Ямпольскі.

*Хвалююцца морскія хвалі...* (с. 42)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Менск. 1934 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.

Гл. каментарый да верша «Калгасу «Чырвоны баец», с. 230.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — А. Кацнельсон, на армянскую — Г. Халат, Г. Сар'ян, А. Цавак, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — І. Кемертэлідзе, В. Лаперашвілі, на казахскую — М. Машакаў, на кіргізскую — А. Кыдыраў і К. Ырсалієў, на латышскую — Х. Галіньш, на таджыкскую — М. Фархат, на чачэнскую — А. Шайхіеў, на балгарскую — Л. Стаянаў, на чэшскую — М. Марчанаў.

На музыку паклаў М. Чуркін.

*Абвілася краіна...* (с. 43)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з недакладнай датай: 1935 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.

Датуецца годам апублікавання.

Гл. каментарый да верша «Калгасу «Чырвоны баец», с. 230.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — Г. Дзугаеў, А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметалієў, на латышскую — Я. Судрабкалн, на кітайскую — Чжу Цзі.

На музыку верш паклалі Р. Пукст, Л. Ямпольскі.

*Выпраўляла маці сына* (с. 44)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Менск, 1934 г.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап.

У часоп. «Полымя», 1935, № 6 верш датуецца лістападам 1934 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, А. Ролін, А. Ром, на ўкраінскую — Е. Нарубіна, У. Сасюра, на азербайджанскую — Н. Рафібейлі, на асецінскую — Д. Мамсураў, А. Пухаеў, на грузінскую — З. Балквадзе, Т. Месхі, С. Эулі, на малдаўскую — П. Дарые, А. Чыбатару, на туркменскую — А. Ніязаў, на яўрэйскую — З. Аксельрод, на нямецкую — М. Цымерынг, на польскую — Б. Гагалеўская, на румынскую — С. Дэлчу.

Паклалі на музыку Л. Вярбоўскі, С. Палонскі, А. Туранкоў, Л. Ямпольскі.

У 1936 г. у конкурсе на лепшую песню, які праводзіўся СП СССР і рэдакцыяй газ. «Правда», за літаратурны тэкст песні Я. Купалу была прысуджана прэмія.

*Для тых, якіх люблю* (с. 45)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, з папраўкай у 22 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце было: *Сінявоку Марусю з калгаса.* Сэнсавая недакладнасць была выпраўлена ў выданні Выбр. тв., 1937, т. III.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1935, № 3, 19 студз., з паметай: Кіславодск, лістапад 1934 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Спачатку Я. Купала меркаваў назваць верш «Маруся і Марыся», што вынікае з яго ліста да С. М. Гарадзецкага з Кіславодска[1] ад 30 лістап. 1934 г.: «Посылаю тебе на всякий случай стихотворение,

---

[1] У Кіславодску Я. Купала знаходзіўся на лячэнні ў санаторыі КСВ (камісія па садзейнічанню вучоным; пазней санаторый імя М. Горкага) у верас. 1928, снеж. 1933 — студз. 1934, лістап.— снеж. 1934, лістап.— снеж. 1937, студз.— лют. 1938 і снеж. 1939 — лют. 1940 г. Тут напісаў вершы «Нібы эпіграмы», «Для тых, якіх люблю», «На смерць таварыша Кірава», «Нашаму дэпутату», «Дзень Канстытуцыі», «Песня», «Выбары», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага», «Чырвонай Арміі паходы».

написанное в Кисловодске,— «Маруся и Марыся». Тут, если хочешь, маленькая символика: имя Маруся у нас больше распространено в городе и на фабриках, заводах, а Марыся — на селе, в колхозах. Вот я на этом и хотел отыграться. Если понравится — переведи и где-нибудь напечатай» (Зб. тв., 1972—1976, т. 7. С. 485). С. Гарадзецкі пераклаў верш і пад назвай «Тем, кого люблю» змясціў у зборніку твораў Я. Купалы «Под новым солнцем» (М., 1936. С. 72—73).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Гарадзецкі, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — С. Машакаў, на латышскую — Э. Адамсан, на таджыкскую — М. Фархат, на чувашскую — Ю. Пятроў, на англійскую — У. Мэй.

Паклалі на музыку Дз. Смольскі (араторыя «Паэт»), А. Туранкоў, М. Чуркін, Л. Ямпольскі.

*Нібы эпіграмы* (с. 45)
(«Якубу Коласу», «Валодзю Хадыку»)

Друкуюцца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, № 38, 21 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам памета: Кіславодск, 1934.

Можна меркаваць, што вершы, аб'яднаныя агульнай назвай, напісаны ў лістападзе або ў снежні 1934 г., калі Я. Купала адпачываў у Кіславодску.

Пры жыцці паэта эпіграмы больш не друкаваліся.

У першым пасляваенным Зборы твораў (1951—1954) змешчана адна эпіграма («Якубу Коласу»), тэкст якой друкуецца па пасмяротнай публікацыі («Літ. і мастацтва», 1945, 1 чэрв.), дзе твор быў змешчаны пад назваю «Экспромт», як невядомы, «неапублікаваны» твор Я. Купалы. У каментарыях памылкова адзначана, што эпіграма друкуецца па прыжыццёвай публікацыі («Літ. і мастацтва», 1935, 21 ліп.). У 11 радку твора апушчана слова *«вольным»*, якое нясе значную сэнсавую нагрузку *(Але што значыць вольным адлегласці і час)*. Можна думаць, што ў пасмяротнай публікацыі («Літ. і мастацтва», 1945, 1 чэрв.) купалаўскі тэкст быў выпраўлены ў адпаведнасці з патрабаваннямі цэнзуры.

Другая эпіграма — «Валодзю Хадыку» — пасля першай публікацыі надрукавана толькі ў Зборы твораў (1961—1963). Гэта можна растлумачыць тым, што беларускі паэт Уладзімір Хадыка (1905—1940) у канцы 1936 г. быў арыштаваны, а ў кастр. 1937 г. асуджаны на 10 год пазбаўлення волі. 12 мая 1940 г. У. Хадыка трагічна загінуў на будоўлі чыгункі каля г. Улан-Удэ. Рэабілітаваны ў 1954 г. Як успамінае беларускі паэт А. Клішэвіч, які быў разам з У. Хадыкай у сібірскіх лагерах, «халодная Сібір, цяжкая праца ў забайкальскіх скалах не зламалі цвёрдай волі беларускага паэта, не вытруцілі ягонага замілавання да Беларусі... Гэтую замілаванасць, гэтую любоў да Бацькаўшчыны — Беларусі — Уладзімір Хадыка нёс у сваім сэрцы...» (Клішэвіч А. Памяці паэта Уладзіміра Хадыкі. // На суд гісторыі. Мн., 1994. С. 174—175). У сяброўскай «нібы эпіграме» «Валодзю Хадыку» выяўлены сімпатыі і сяброўскія пачуцці Я. Купалы да паэта. У. Хадыка апублікаваў «Адказ на пародыю Янкі Купалы. Ад сэрца» ў газ. «Літ. і мастацтва», 1935, 6 жн., тэкст якога падаецца ніжэй.

«Задумністых» вершаў я збаяў
За век свой ці многа, ці мала —
Аб лепшых сягоння я дбаю...
Дзень добры Вам, Янка Купала.

У падкопах не лыкам Вы шыты
І вострае маеце джала...
Вы ж першы ў рэспубліцы крытык!
Вітаю Вас, Янка Купала!..

Па-мойму, даўно ўжо Вам трэба
Было б так папасці ўдала,
Каб высмеяць горкі мой рэбус
Ушчыпліва, Янка Купала...

Я рад зразумелым быць свету,
Дзе даль ледзяная. адтала...
А што не ўдалося дагэтуль,—
Прабачце мне, Янка Купала.

Прымаю я Вашу ўразу,
Што гэтак да месца, прыпала...
Жадаю вясёлым з Каўказа
Прыехаць Вам, Янка Купала.

Прывезці нам смеху па мерцы
І думак, што радасць наткала.
Мы ўсе тут — ад шчырага сэрца
Чакаем Вас, Янка Купала!

*На смерць таварыша Кірава* (с. 46)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1934, № 278, 12 снеж.; «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 12, з паметай: Кіславодск. 4.XII-⟨19⟩34 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Л. Бэндэ ў артыкуле «Творчы шлях Янкі Купалы» адзначаў, што «верш «На смерць таварыша Кірава» з'яўляецца адным з самых яркіх, самых моцных і дасканалых вершаў усёй трыццацігадовай творчасці нашага паэта» («Полымя рэвалюцыі», 1935, № 10).

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Выгодскі, М. Паноў, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — В. Бычко, на армянскую — Л. Мірыджанян, на азербайджанскую — Э. Цэлета, Т. Эюбаў, на туркменскую — А. Ніязаў.

*Кіраў (Кострыкаў) Сяргей Міронавіч* (1886—1934) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1905, 1906—1908, 1911—1912 гг. зняволены ў турмах. Кіраўнік барацьбы за ўстанаўленне савецкай улады на Паўночным Каўказе. З лют. 1926 г. першы сакратар Ленінградскага губкома і адначасова Паўднёва-Заходняга бюро ЦК ВКП(б). З лют. 1934 г. сакратар і член Аргбюро ЦК ВКП(б). Ахвяра тэрарыстычнага акта.

## 1935

*З'езду Саветаў* (с. 48)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 12, 14 студз., з паметай: Менск. Студзень, 1935.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш прысвечаны XI Усебеларускаму з'езду Саветаў (14—22 студз.).

У Зборы твораў (1972—1976) адсутнічаюць радкі 41—44. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі на рускую мову М. Браўн, С. Гарадзецкі.

*Украіна* (с. 49)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 17, 20 студз., з паметай: Менск. 16.I.-⟨19⟩35 г. і заўвагай: «Гэты верш напісан па запрашэнню ЦО КП(б)У «Камуніст» для нумара, прысвечанага адкрыццю Усесаюзнага з'езда Саветаў».

VII Усесаюзны з'езд Саветаў, у рабоце якога браў удзел Я. Купала, праходзіў з 28 студз. па 6 лют. 1935 г.

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Малышка, А. Пашко, М. Цярэшчанка, на грузінскую — Іасамані, В. Лаперашвілі, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ш. Альдыбекаў, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Ніязаў, на балгарскую — А. Германаў, на нямецкую — М. Брозар, на польскую (перакладчык не названы) — у часоп. «Nasze Słowo» — «Наша слова» (Варшава, 1956, № 5).

*Скарападскі Павел Пятровіч* (1873—1945) — генерал царскай арміі. У 1918 г. быў гетманам Украіны, акупаванай Германіяй.

*Пятлюра Сімон Васілевіч* (1879—1926) — адзін з кіраўнікоў украінскай буржуазна-нацыяналістычнай контррэвалюцыі. З 1919 г. старшыня буржуазна-нацыяналістычнага ўрада.

*Махно Нестар Іванавіч* (1889—1934) — адзін з кіраўнікоў контррэвалюцыйнага анарха-кулацкага руху ў перыяд грамадзянскай вайны на Украіне.

*Дзянікін Антон Іванавіч* (1872—1947) — былы генерал царскай арміі. У часы грамадзянскай вайны галоўнакамандуючы контррэвалюцыйных войск на поўдні Расіі.

*Самалёту «Максім Горкі»* (с. 51)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Менск, 1935 г.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 114, 21 мая, пад загалоўкам «Памяці загінуўшых».

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны ў сувязі з трагічнай падзеяй: 18 мая 1935 г. пад час паказальнага палёту разбіўся найбуйнейшы на той час пасажырскі самалёт АНТ-20.

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з праўкай цэнзурнага характару. 23 радок меў наступную рэдакцыю: *Ёсць партыя... свабодны народ.* У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, на ўкраінскую — Д. Чапурны.

Верш паклаў на музыку Я. Цікоцкі.

*Сыны* (с. 52)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 140, 21 чэрв., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 г. 5 ліп. у перакладзе М. Галоднага верш быў надрукаваны ў газ. «Правда» (1935, № 183).

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф верша пад загалоўкам «Шэсць сыноў» (адз. зах. 279, л. 1—4); накід асобных строф (адз. зах. 280, л. 1).

«Сыны» — першы верш, які з'явіўся ў друку, месцам напісання якога аўтарам пазначана: «Ляўкі». У Ляўках, дзе ў сувязі з 30-годдзем творчай дзейнасці Я. Купалу была пабудавана дача, паэт звычайна жыў з пачатку вясны і да позняй восені. У Ляўках ім быў створаны шэраг вершаў (18): «Алеся», «Беларусі ардэнаноснай», «Вечарынка», «Госці», «Дарогі», «Дзве дзяўчыны», «Здаецца ж, было гэта ўчора...», «Лён», «Маё мне сонца правадыр...», «Партызаны», «Сонцу», «Сосны», «Старыя акопы», «Сыны», «Хлопчык і лётчык», «Шоў я пушчаю...», «Як у госці сын прыехаў...», «Як я молада была...». Тэрмін «ляўкоўскі цыкл» умоўны, бо і аўтар ніколі не аб'ядноўваў іх у асобны цыкл, накшталт цыклаў «Аб мужыцкай долі» (1907—1912), «З песень беззямельнага» (1907—1913).

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрай цэнзурнага характару: 60 радок у гэтым выданні адсутнічае. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Нагнібеда, на азербайджанскую — З. Джабарзадэ, М. Сеідзадэ, на армянскую — Н. Зар'ян, П. Севак, на грузінскую — А. Цуладзе, на латышскую — А. Сілабрыедэ, на мардоўскую-мокша — С. Самошкін, на таджыкскую — М. Фархат, на яўрэйскую — З. Аксельрод, на балгарскую — Н. Вылчаў, на венгерскую — І. Янаш, на нямецкую — Э. Фабры, на польскую — К. Яворскі, на румынскую — С. Дэлчу, В. Теадарэску.

Ілюстраваў Я. Раманоўскі.

*Дзе «Чэлюскін» горда плаваў...* — На параходзе «Чэлюскін» плавалі ўдзельнікі савецкай палярнай экспедыцыі 1933—1934 гг. Мэта экспедыцыі — прайсці Паўночны марскі шлях за адну навігацыю на неледакольным судне, даставіць зімоўшчыкаў і грузы на востраў Урангеля, сабраць навуковыя звесткі пра палярныя моры. У Берынгавым праліве судна было скавана крыгамі, вынесена дрэйфам у Чукоцкае мора і 13 лют. 1934 г. затанула.

*Сонцу* (с. 54)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1935, № 33, 28 чэрв., з паметай: Ляўкі. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі, Аршаншчына, чэрвень 1935 і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 22-д, л. 1).

Тэкст машынапісу супадае з першадрукам, і таму ёсць падставы лічыць, што гэта машынапіс, які паэт падрыхтаваў да першай публікацыі верша.

У першадрукаваным тэксце 12 радок меў іншы варыянт: *Як яго магілу // Паводка разрыла.*

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, М. Святлоў, М. Тарлоўскі, на ўкраінскую — А. Малышка, Дз. Паўлычка, А. Таран, В. Ткачэнка, В. Чабаненка, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, С. Сеітаў, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на кіргізскую — А. Кыдыраў, Ц. Уметаліеў, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — В. Бложа, на малдаўскую — П. Дарые, М. Цуркану, А. Чакану, на таджыкскую — М. Фархат, на эстонскую — Д. Ваарандзі, Х. Юрысан, А. Яаксоа, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — Н. Вылчаў, Л. Стаянаў, на польскую — Б. Гагалеўская, на румынскую — Д. Вікал.

На музыку верш паклалі А. Багатыроў, Л. Ямпольскі.

*Здаецца ж, было гэта ўчора...* (с. 55)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 150, 3 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 274, 275, 279), без подпісу і даты. Вывучаючы чарнавы аўтограф, можна адзначыць, што некаторыя радкі аўтар правіў да 3-х і нават 4-х разоў (41 радок), але шматлікія праўкі не выходзяць за межы лексічна-стылёвых змен.

Можна цалкам пагадзіцца з беларускім крытыкам Р. Бярозкіным, што многія ляўкоўскія вершы, упершыню надрукаваныя ў перыядычным друку, «могуць быць правільна зразуметы толькі па суседству, побач з тым, што выносілася з вялікага, непакойлівага свету на газетныя лісты і палосы» (Бярозкін Р. «Свет Купалы. Звенні», Мн., 1981. С. 212).

Так, 3 ліп. 1935 г. «Звязда» змяшчае верш «Здаецца ж, было гэта ўчора...» пра шлях краіны ад мінуўшчыны і да сённяшніх дзён. Верш арганічна манціраваўся з матэрыялам, змешчаным побач на паласе. 3 ліп. 1935 г. «Звязда» цытавала «Звязду» ад 2 ліп. 1920 г.: «Каля Жодзіна партызанскімі атрадамі ўзарваны тры эшалоны пятай дывізіі белапалякаў». У нізе газетнай паласы змешчана фота: касьба ў калгасе «Камунар» Хойніцкага раёна. І напамінак аб партызанскім подзвігу, і фотакарэспандэнцыя з калгасных палёў складалі адзінае цэлае з вершам, як бы ілюстравалі яго.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, на ўкраінскую — А. Малышка, на казахскую — Ш. Альдыбекаў, на латышскую А. Веян, на малдаўскую — Ю. Кыркелан (ч. 2), на таджыкскую — М. Фархат, на польскую — Ю. Ратайчак.

На музыку верш паклалі Я. Цікоцкі, Л. Ямпольскі.

*Старыя акопы* (с. 57)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 152, 5 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935.

У ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 г. і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 24-д, л. 1—2). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам, і таму ёсць падстава лічыць, што гэта машынапіс, які паэт падрыхтаваў да першай публікацыі верша.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны ў сувязі з 15-й гадавінай вызвалення Беларусі ад польскіх інтэрвентаў. Ляўкоўскія краявіды, старыя акопы, выкапаныя ўздоўж Дняпра, натхнілі паэта на стварэнне верша. «Калі я ўспамінаю Ляўкі [...] — адзначае У. Ф. Луцэвіч,— перада мною заўсёды ўстае высокі бераг Дняпра, стары сасновы бор, задумны, шумлівы... Каля Дняпра, зарослыя кустамі чаромхі, арэшыны, у высокай зялёнай траве, акопы, бліндажы — памяць першай сусветнай вайны (Луцэвіч У. З успамінаў пра Янку Купалу // Такі ён быў. Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1975. С. 43).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — У. Сасюра, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — П. Кейдошус, на балгарскую — А. Германаў, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — І. Барт.

*Сосны* (с. 58)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1935, 6 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 г. і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 23-д, л. 1). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам, і таму ёсць падставы лічыць, што гэта машынапіс верша, які паэт падрыхтаваў да першай публікацыі.

Жонка паэта, У. Ф. Луцэвіч, успамінае: «Калі Купала задумваў напісаць які-небудзь новы верш, ён рабіўся яшчэ больш маўклівым, імкнуўся тых, хто акружаў яго, адаслаць ад сябе. Тады я ўжо ведала, што ён думае над новым творам і што яго нельга трывожыць. Аднойчы ён у глыбокай задуме сядзеў на ганку. Сонца заходзіла. Праменні яго залацілі ствалы сосен. У гэты вечар Купала напісаў верш «Сосны» (Луцэвіч У. З успамінаў пра Янку Купалу // Такі ён быў. Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1975. С. 44).

На думку беларускага літаратуразнаўца А. Лойкі, «купалаўскі вобраз соснаў падагульняў нацыянальную традыцыю паэтызацыі сасны як сімвала роднага краю і даваў імпульсы для новых паэтычных адкрыццяў гэтага характэрнага для нацыянальнага ландшафту дрэва. У пасляваеннай беларускай савецкай паэзіі вобраз сасны стаў адным са скразных у паэзіі М. Танка (зб. «Нарачанскія сосны», 1972), лірыцы А. Куляшова (зб. «Сасна і бяроза», 1970)» (ЭД. С. 571).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, Я. Мазалькоў, Н. Кіслік, В. Ясенеў, на ўкраінскую — Р. Бойка, А. Малышка, на літоўскую — Э. Матузявічус, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на эстонскую — М. Вээтам, на польскую — В. Кочнаў, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

На музыку паклаў А. Туранкоў.

*Беларусі ардэнаноснай* (с. 59)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 157, 11 ліп.; «Літ. і мастацтва», 1935, № 36, 11 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г. У газ. «Чырвоная змена», 1935, № 152, 11 ліп. надрукаваны III раздзел верша пад назвай «Ордэн Леніна сягоння твае ўквеціць грудзі».

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш напісаны да 15-й гадавіны вызвалення БССР ад польскіх інтэрвентаў і дня ўручэння рэспубліцы ордэна Леніна. Быў надрукаваны ў газетах менавіта 11 ліп., у дзень вызвалення Мінска. 16 ліп. у перакладзе М. Святлова надрукаваны ў газ. «Известия» (№ 161). Верш, змешчаны адначасова ў некалькіх газетах, гучаў як урачыстая кантата. 9 ліп. 1935 г. паэт прачытаў яго на Усебеларускім радыёмітынгу, прысвечаным дню вызвалення Беларусі і ўручэнню рэспубліцы ордэна Леніна.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф без подпісу і даты (адз. зах. 273, л. 1—5). Параўнальны аналіз чарнавога аўтографа і асноўнага тэксту верша сведчыць, што тэкст верша ў асноўным быў выпрацаваны паэтам ужо ў чарнавым варыянце і таму істотных сэнсавых і кампазіцыйных адрозненняў не наглядаецца. Але дапрацоўваю-

чы чарнавік, аўтар унёс усё ж шматлікія змены стылёва-моўнага характару, дапісаў радкі 29—32.

Што датычыцца пасмяротных выданняў, то, пачынаючы са Збору твораў (1961—1963), верш друкаваўся без 117—120 радкоў па цэнзурных меркаваннях.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, М. Святлоў, на ўкраінскую — М. Булатовіч, А. Малышка.

Верш паклаў на музыку С. Палонскі (ч. 3).

*Госці* (с. 62)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 161, 17 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш мае фактычна рэальную аснову. Так, калгаснік сельгасарцелі імя К. Маркса М. Старавойтаў успамінае: «Летам таго ж 1935 г. у госці да Купалы прыйшла група актыву нашага калгаса — старшыня, брыгадзіры, даяркі і іншыя. У ліку іх быў і я. Мы прынеслі свой скромны падарунак — хлеб-соль, мёд, кветкі. Доўга працягвалася цёплая сяброўская гутарка аб калгасным жыцці-быцці. Было бачна, што сустрэча зрабіла на паэта моцнае ўражанне. Праз некалькі дзён ён прачытаў нам свой верш «Госці» (М. Старавойтаў. Незабыўныя сустрэчы. // Любімы паэт беларускага народа. Мн., 1960. С. 244).

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф верша без подпісу, даты і загалоўка (адз. зах. 277-а, л. 1—2).

У аўтографе адсутнічаюць першыя шаснаццаць радкоў і 25—28 радкі. Шматлікія праўкі носяць стылёва-моўны характар. У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 19-д, л. 1—2). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — С. Літвін, А. Малышка, А. Шчарбак, на армянскую — Ахаўні, на асецінскую — Г. Дзугаеў, А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Кашкінаў, на латышскую — А. Крукліс, на літоўскую — Э. Межэлайціс, на туркменскую — Х. Дурдыеў, на ўзбекскую — Тулкун, М. Шэйхзадэ, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

Ілюстравалі А. Волкаў, Я. Чарняцін.

*Вечарынка* (с. 64)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 165, 23 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Верш напісаны «з натуры», у ім цалкам захоўваецца фактычная аснова.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 274-д, л. 1—2) без подпісу і даты. Акрамя чарнавога аўтографа ў ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 г. і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 18-д, л. 1—2). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам.

На думку беларускага літаратуразнаўца А. Лойкі, «усё маладое калгаснае сялянства 30-х гадоў убачыла ў гэтым вершы сябе, а Купа-

ла пісаў яго, ведаючы, што на гармоніку іграе не безыменны музыка, а Васіль Раманцаў, як ведаў ён і прозвішчы ўсіх тых, хто назаўтра, пасля вечарынкі, у нядзелю прыйшоў да яго з хлебам-соллю на дачу на кручы. Паважаны, задумёны старшыня калгаса Шастоўскі, маладзейшы і рухавейшы за яго брыгадзір Сямён Баразноў, свінарка Дзерадзоўская, трактарыстка Маша Ахрэмава, звеннявая Вайцяхоўская, конюх Чаркасаў, Міхаіл Старавойтаў» (Лойка А. Выбр. тв. у 2-х т. Т. І. Мн., 1992. С. 376).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — П. Дарошка, А. Малышка, А. Юшчанка, на армянскую — Н. Зар'ян, П. Севак, на ўзбекскую — Тулкун, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — І. Ведрын, І. Добраў, на французскую — Ж. Гаш.

Верш паклалі на музыку С. Палонскі, Л. Ямпольскі.

Сяброўскі шарж на тэму верша выканаў В. Волкаў.

Ілюстравалі М. Басалыга і А. Волкаў.

*Алеся* (с. 65)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 169, 28 ліп., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф асобных строф (адз. зах. 274, л. 2; адз. зах. 275, л. 1). 4 радкі (13—16) у чарнавым варыянце верша адсутнічаюць.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — А. Малышка, М. Цярэшчанка, М. Шпак, на армянскую — Н. Зар'ян, Г. Сар'ян, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Качахідзе, на казахскую — Р. Нурпеісаў, К. Тагузакаў, на калмыцкую — М. Ханінаў, на літоўскую — В. Рэймерыс, на малдаўскую — Э. Букаў, П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на татарскую — А. Ісхак, на туркменскую — А. Кавусаў, на ўзбекскую — Міртэмір, М. Шэйхзадэ, на чувашскую — Г. Яфімаў, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — А. Германаў, на венгерскую — Д. Месёй, на нямецкую — З. Эстэррайхер, на польскую — А. Слуцкі, К. Яворскі, на французскую — у анталогіі паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

На словы верша напісалі рамансы П. Падкавыраў, Р. Пукст, Л. Ямпольскі.

Верш ілюстравалі М. Басалыга, М. Бельскі, А. Волкаў, А. Лось, Я. Чарняцін.

*Хлопчык і лётчык* (с. 66)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Іскры Ільіча», 1935, № 7, з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф без подпісу і даты з праўкамі стылёва-моўнага характару (адз. зах. 278, л. 1—4; адз. зах. 281, л. 1; адз. зах. 283, л. 1).

Беларускі літаратуразнавец Алеся Александровіч успамінае размову, у часе якой Я. Купала расказаў ёй, як прыйшла да яго думка

напісаць верш «Хлопчык і лётчык», калі паэт жыў летам на дачы, у Ляўках. Аднойчы ён сустрэў на вуліцы хлопчыка, захопленага гульнёй. Той «імкліва бег насустрач, колам кружачы перад сабой рукі; ён бег і гудзеў, падрабляючы пад гук самалёта... Твар у яго быў сур'ёзным, сабраны на адной думцы. Мяне гэта ўразіла. І неяк міжвольна я кінуў яму ўслед: «Кім быць хочаш?» Ён, не спыняючы бег, павярнуў да мяне галаву і звонкім дзіцячым голасам, але пераканаўча, адказаў: «Лётчыкам!» Гэта сустрэча пакінула ў сэрцы маім цёплы, радасны след. Вобраз гэтага хлопчыка стаяў у маіх вачах, і я напісаў верш: «Хлопчык і лётчык» (Я. Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы. Мн., 1952. С. 65).

У час Айчыннай вайны як своеасаблівы працяг Я. Купала напісаў верш «Хлопчык і лётчык на вайне» (1942).

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) радкі 25—28 адсутнічаюць па цэнзурных меркаваннях.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Васілёнак, М. Галодны, С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — Т. Масэнка, М. Прыгара, на азербайджанскую — М. Сеідзадэ, на армянскую — Н. Зар'ян, Г. Сар'ян, М. Херанян, на асецінскую — С. Джанаеў, А. Пухаеў, на грузінскую — І. Вешапідзе, Н. Гапрындашвілі, Л. Гегечкоры, Іасамані, А. Чыладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Б. Сабыраў, на латышскую — Ю. Ванаг, А. Сілабрыедэ, на літоўскую — А. Жукаўскас, А. Хургінас, на малдаўскую — П. Дарые, П. Задніпру, на таджыкскую — Дзіяры, на туркменскую — А. Ніязаў, М. Сеідаў, на ўзбекскую — А. Абдулаеў, Дж. Джабараў, Міртэмір, на эстонскую — Х. Тыйдус, на яўрэйскую — З. Аксельрод, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — Д. Статкаў, на іспанскую — К. Арконд, на польскую — Ф. Раманоўскі, на фінскую — Я. Віртанен, на французскую — Ж. Гаш, на чэшскую — К. Беднарж.

Ілюстравалі верш У. і М. Басалыгі, А. Волкаў, М. Манасзон. Паводле верша М. Савіцкі напісаў карціну «Мара».

Верш паклалі на музыку І. Любан, С. Палонскі, Я. Цікоцкі, Л. Ямпольскі.

На Усесаюзным конкурсе дзіцячай песні, абвешчаным ЦК ВЛКСМ, адзначаны 1-й прэміяй (1936, музыка В. Белага).

*Як я молада была...* (с. 67)

Друкуецца па зб. «Песня будаўніцтву», 1936, дзе апублікаваны з паметай: Ляўкі, Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 173, 2 жн.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — А. Капштэйн, А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на таджыкскую — М. Фархат.

*Лён* (с. 68)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень. 1935 г.

Упершыню — «Правда», 1935, № 189, 11 ліп., у перакладзе М. Галоднага, на беларускай мове — «Звязда», 1935, № 182, 12 жн.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца два чарнавыя аўтографы без подпісу і даты (адз. зах. 278, л. 1—4). Адзін з аўтографаў з'яўляецца па сутнасці першай рэдакцыяй верша і вельмі значна адрозніваецца ад канчат-

ковага тэксту. Тэкст гэтага аўтографа цалкам падаецца ў раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты».

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, А. Малышка, П. Тычына, на азербайджанскую — Э. Алібейлі, на літоўскую — В. Рэймерыс, на малдаўскую — П. Дарые, на чувашскую — А. Эсхель, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — У. Мэй, на венгерскую — А. Гідаш, Д. Месёй, на нямецкую — М. Рэманэ, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

Ілюстрацыі паводле матываў верша зрабілі А. Лось, М. Савіцкі.

На музыку верш паклалі Л. Ямпольскі, М. Чуркін, Л. Ляшэнка.

*Партызаны* (с. 70)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, з папраўкай у 13 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце было: *А на вогнішча попелу горсці.* У дадзеным выпадку ад замены адной літары (*вогнішча // вогнішчы*) узнікае сэнсавая няўвязка.

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 7, з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III.

У вершы паэтызуецца героіка партызанскай барацьбы ў гады грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі.

У ДзЛМЯнК захоўваўся чарнавы аўтограф (адз. зах. 283, л. 1; адз. зах. 281, л. 1). У чарнавым аўтографе можна бачыць сляды карпатлівай працы аўтара над кожным радком верша. Так, напрыклад, апошняму радку 1 страфы верша папярэднічалі чатыры варыянты: *Усміхалася сонца і зоры, // Іх праводзіла сонца і зоры, // Шлях паказвала сонца і зоры, // Шлях ім значыла сонца і зоры*; 7 радку — тры варыянты: *Задымеліся вогнішчы ў пушчы, // Запылалі агні на папасе, // Запылалі агні на начлезе*; 15 радку — тры варыянты: *Над касцямі воўк ляскаў зубамі // Ваўкі вылі, свае грызлі пальцы // Ваўкі вылі на блізкай палянцы...* і г. д.

У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама фотакопія машынапіснага тэксту з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 і подпісам: Янка Купала (адз. зах. 21-д, л. 1). Тэкст машынапісу супадае з першадрукам.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, І. Сельвінскі, А. Чывіліхін, на грузінскую — А. Бегашвілі, на літоўскую — Э. Матузявічус, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на эстонскую — Х. Юрысан, на румынскую — С. Дэлчу.

На музыку паклаў М. Чуркін.

*Дарогі* (с. 71)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 7, з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935 г.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песня будаўніцтву», 1936; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, В. Колычаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на таджыкскую — М. Фархат.

Паклаў на музыку А. Туранкоў.

*Маё мне сонца правадыр...* (с. 72)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе апублікаваны з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Чэрвень 1935.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1935, № 70, 31 снеж.
Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.
У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.
Пераклалі на рускую мову У. Азараў, Н. Кіслік.

*Як у госці сын прыехаў...* (с. 73)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.
Упершыню — «Правда», 1935, № 236, 27 жн. у перакладзе М. Панова; на беларускай мове — «Звязда», 1935, № 238, 18 кастр., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына, ліпень 1935 г.
Літаратуразнавец М. Ярош лічыць, што верш «Выпраўляла маці сына» (1934) з'яўляецца як бы першай часткай верша «Як у госці сын прыехаў...» (ЭД. С. 696).
У зб. «Для дзяцей» (1940) надрукаваны ўрывак пад назвай «Парад» (15—17 строфы) і ўрывак пад назвай «Наш палкаводзец» (20—25 і 27 строфы). Гэтыя ж урыўкі пад тымі ж загалоўкамі змешчаны ў зб. вершаў «Слава Арміі Чырвонай» (1941). У вышэйназваных зборніках 77, 78, 84 радкі маюць іншую рэдакцыю, чым ва ўсіх прыжыццёвых публікацыях верша:

| зб. «Для дзяцей» (1940), зб. «Слава Арміі Чырвонай» (1941): | Усе прыжыццёвыя выданні: |
|---|---|
| 77 — Раскажу я маме мілай, | 77 — Ды скажу табе я мілай: |
| 78 Які ў нас быў дзень адменны | 78 Дзень той быў у нас не штодзённы: |
| 84 Такі родны, такі блізкі! | 84 Хоць далёкі, а так блізкі! |

Па нашых меркаваннях, праўкі ў зб. «Для дзяцей» і зб. «Слава Арміі Чырвонай» не былі аўтарскімі. Верагодней за ўсё варыятыўнасць радкоў узнікла ў выніку рэдактарскай праўкі, унесенай пры падрыхтоўцы верша спецыяльна да зб. «Для дзяцей», 1940, а потым верш быў перадрукаваны ў зб. «Слава Арміі Чырвонай», 1941 без змен.
Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.
Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, М. Лазінскі, М. Паноў, на ўкраінскую — Д. Пііпчук, на грузінскую — М. Патарыдзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — А. Веян, на чэшскую — К. Беднарж.
Ілюстраваў Дз. Красільнікаў.
*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — савецкі дзяржаўны, партыйны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935). Двойчы Герой Савецкага Саюза (1956, 1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1960). Сустракаўся з Я. Купалам у чэрв. 1940 г. на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. У вершах «Як у госці сын прыехаў...» (1935), «Песня» («Ой, рана, рана войска ўставала...») (1937), «Чырвонай Арміі паходы» (1938) Я. Купала з пэўнай ступенню рамантычнай ідэалізацыі характарызуе Варашылава як легендарнага палкаводца часоў грамадзянскай вайны, вылучае ў яго асобе тыповыя рысы камандзіра Чырвонай Арміі: мужнасць, смеласць, душэўнасць, бацькоўскія клопаты пра байцоў, патрабавальнасць да іх.

*Шоў я пушчаю...* (с. 76)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, з папраўкай у 9 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце было: *Хоць бы ўжо расстацца з ночкай.*
Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1935, № 42, 12 жн., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Жнівень 1935 г. У гэтым нумары газеты верш

надрукаваны з памылкамі, і таму 18 жн. газета змясціла папраўку.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Патарочa* — здань, пудзіла.

*Дзве дзяўчыны* (с. 77)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Правда», 1935, № 253, 13 вер., у перакладзе М. Панова; на беларускай мове — «Літ. і мастацтва», 1935, № 54, 12 кастр., з паметай: Ляўкі. Аршаншчына. Жнівень 1935 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Паноў, на ўкраінскую — А. Малышка, Ф. Скляр, П. Тычына, Дз. Чапурны, на чэшскую — І. Барт.

Паклаў на музыку П. Падкавыраў.

*Нашаму святу* (с. 78)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1935, № 254, 7 лістап.; «Літ. і мастацтва», 1935, № 59, 7 лістап., з датай: 2.XI—⟨19⟩35 г.; на рускай мове — «Правда», 1935, № 308, 7 лістап., у перакладзе М. Галоднага.

Верш прысвечаны XVIII гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Для дзяцей», 1940 (1, 2 і 10-я строфы верша).

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) верш друкаваўся з купюрай: апушчаны чатыры апошнія радкі.

Пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Ісакоўскі, на армянскую — А. Ісаакян, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Д. Мулдагаліеў, на літоўскую — В. Бложа, на таджыкскую — М. Фархат, на татарскую — М. Максуд, А. Шамукаў, на англійскую — У. Мэй, на румынскую — С. Дэлчу.

На музыку паклалі С. Палонскі, І. Троска, М. Чуркін.

## 1936

*Прывет вам...* (с. 80)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 33, 10 лют.; «Літ. і мастацтва», 1936, № 8, 10 лют., з паметай: Менск. Люты 1936 г.

Верш напісаны да адкрыцця III пленума праўлення ССП СССР, прысвечанага пытанням паэзіі, які праходзіў у Мінску 10—16 лют. 1936 г. 10 лют. Я. Купала вітаў удзельнікаў пленума і прачытаў верш «Прывет вам...» («Звязда», 1936, № 34, 11 лют.).

Праблема прызначэння мастацтва ў новым грамадстве закранаецца таксама ў вершах «Маладым паэтам» (1931), «Якубу Коласу» («Як калісь спявалі...») (1932), «Трэба нам песень» (1934).

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

У Зборы твораў (1972—1976) радкі 25—32 апушчаны. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, А. Пракоф'еў, на армянскую — Ц. Шагенц, на грузінскую — А. Бегашвілі, на літоўскую — Э. Межэлайціс, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — У. Мэй.

*Камсамолу* (с. 82)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937. Пад тэкстам недакладная дата: сакавік 1935 г.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 56, 10 сак.; «Чырвоная змена», 1936, № 51, 10 сак., з паметай: Менск. Сакавік 1936 г.

Верш напісаны напярэдадні адкрыцця X з'езда УЛКСМ, які праходзіў 10—21 красав. 1936 г.

У Выбр. тв., 1937 пад тэкстам дата, якая пацвярджае дату напісання, пазначаную паэтам пры першай публікацыі верша: 1936 г. У выданні «Зборнік для гурткоў мастацкай самадзейнасці», Мн., 1938 верш друкаваўся пад назвай «Сталінскія арляняты».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на армянскую — Н. Зар'ян, П. Севак, на грузінскую — Іасамані, М. Патарыдзе, на чувашскую — М. Шубасіні, на венгерскую — Е. Грыгашы, на чэшскую — К. Беднарж.

На музыку паклаў П. Ахраменка.

Ілюстраваў Дз. Красільнікаў.

*Песня трактарысткі* (с. 85)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 132, 11 чэрв.; «Літ. і мастацтва», 1936, № 34, 11 чэрв., пад загалоўкам: «Песня Тані-трактарысткі з Прымінскай МТС» і паметай: Менск. 7.VI-⟨19⟩36 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, А. Шарапаў, на ўкраінскую — Е. Нарубіна, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на албанскую — В. Д'эч.

Паклалі на музыку Р. Пукст, А. Туранкоў.

*Якубу Коласу* (с. 87)
(«Жыві у радасці і ў шчасці...»)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 234, 11 кастр.; «Літ. і мастацтва», 1936, № 57, 11 кастр., з паметай: Менск. Кастрычнік 1936 г.

Верш напісаны да 30-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці народнага паэта Якуба Коласа.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

11 кастр. 1936 г. на агульнагарадскім юбілейным вечары, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Коласа, Я. Купала вітаў юбіляра вышэйназваным вершам.

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрай цэнзурнага характару: 12 радкоў (57—68) апушчаны. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — С. Бацвіннік, М. Браўн, С. Гарадзецкі, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — І. Ганчарэнка, на румынскую — С. Дэлчу.

*Ты помніш, помніш, Колас мілы, // Як я к табе ішоў у госці...* Я. Купала прыгадвае першую сустрэчу з Я. Коласам летам 1912 г.

*Іспанія будзе свабоднай* (с. 89)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 252, 2 лістап., з паметай: Менск, 30 кастрычніка 1936 г.; 12 лістап. 1936 г. (№ 63) газ. «Літ. і мастацтва»

змясціла верш са зменамі. 33—36 радкі гучалі так: *Змяце мецяжы гнеў народны, // Расквецяцца долы і нівы, // Іспанія будзе свабоднай, // Іспанія будзе шчаслівай.*

Верш з'яўляецца водгукам на падзеі 1936—1939 гг. у Іспаніі.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — А. Навіцкі, Дз. Паўлычка, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — Э. Межэлайціс, на румынскую — С. Дэлчу.

*Севілля* — горад на поўдні Іспаніі, цэнтр правінцыі Севілля.

*Грэнада* — тут: горад у Іспаніі.

*Лорды плімуты... Плімут* — горад, буйны ваенны порт у Англіі. Тут ужыта як агульнае імя прадстаўнікоў буржуазіі Англіі.

*Каталонцы* — жыхары паўночна-ўсходняй Іспаніі, галоўным чынам Каталоніі.

*Астурыя* — вобласць у паўночнай Іспаніі.

*Табе, правадыр...* (с. 90)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Звязда», 1936, № 268, 23 лістап.; «Полымя рэвалюцыі», 1936, № 11, з датай: 20.XI-1936 г.

Уключаўся і ў Выбр. тв., 1937, т. III.

Я. Купала прачытаў верш 21 лістап. 1936 г. на вячэрнім пасяджэнні XII Надзвычайнага Усебеларускага з'езда Саветаў (20—23 лістап.).

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, Л. Палонская, на ўкраінскую — А. Капштэйн, М. Шпак, на армянскую — Х. Рачан, на латышскую — В. Віліпс, М. Грынфелдэ, на літоўскую — А. Венцлава, на туркменскую — Ч. Ашыраў, А. Ніязаў, на ўзбекскую — Міртэмір, на эстонскую — Р. Парвэ (3 страфы), на нямецкую — А. Курэла, на чэшскую — К. Беднарж.

Паклалі на музыку М. Белкін, В. Яфімаў.

## 1937

*Мала іх павесіць...* (с. 96)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 56, 1 лют., з паметай: Мінск. 29 студзеня 1937 г.

Рытарычны водгук на выкрыццё здрадніцкай дзейнасці трацкістаў.

Уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1937, т. III; у зб. «Для дзяцей», 1940 друкаваліся 18, 19, 22, 23 строфы верша пад назвай «Мая радзіма».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

*На тэму крытыкі і самакрытыкі* (с. 99)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1937, № 94, 23 крас.; «Літ. і мастацтва», 1937, № 21, 23 крас. пад загалоўкам «На тэму самакрытыкі», з паметай: Мінск, 20.IV-1937 г.

23 крас. 1936 г. паэт прачытаў верш на ўрачыстым пасяджэнні праўлення ССП БССР, прысвечаным 5-й гадавіне пастановы ЦК

ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Гэтай нагодай і было выклікана з'яўленне твора, які мае характар разгорнутага надзённага выступлення.

Другая частка верша (радкі 29—48), у якой Я. Купала ў сатырычнай форме бічуе беспрынцыповых прыстасаванцаў і кан'юнктуршчыкаў ад крытыкі, убачыла свет у зб. «Ад сэрца», 1940. Радкі 9—12 і 53—60 таксама ўпершыню былі надрукаваны ў 1940 г. у зб. «Ад сэрца». У гэтым зборніку верш быў упершыню надрукаваны пад загалоўкам «На тэму крытыкі і самакрытыкі». Можна меркаваць, што змена назвы звязана з уключэннем у верш радкоў 29—48.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Гарадзецкі, І. Залатарэўскі, на ўкраінскую — Р. Бойка, на казахскую — Г. Жумабаеў, на кіргізскую — «Кыргызстан маданіяты» («Культура Кіргізіі», 14.9.1972, перакладчык не названы), на літоўскую — І. Грайчунас, на чувашскую — С. Шаўлы.

*Май* (с. 102)
(«Да нас у госці май прыходзіць...»)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 23, 1 мая, з паметай: Мінск. 24 красавіка 1937 г.; «Звязда», 1937, № 95, 1 мая.

Механічная памылка ў асноўным тэксце, якая несла сэнсавую недакладнасць у 65 радку верша *Шумяць пад імі ясакары* замест *Шумяць над імі ясакары* выпраўлена толькі ў першым пасляваенным Зборы твораў (1951—1954). У наступным, шасцітомным Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся без 12 радкоў (73—84). Купюра зроблена па палітычных меркаваннях.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, М. Сідарэнка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Ніязаў.

*Святочныя вершы* (с. 105)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістап., з паметай: Мінск, лістапад 1937 г.

Верш напісаны з нагоды 20-гадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У Зборы твораў (1961—1963) верш не друкаваўся, а ў Зборы твораў (1972—1976) быў змешчаны без 21—24, 41—44, 49—52 радкоў. Відавочна, што скарачэнні зроблены па цэнзурных меркаваннях.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Сідарэнка, на армянскую — М. Карамян, на нямецкую — Ф. Лешнітцэр, Г. Цынер.

*Нашаму дэпутату* (с. 107)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1937, № 269, 23 лістап., з паметай: Кіславодск, 17.XI-⟨19⟩37 г.

Верш з'яўляецца водгукам на вылучэнне К. Я. Варашылава дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР ад Беларусі.

У ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія аўтографа верша, тэкст якога супадае з першадрукам (адз. зах. 284). Пасля загалоўка пазначана: «Нарком абароны тав. Варашылаў даў згоду быць дэпутатам у Вярхоўны Савет ад Менскай гарадской акругі (Беларусь)».

У першапачатковым друкаваным тэксце пасля 20-га радка маецца страфа:

Народ беларускі пазбыўся сатрапаў,
Палі свае сее спакойна штогод,

Не страшны яму дэфензівы, гестапы,
Ні панская Польшча, ні Гітлераў зброд.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, І. Садоф'еў, на грузінскую — К. Бабахідзе.

*Варашылаў К. Я.* — гл. заўвагу да верша «Як у госці сын прыехаў...», с. 243.

*Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага* (с. 108)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 12, з паметай: Кісла-водск, 27.XI-⟨19⟩37 г.

Верш напісаны як водгук на смерць дагестанскага паэта-ашуга Сулеймана Стальскага (1869—1937).

У БДАМЛіМ захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. Кісловодск 27/XI-37 г. (ф. 8, воп. 1, адз. зах. 4, л. 1—4).

Пад тэкстам адзнака: «Рукопись Я. Купалы получена мною для перевода, но перевода я не успел сделать. М. Исаковский, 1943 г.».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, на ўкраінскую — А. Навіцкі, на таджыкскую — М. Фархат.

*Песня* (с. 110)
(«Ой, рана, рана войска ўставала...»)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістап., з паметай: Кісловодск, 28.XI-1937 г.

Верш прысвечаны ўслаўленню подзвігаў Чырвонай Арміі ў гады грамадзянскай вайны.

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на армянскую — Н. Мікаэлян, на грузінскую — К. Бабахідзе, на румынскую — С. Дэлчу.

Верш стаў народнай песняй.

*Дзень Канстытуцыі* (с. 111)
(5 снежня)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1937, № 279, 5 снеж.; «Літ. і мастацтва», 1937, № 65, 5 снеж., пад загалоўкам «Пятае снежня», з паметай: Кісла-водск, 30.XI-⟨19⟩37 г.

Верш прысвечаны першай гадавіне зацвярджэння новай Канстытуцыі СССР. 5 снеж. 1936 г. Надзвычайны VIII Усесаюзны з'езд Саветаў зацвердзіў новую Канстытуцыю СССР і пастанавіў дзень яе прыняцця лічыць усенародным святам.

У Зборы твораў (1972—1976) верш змешчаны з купюрай: адсутнічаюць радкі 26—30. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Як адзначае В. Каваленка, такія вершы, як «Май», «Святочныя вершы», «Дзень Канстытуцыі», з'яўляюцца «ўзорамі сумна вядомай «каляндарнай» паэзіі ... Зразумела, што гэта была не віна, а бяда вялікага паэта: пад цяжарам ідэалагічнага прэса яго творчасць непазбежна губляла свае мастацкія якасці...» («Літ. і мастацтва», 1993, № 4, 22 студз.).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, П. Сямынін, на ўкраінскую — М. Бажан, на казахскую — Дж. Мулдагаліеў, на латышскую — М. Рудзіціс, на румынскую — С. Дэлчу.

*Выбары* (с. 112)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 66, 11 снеж., пад загалоўкам: «З малюнкаў на тэмы 12 снежня». Пад тэкстам: Кіславодск, 3.XII—1937 г.

Верш складаецца з дзвюх частак; першая пад назвай «Запыталіся ў Галінкі» была змешчана ў зб. «Для дзяцей», 1940.

Водгук на падрыхтоўку да першых, паводле Канстытуцыі 1936 г., выбараў у Вярхоўны Савет СССР, прызначаных на 12 снеж. 1937 г. Партыйны друк заклікаў пісьменнікаў актыўна ўдзельнічаць у ідэалагічным забеспячэнні выбараў. Гэтай жа тэме прысвечаны і артыкул Я. Купалы «Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад» (1937).

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

*Сонечнаму Шата Руставелі* (с. 114)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1937, № 69, 24 снеж., з паметай: Кіславодск, 17.XII-1937 г.

У ЭД, с. 570 адзначаецца, што ў Тбілісі ў Літаратурным музеі імя Г. Асанідзе захоўваецца аўтограф верша.

Верш напісаны з выпадку святкавання 750-годдзя паэмы Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрай: адсутнічалі 13—16 радкі. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — П. Жур, У. Раждзественскі, А. Суркоў, на ўкраінскую — А. Малышка, на башкірскую — Х. Карым, на грузінскую — Г. Хухашвілі, М. Патарыдзе, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — А. Жукаўскас, на таджыкскую — М. Фархат.

*Руставелі Шата* — грузінскі паэт XII ст., пачынальнік новай грузінскай літаратурнай мовы, аўтар сусветна вядомай паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры». 24—30 снеж. 1937 г. Я. Купала прымаў удзел у рабоце V пленума праўлення ССП СССР, які быў прысвечаны 750-годдзю гэтай паэмы.

## 1938

*Генацвале* (с. 115)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 6, 30 студз., з паметай: Грузія. Цхалтуба. Студзень 1938 г.

Верш прысвечаны ўрачу А. М. Метэхелі, якая лячыла Я. Купалу ў Цхалтуба.

У ДзЛМЯнК захоўваецца фотакопія белавога аўтографа з паметай: Янка Купала. Цхалтуба. 20.1.1938 г. (адз. зах. 8-д, л. 1—2).

У першадрукаваным тэксце радкі 21—24 адсутнічаюць, цалкам верш змешчаны ў зб. «Ад сэрца», 1940.

*Метэхелі Алена Міхайлаўна* — у 1932—1939 гг. урач 1-га санаторыя спецлечсанпрофа г. Цхалтуба, з 1935 г. галоўны ўрач гэтай установы. Першае знаёмства Метэхелі і Я. Купалы адбылося ў студз. 1938 г., калі ён знаходзіўся на лячэнні ў санаторыі. Перад ад'ездам з санаторыя паэт падарыў А. Метэхелі рукапіс верша «Генацвале» з паметай: «Цхалтуба. 20.1.1938 г.». Сустракаліся і ў лістап. 1938 г. у час паўторнага прыезду Я. Купалы ў санаторый. Як успамінае гру-

зінскі пісьменнік Шанідзе А. І., які наведваў Я. Купалу па яго запрашэнню, «Эліко Метэхелі была бландзінка, невысокага росту, з блакітнымі вачыма. На яе прыгожым твары была радзімка; нягледзячы на маладосць, яна была добрым спецыялістам» (Шанідзе А. Наша сяброўства. // Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1982. С. 255). Метэхелі зберагла і перадала ў ДзЛМЯнК у 1985 г. аўтограф верша «Генацвале», групавы фотаздымак, на якім яна з Я. Купалам і Новікавым-Прыбоем сярод супрацоўнікаў санаторыя, і фотаздымак Купалы і Новікава-Прыбоя з іх аўтографамі: «Незабываемой Елене Михайловне на память от благодарных пациентов. А. Новиков-Прибой. С большой любовью и сердечностью 17.1.1938. Янка Купала» (адз. зах. 66).

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Гусеў, К. Елісееў, на ўкраінскую — У. Сасюра, на армянскую — Н. Зар'ян, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Т. Джангулашвілі, С. Мхаргрдзелі, Р. Сіхарулідзе, Ш. Таганідзе, А. Шанідзе, С. Эулі, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — А. Хургінас, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — У. Мэй.

Паклаў на музыку Ю. Слонаў.

*Цхалі* (груз.) — вада.

*Мы людзі свабодныя* (с. 116)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 6, 30 студз., з паметай: Грузія, Цхалтуба. Студзень 1938 г.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Л. Гінзбург, на азербайджанскую — А. Кюрчайлы, Т. Эюбаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на туркменскую — А. Бердыеў, на нямецкую — І. Варкенцін.

Паклалі на музыку Р. Пукст, С. Трафімаў, А. Туранкоў.

*Грузія* (с. 116)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 7, 6 лют., з паметай: Грузія. Цхалтуба. Студзень 1938 г.

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся без 8 радкоў (29—36). Купюра носіць цэнзурны характар. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, на ўкраінскую — А. Малышка, на грузінскую — А. Асанідзе, В. Баядзе, М. Патарыдзе, А. Шанідзе, на таджыкскую — М. Фархат.

*Цмерэці, Кахэці, Картэлі* — назва правінцый у Грузіі.

*То не рыцары з князем...* (с. 118)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 8, 10 лют., пад назвай «То не рыцары казак...», з паметай: Грузія. Цхалтуба. Студзень 1938 г.

У Зборы твораў (1972—1976) верш надрукаваны з купюрай: адсутнічаюць радкі 33—40. Купюра носіць цэнзурны характар.

Верш пераклаў на рускую мову П. Сямынін.

*Чырвонай Арміі паходы* (с. 119)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, дзе апублікаваны з паметай: Кіславодск — Мінск. Люты 1938 г.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 10, 22 лют., пад агульным загалоўкам: «Вершы (Арміі Чырвонай і яе палкаводцу — нашаму дэпутату Кліму Варашылаву прысвячаю)». Наступныя шэсць раздзелаў твора друкаваліся пад асобнымі загалоўкамі як самастойныя вершы: «Ты паслухай, наш маршал...»; «Ой, гула завіруха...»; «Загудзе-

лі гулка трубы...»; «Як ішлі ў паходы...»; «Прагрымела слава...»; «Каваль быў луганскі...». Раздзелы аб'ядноўвае вытрыманы прынцып храналагічнага паэтычнага рэпартажу, дзе мінулае проціпастаўляецца сучаснасці.

У зб. «Ад сэрца», 1940 твор змешчаны пад загалоўкам «Чырвонай Арміі паходы». У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся без радкоў 141—144. Купюра зроблена па цэнзурных меркаваннях. У Збор твораў (1961—1963) верш не быў уключаны.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, М. Сідарэнка, У. Раждзественскі, на грузінскую — К. Бабахідзе.

Верш паклалі на музыку І. Любан, Я. Цікоцкі, А. Чыркун.

*Смерць забойцам А. М. Горкага* (с. 124)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 13, 6 сак.; «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 3, з паметай: Мінск. 28.II-1938 г.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Спаскі, на армянскую — М. Херанян.

*Памяці Максіма Горкага* (с. 125)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, дзе апублікаваны з паметай: Мінск. Сакавік 1938 г.

Упершыню — «Звязда», 1938, № 71, 28 сак. Адначасова верш быў апублікаваны на рускай мове ў перакладзе Е. Сокала ў газ. «Ленинградская правда», Л., 1938, № 71, 28 сак., пад назвай «Погиб Буревестник».

Верш напісаны ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння М. Горкага. Я. Купала праз усё жыццё пранёс павагу да М. Горкага. Цяжка перажываў яго смерць. У сваіх артыкулах і вершах Я. Купала падкрэсліваў вялікую ролю М. Горкага ў сваім жыцці і творчасці.

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) верш друкаваўся са скарачэннямі: адсутнічаюць радкі 17—20. Купюра носіць цэнзурны характар.

Верш пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, Дз. Леванеўскі, Е. Сокал, на ўкраінскую — Дз. Білавус, на армянскую — Н. Зар'ян, на грузінскую — Г. Гурашыдзе, на літоўскую — А. Хургінас, на таджыкскую — М. Фархат, на карэйскую — Лі Хё Ун, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

*Джамбулу* (с. 126)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Лит. газета», 1938, № 28, 20 мая, у перакладзе на рускую мову С. Гарадзецкага, пад назвай «Лети, моя песня!»; на беларускай мове — «Літ. і мастацтва», 1938, № 28, 22 мая, з паметай: Мінск. 14 мая 1938 г.

Верш напісаны з нагоды 75-годдзя творчай дзейнасці казахскага акына Джамбула Джабаева (1846—1945).

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся са значнымі купюрамі: адсутнічалі радкі 5—8 і 21—28. Купюры носяць цэнзурны характар. Крыніца першай публікацыі верша ў вышэйназваным Зборы твораў не пазначана. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, В. Цвялёў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на грузінскую — К. Бабахідзе, на казахскую — Б. Іскакаў, Б. Нурпеісаў, Г. Урманаў, на таджыкскую — М. Фархат, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

*Кандыдатам народа* (с. 128)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 31, 6 чэрв., пад загалоўкам «Нашым кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР — таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову». Пад тэкстам: Мінск. 25.V—1938 г.

У першадруку 23 радок меў іншую рэдакцыю: *Ды Ежоў, што дыверсантаў*. Акрамя гэтага, у зб. «Ад сэрца», 1940 адсутнічае 16 радкоў (пасля 76). У знятых радках ішла размова аб кандыдаце ў Вярхоўны Савет БССР М. І. Яжове. Былы нарком НКУС СССР М. І. Яжоў у пачатку красавіка 1939 г. быў арыштаваны, а 4 лютага 1940 г. — расстраляны.

Верш напісаны ў сувязі з набліжэннем выбараў у Вярхоўны Савет БССР (26 чэрв. 1938 г.). З гэтай жа нагоды напісаны вершы «На выбары выйшлі...», «А я думаў...».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — Е. Сокал, на ўкраінскую — Ф. Горын, на польскую — Ф. Каравацкі.

*Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч* (1890—1986) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1930—1941 гг. Старшыня СНК СССР, потым першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР. У 1939—1949, 1953—1957 гг. міністр замежных спраў СССР. У чэрв. 1957 г. пастановай Пленума ЦК КПСС за фракцыйную дзейнасць антыпартыйнай групы выведзены з Прэзідыума ЦК і са складу ЦК КПСС, а ў 1962 г. выключаны з КПСС.

*А я думаў...* (с. 130)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, з папраўкай у 7 радку паводле першадруку. 7 радок верша ў асноўным тэксце гучаў інакш: *Густа жабрацтва паслося па сёлах*. Варыянт радка ў першадруку: *Густа жабрацтва па сёлах паслося*. У зб. «Ад сэрца», 1940, відаць, атрымалася механічная перастаноўка слоў, якая ў наступным выданні, ужо пасмяротным Зборы твораў (1951—1954), была выпраўлена.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 34, 24 чэрв., з паметай: Мінск, 28.V-1938 г.

У Зборы твораў (1972—1976) друкаваўся без 25—28 радкоў. Купюра зроблена па цэнзурных меркаваннях. Крыніца першай публікацыі верша ў вышэйназваным Зборы твораў не пазначана. У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Васілёнак, В. Звягінцава, М. Камісарава, на армянскую — М. Херанян.

*Сатрап* — гл. заўвагу да верша «Вялікаму Кастрычніку», с. 227.

*Аднаасобніку* (с. 131)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам памета: Мінск. 29 мая 1938 г.

Радкі 37—40 былі надрукаваны толькі ў зб. «Ад сэрца», 1940. Ва ўсіх наступных публікацыях, уключаючы Зборы твораў (1951—1954; 1961—1963; 1972—1976), гэтыя радкі апушчаны.

Верш пераклаў на рускую мову А. Андрэеў.

*На выбары выйшлі...* (с. 133)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1938, № 146, 26 чэрв.; «Чырв. змена», 1938, № 146, 26 чэрв., з паметай: Мінск. 25.VI-⟨19⟩38 г.

Верш напісаны з нагоды выбараў у Вярхоўны Савет БССР, якія адбыліся 26 чэрв. 1938 г.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — П. Кабзарэўскі, на ўкраінскую — А. Шчарбак.

*Час быў тады...* (с. 133)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, дзе апублікаваны з паметай: Мінск. 5 ліпеня 1938 г.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 40, 23 ліп.

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрай: адсутнічалі 8 радкоў (29—36). У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Ірынін.

*Японскім самураям* (с. 135)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1938, № 183, 9 жн., з паметай: Гарадзішча, Аршанскі раён, жнівень 1938 г.

Верш напісаны ў сувязі з нападам на СССР летам 1938 г. японскіх войск у раёне возера Хасан.

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) радок 35-ты выпраўлены па першадруку: *Злыя варожыя роты.* Рэдкалегія лічыць унясенне праўкі беспадстаўным.

*Мікада* — гл. каментарый да верша «Настане такая часіна», с. 226.

*Памрока над Польшчай завісла...* (с. 136)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 44, 10 жн., з паметай: Гарадзішча. Жнівень 1938 г.

Пасля 16 радка ў тэксце першадруку верша маюцца радкі, якія пасля першай публікацыі былі зняты і больш не друкаваліся:

Пан Бек чалавечым беконам
На рынку берлінскім таргуе,
Прадаў бы германцу й карону,
Каб меў пад рукою такую.

Цякуць барышы за пакражу
З украдзеных келіхаў хрупкіх,
Пан Бек задаволен з прадажы,
Гер Гітлер даволен з пакупкі.

Верш пераклаў на рускую мову С. Гарадзецкі.

*Бельведэр* — гл. каментарый да верша «А ў Вісле плавае тапелец...», с. 224.

*Начніцы* (міфал.) — начныя духі; тут: прадстаўнікі рэакцыйных сіл, цемрашалы.

*Рэч Паспаліта* (з польск.— рэспубліка) — пасля Люблінскай уніі 1569 г. афіцыйная назва феадальнай федэратыўнай дзяржавы, у якую аб'ядналіся Польшча («Карона») і Вялікае княства Літоўскае («Княства», або «Літва»).

*Тры арліцы* (с. 137)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 56, 11 кастр.; «Звязда», 1938, № 236, 11 кастр.; «Чырвоная змена», 1938, № 235, 11 кастр.; усюды без падзагалоўка, з паметай: 10.X.⟨19⟩38 г.

Верш з'яўляецца водгукам на беспасадачны рэкордны пералёт лётчыц-гераінь В. Грызадубавай, П. Асіпенкі, М. Расковай па маршру-

це Масква — Далёкі Усход, які адбыўся 7 кастр. 1938 г. на самалёце «Родина».

Неўзабаве пасля таго як верш быў надрукаваны, Я. Купала ў лісце да М. В. Ісакоўскага ад 16 кастр. 1938 г. адзначаў: «Якое атрымалася цікавае супадзенне. У Вас «Три орлицы» і ў мяне «Тры арліцы». Нават аднолькавая колькасць строф. Дзеля цікавасці пасылаю Вам выразку з газ. «Звязда» ад 11.X.⟨19⟩38 г. Цікава, што і даты надрукавання супалі. Выходзіць, што ў мяне з Вамі адны думы, адны настроі» (Зб. тв. у 7 т. Т. 7. Мн., 1976. С. 502—503).

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) радкі 25—28 у вершы адсутнічаюць. Купюра носіць цэнзурны характар.

Верш пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, на армянскую — М. Хе占нян.

*Наша моладзь* (с. 138)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 60, 30 кастр., з паметай: Мінск. 29.X-1938 г.

Верш прысвечаны 20-годдзю Ленінскага камсамола.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — З. Ганчарук, С. Піліпчук, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Кваліяшвілі, на літоўскую — В. Бложа, П. Кейдошус, на туркменскую — М. Сеідаў, на ўзбекскую — Ю. Шамансур.

Паклалі на музыку Р. Пукст, А. Стаповіч, К. Хачатуран (кантата «Красуй і квітней, маладосць!»).

*Горы і мора можаш ты здолець, // Сэрцам расплавіць ільдзіны,* — у гэтых радках чуецца водгулле канкрэтных падзей — рэйда ледакола «Чэлюскін», палётаў экіпажаў В. П. Чкалава і М. М. Громава з Масквы праз Паўночны полюс у ЗША, беспасадачнага пералёту жаночага экіпажа з Масквы на Далёкі Усход.

*А мы сабе сеем і сеем...* (с. 139)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, з папраўкай у 13 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце 13 радок гучаў так: *Стаіць наш страж на граніцах.*

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 61, 7 лістап., з паметай: Мінск. 3.XI(19)38 г.; «Звязда», 1938, № 258, 7 лістап.

Верш прысвечаны XXI гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У першай публікацыі пасля першай страфы былі радкі, якія больш не друкаваліся:

Над Тэмзай, над Сенай, над Віслай,
Над чорным Берлінам, над Рымам
Крывавая хмара завісла,
Крывавым сланяецца дымам.

Мадрыд абступілі бандыты
З Берліна і Рыма, як спруты,
І путы куюць ненасытна,
Народу свабоднаму путы.

У Прагу разбойнікаў зграя
Залезла і грабіць там нівы,
З-пад Токіо зброд самураяў
Катуе Кітай нешчаслівы.

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) верш друкаваўся без 4 радкоў (77—80). Купюра носіць цэнзурны характар.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, В. Цвялёў, на ўкраінскую — У. Сасюра, на азербайджанскую — З. Джабарзадэ, на латышскую — А. Веян, Я. Гротс, на літоўскую — П. Кейдошус, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на татарскую — М. Садры, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на карэйскую — Сон Сок Рон, на нямецкую — Ф. Лешнітцэр, на румынскую — С. Дэлчу.

На аснове верша І. Любан стварыў песню.

## 1939

*Сэрца і думка мне кажа...* (с. 142)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 33, 10 лют., з паметай: Масква. Люты 1939 г.; «Чырвоная змена», 1939, № 29, 10 лют.

31 студз. 1939 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры Я. Купала ўзнагароджаны ордэнам Леніна. Верш напісаны як водгук на гэтую падзею.

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрамі: адсутнічаюць радкі 1—4; 17—20. Купюры зроблены па цэнзурных меркаваннях. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, А. Рэшатаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў.

*Памяці Эдуарда Самуйлёнка* (с. 143)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 36, 14 лют., з паметай: Мінск, 12 лютага 1939 г.

Верш напісаны з выпадку смерці Э. Самуйлёнка. 14 лютага ў дзень пахавання Я. Купала прачытаў верш над магілай Э. Самуйлёнка.

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на чувашскую — М. Яўстаф'еў.

*Самуйлёнак Эдуард Людвігавіч* (1907—1939) — беларускі пісьменнік. Асабістае знаёмства з паэтам адбылося ў 1934 г. у Мінску.

*Шляхі* (с. 143)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1939, № 13, 9 сак., з паметай: Мінск. 3.III-⟨19⟩39 г.

Верш прысвечаны XVIII з'езду ВКП(б), які адкрыўся 10 сак. 1939 г. у Маскве.

У пасмяротных Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) верш друкаваўся з купюрай: адсутнічаюць 36—40 радкі. Купюра носіць цэнзурны характар.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на азербайджанскую — А. Сарывелі, на літоўскую — А. Венцлава, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — У. Мэй, на нямецкую — Ф. Лешнітцэр.

*Дзень добры, Масква!..* (с. 145)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 136, 16 чэрв., з паметай: Гарадзішча. 9.VI-(19)39 г.

У Зборы твораў (1972—1976) 24 радок верша друкаваўся ў скарочаным выглядзе: *Дзень добры, крамлёўскія зоры...* Скарачэнне насіць цэнзурны характар. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — Дз. Білавус, Дз. Паўлычка, М. Стэльмах, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — Х. Дурдыеў, на ўзбекскую — Д. Джабараў, на венгерскую — Л. Конья, на румынскую — С. Дэлчу, В. Тэадарэску.

Паклалі на музыку А. Багатыроў, Г. Вагнер, А. Копасаў, А. Туранкоў, М. Чуркін, В. Яфімаў.

Ілюстрацыю да верша зрабіў І. Елісееў.

* * *

На гістарычную падзею ў жыцці беларускага народа — уз'яднанне ў адзінай Савецкай дзяржаве 17 верас. 1939 г.— Я. Купала адгукнуўся шэрагам вершаў. Першым паэтычным водгукам на гэтую падзею быў верш «Верасень месяц...». За ім на гэтую ж тэму ў верасні і кастрычніку з'явіліся ў друку яшчэ 12 вершаў, якія былі аб'яднаны рубрыкай «На заходнебеларускія матывы» ў апошнім прыжыццёвым зб. «Ад сэрца», 1940: «Ой, павей, вецер!..», «Ты мне песню спей, дзяўчына...», «Калыханка», «Накарміліся панскаю ласкай...», «Расшумеўся лес зялёны...», «Прамінулі дзянькі...», «З новай думкай», «Ты з Заходняй, я з Усходняй...», «Сонца свяціла нам аднолькова...», «Слава табе, Армія!..», «Засвяціла ясна зорка...», «Настаў чарод...». Верш «Еду сягоння ■ ў Вільню», напісаны таксама ў верасні 1939 г., не быў уключаны ў гэты зборнік. 13 чэрв. 1940 г. на нарадзе, праведзенай праўленнем ССП СССР па пытаннях беларускай літаратуры, цыкл вершаў Я. Купалы «На заходнебеларускія матывы» адзначаны як найбольш прыкметная з'ява ў беларускай паэзіі апошніх гадоў («Лит. газета», 1940, 20 чэрв.).

*Верасень месяц...* (с. 146)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 226, 30 верас., пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы», з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, В. Шэфнер, на ўкраінскую — В. Струцінскі, на літоўскую — Э. Матузявічус.

Паклаў на музыку А. Валынчык.

*Сонца свяціла нам аднолькова...* (с. 149)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 9, з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклаў на рускую мову У. Аўрушчанка.

*Ой, павей, вецер!..* (с. 149)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 229, 4 кастр., пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы» і паметай: Ерэван — Мінск. Верасень

1939 г. Разам з гэтым вершам былі надрукаваны наступныя вершы: «Накарміліся панскаю ласкай...», «Ты мне песню спей, дзяўчына...», «Калыханка», «Расшумеўся лес зялёны...».

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Аўрушчанка, А. Штэйнберг, В. Шэфнер.

*Ты мне песню спей, дзяўчына...* (с. 150)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 229, 4 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, А. Штэйнберг, на ўкраінскую — А. Малышка, Б. Чалы, на азербайджанскую — Э. Талет, на асецінскую — Ф. Гаглойці, А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Хухашвілі, на казахскую — Дж. Мулдагаліеў, на літоўскую — Э. Матузявічус.

*Калыханка* (с. 151)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 229, 4 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

14 кастр. 1940 г. Я. Купала разам з Я. Коласам прымае ўдзел у выязной сесіі АН БССР у Беластоку. У Беластоцкім педагагічным інстытуце Я. Купала прачытаў студэнтам вершы «Калыханка», «З новай думкай», «Наша моладзь» і інш. («Літ. і мастацтва», 1940, 26 кастр.).

У Зборы твораў (1972—1976) верш друкаваўся з купюрай: адсутнічаюць 21—24 радкі. Купюра носіць цэнзурны характар. У Збор твораў (1961—1963) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, Л. Палонская, на грузінскую — Іасамані, на латышскую — А. Веян, на таджыкскую — М. Фархат, на кітайскую — Чжу Цзі.

Па матывах верша М. Савіцкі напісаў жывапіснае палатно. Н. Сакалоўскі напісаў раманс «Калыханка», С. Картэс паводле верша і іншых твораў Купалы напісаў араторыю-паэму «Памяці паэта».

*Накарміліся панскаю ласкай...* (с. 152)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 229, 4 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

Пераклалі: на рускую мову — П. Кабзарэўскі, А. Штэйнберг, на ўкраінскую — А. Малышка, на літоўскую — Э. Межэлайціс.

*За слупамі з арламі...*— гл. каментарый да верша «Суд ідзе», с. 227.

*Расшумеўся лес зялёны...* (с. 153)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 229, 4 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

У Збор твораў (1961—1963) не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Аўшчонак, П. Кабзарэўскі, А. Куперштох, на таджыкскую — М. Фархат, на эстонскую — М. Вээтам, на балгарскую — Н. Вылчаў.

Паклаў на музыку А. Чыркун.

*З новай думкай* (с. 154)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, з папраўкай у 26 радку паводле першадруку. У асноўным тэксце: *З твайго лесу палкай.* Тут мы

маем справу з механічнай памылкай, якая была заўважана складальнікамі Збору твораў (1961—1963).

Упершыню — «Звязда», 1939, № 231, 6 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г. Разам з вершам «З новай думкай» пад агульнай рубрыкай «На заходнебеларускія матывы» ў газ. надрукаваны вершы «Еду сягоння я ў Вільню...», «Слава табе, Армія!..», «Сонца свяціла нам адналькова...», «Ты з Заходняй, я з Усходняй...», «Прамінулі дзянькі...».

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Берэндгоф, Д. Семяноўскі, А. Твардоўскі, на ўкраінскую — А. Малышка, на армянскую — М. Херанян, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — Э. Матузявічус, на таджыкскую — М. Фархат, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

*Слава табе, Армія!..* (с. 156)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 231, 6 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г. пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы». 6 кастр. верш быў надрукаваны на рускай мове ў перакладзе Р. Івановай у газ. «Правда», 1939, № 277.

Верш пераклалі: на рускую мову — Р. Іванова, Г. Сямёнаў, на карэйскую — Ф. Ісакоў.

Паклалі на музыку М. Чуркін, А. Чыркун.

*Еду сягоння я ў Вільню...* (с. 156)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1939, № 231, 6 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны. Змешчаны пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы», пад тэкстам памета: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

У апошні прыжыццёвы зб. вершаў «Ад сэрца», 1940 не ўключаўся.

Першая страфа верша («Мінск, Маладзечна, Вільня... // Як жа знаёмы шлях гэты! // Змерыў яго я калісьці, // Як шукаў шчасця па светах») выбіта на мемарыяльным знаку на шашы Мінск — Маладзечна — Вільнюс каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна ў гонар славутых людзей, прадстаўнікоў культур братніх народаў, якія прайшлі гэтым старадаўнім гасцінцам.

*Ты з Заходняй, я з Усходняй...* (с. 157)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 231, 6 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — У. Аўрушчанка, А. Купершток, У. Раждзественскі, А. Штэйнберг, на ўкраінскую — Е. Нарубіна, М. Палатай, на армянскую — М. Херанян, на асецінскую — Г. Дзугаеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — С. Нагінскас, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — Р. Аліеў.

Паклалі на музыку П. Падкавыраў, М. Чуркін.

*Прамінулі дзянькі...* (с. 158)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 231, 6 кастр., з паметай: Ерэван — Мінск. Верасень 1939 г.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклаў на рускую мову А. Штэйнберг.

*Настаў чарод...* (с. 159)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 247, 26 кастр., пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы», з паметай: Мінск. Кастрычнік 1939 г.

28—30 кастр. 1939 г. Я. Купала ўдзельнічаў у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР. 29 кастр. на ранішнім пасяджэнні сходу паэт прачытаў верш «Настаў чарод...», звернуты да народа Заходняй Беларусі.

Пераклаў на рускую мову А. Чывіліхін.

*Засвяціла ясна зорка...* (с. 160)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 247, 26 кастр., з паметай: Мінск. Кастрычнік 1939 г.

Верш з цыкла «На заходнебеларускія матывы».

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, А. Пракоф'еў, на таджыкскую — М. Фархат.

*Фінляндыі* (с. 162)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 283, 9 снеж., з паметай: Мінск, 6-XII⟨19⟩39 г.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Суомі* — фінская назва Фінляндыі.

*Калевала* — карэла-фінскі эпас, збор эпічных народных карэльскіх, іжорскіх і фінскіх песень (рунаў), складзены як адзінае апавяданне.

*Руны* — старадаўнія народныя песні ў карэлаў, фінаў і эстонцаў.

*Аб Сталіне-сейбіту* (с. 163)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940, дзе ўпершыню надрукаваны цалкам.

Пад тэкстам першага раздзела твора памета: Мінск. Кастрычнік 1937 г.; другога раздзела — Гарадзішча. 10 чэрвеня 1939 г.; трэцяга раздзела — Мінск. 18 снежня 1939 г.

Датуецца 1937—1939 гг.

Раздзелы верша пісаліся ў розныя часы і друкаваліся спачатку як асобныя вершы ў наступных выданнях: I. «Аб Сталіне-сейбіту песня мая» — «Літ. і мастацтва», 1937, № 58—59, 6—7 лістап.; «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 11; усюды з паметай: Мінск. Кастрычнік 1937 г. II. «Яркай зімою, шумлівым прадвеснем» — «Звязда», 1939, № 144, 26 чэрв., пад загалоўкам «Сталіну», з паметай: Гарадзішча. Чэрвень 1939 г. III. «Я Сталіну мудраму песню спяваю» — «Звязда», 1939, № 293, 21 снеж.; «Літ. і мастацтва», 1939, № 42, 21 снеж., з паметай: Мінск. 18.XII-⟨19⟩39 г.; усюды пад загалоўкам: «Сталіну мудраму».

I частка верша ўвайшла ў калектыўны твор «Радзіме і правадыру», які апублікаваны ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 6.

У ДзЛМЯнК захоўваецца аўтограф III раздзела твора пад назвай «Аб Сталіне родным», пад тэкстам памета: Янка Купала. Мінск, 18/XII-39 г. Октябрьская ул., 40. Тэкст аўтографа супадае з першадрукаваным тэкстам. Захоўваецца таксама машынапіс I часткі верша з паметай: Янка Купала. Менск; кастрычнік 1937 (адз. зах. 265, л. 1—2).

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) твор не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — І. Гурэвіч, Б. Ірынін, М. Ісакоўскі, К. Цітоў, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, на латышскую — М. Грынфельд, на нямецкую — А. Курэл, на англійскую — газ. «Москаў Ньюс», М., 1939, № 52, 25 снеж., перакладчык не названы.

*З імем шчаслівым тваім ў Хасане // Байцы самураеў тапілі...*— Маецца на ўвазе Хасанскі канфлікт 1938 г., баявыя дзеянні 29.7 — 11.8.1938 г. у раёне возера Хасан (Прыморскі край РСФСР), справакаваныя японскай ваеншчынай з мэтай разведаць умацаванні савецкіх пагранічных рубяжоў і баяздольнасць Чырвонай Арміі, стварыць базу для наступлення на Уладзівасток.

## 1941—1942

*Дзякую партыі Леніна — Сталіна* (с. 168)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1941, № 14, 5 крас.

Упершыню — «Правда», 1941, № 85, 27 сак. (на беларускай мове), з паметай: Тбілісі — Масква, 23—24 сакавіка 1941 г.

Пастановай СНК СССР ад 15 сак. 1941 г. за зб. «От сердца», 1941 (пераклад з беларускай мовы) Я. Купалу прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР I ступені. Верш напісаны з гэтай нагоды.

У першым пасляваенным Зборы твораў (1951—1954) месца першай публікацыі верша ўказваецца недакладна. У наступныя пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, В. Мілаванаў, на азербайджанскую — А. Сарывелі, на армянскую — П. Севак, на кіргізскую — Ц. Уметалієў, на балгарскую — А. Чыркоў, на венгерскую — Ш. Вёрэш, на румынскую — С. Дэлчу.

*Паклон мой народу за песні* (с. 168)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 101, 30 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам памета: 23—24.III.1941. Цхалтуба — Масква.

Пастановай СНК СССР ад 15 сак. 1941 г. за зб. «От сердца», 1941 (пераклад з беларускай мовы) Я. Купалу прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР I ступені. Свае пачуцці з гэтай нагоды паэт выказаў у вышэйназваным вершы. Гэтай жа тэме прысвечаны і артыкул «Пра вялікага Сталіна песня мая» (1941).

Верш пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Білавус, на азербайджанскую — Г. Бекжага, на армянскую — П. Севак, на асецінскую — А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметалієў, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — Э. Матузявічус, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — А. Абдуразак, Міртэмір, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на нямецкую — Э. Эстэррайхер, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

*З Першым маем* (с. 170)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 103, 1 мая, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам памета: Масква. 21.IV(19)41.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Паўстаў народ* (с. 172)

Друкуецца па газ. «За Савецкую Беларусь», 1941, 31 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 291) без подпісу і даты.

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

У Зборы твораў (1951—1954) і ЭД (с. 467) год напісання і месца першай публікацыі верша ўказваюцца недакладна.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, Б. Турганаў, на ўкраінскую — М. Зісман, С. Крыжаніўскі, на літоўскую — В. Бложа, на балгарскую — Н. Антонаў.

*Беларускім партызанам* (с. 172)

Друкуецца па газеце-плакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», М., 1942, № 33, лют., дзе апублікаваны пад загалоўкам «Беларускія сыны».

Упершыню — «Красная звезда», 1941, № 229, 28 вер., у перакладзе М. Галоднага; на беларускай мове — «За Савецкую Беларусь», 1941, 7 кастр. У 1942 г. у Казані быў надрукаваны ў выглядзе лістоўкі, з паметай: «Чырвоным партызанам ад працоўных Татарыі».

У ДзЛМЯнК захоўваюцца два аўтографы верша: белавы з паметай: Янка Купала. Масква. Чарнарэцкае лясніцтва. 19.IX⟨19⟩41 г. (адз. зах. 288, л. 1—2) і чарнавы, няпоўны, без подпісу і даты (адз. зах. 287, л. 1—2). Белавы аўтограф адрозніваецца ад чарнавога стылёва-лексічнымі праўкамі і парадкам строф.

Я. Купала цалкам прыводзіць верш у прамове, з якой выступіў на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа ў Казані 18 студз. 1942 г. Надрукавана прамова праз два дні ў газ. «Савецкая Беларусь» (20 студз., № 10) пад назвай «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!». Верш на рускай мове цалкам прыведзены ў артыкуле «О народной войне» (1941).

Верш «Беларускім партызанам» стаў гімнам народных мсціўцаў, быў апублікаваны на беларускай або ў перакладзе на рускую мову ў падпольных раённых і абласных газетах: «Народны мсцівец» (орган Акцябрскага РК КП(б)Б), 14 кастр. 1943; «Советский патриот» (орган Бягомльскага РК КП(б)Б і партызанскай брыгады «Жалязняк»), 25 кастр. 1943; «Белостокская правда» (орган Беластоцкага абкома КП(б)Б і аблвыканкома), 1 студз. 1944; «На разгром ворага» (орган Быценскага РК КП(б)Б), 1 студз. 1944; «Народный мститель» (орган партыйнай арганізацыі Смаленскага партызанскага палка), 1 студз. 1944; «Сцяг свабоды» (орган Мірскага РК КП(б)Б), 15 лют. 1944 і інш. Асобныя строфы з верша надрукаваны ў газ. «Чырвоны хлебароб» (орган Талачынскага РК КП(б)Б і партызанскай брыгады «Граза»), 15 сак. 1943; «Смерть фашизму» (орган Смалявіцкага РК КП(б)Б і партызанскай брыгады «Смерць фашызму»), 27 сак. 1943; «Бальшавіцкі сцяг» (орган Рудзенскага РК КП(б)Б), 27 чэрв. 1943.

Верш гучаў як кліч да беларускага народа, да партызан: «Партызаны, партызаны, // Беларускія сыны! // За няволю, за кайданы // Рэжце гітлерцаў паганых, // Каб не ўскрэслі век яны». Гэтымі словамі пачынала і канчала свае перадачы радыёстанцыя «Савецкая Беларусь» (з 1 студз. 1942 г. вяла перадачы з Масквы).

Беларускі музыказнавец-фальклярыст Л. С. Мухарынская адзначае, што «ўмовы барацьбы і побыту партызан спрыялі ўваходжанню ў іх рэпертуар песень многіх народаў. Вылучаецца група песень на паэтычныя тэксты Янкі Купалы, Пятра Глебкі, Максіма Танка і інш. Запісаная ў час экспедыцыі 1950 г. у мястэчку Сялец Брагінскага раёна песня «Партызаны, партызаны» некалькі адрозніваецца ад купалаўскага тэксту: «Партызаны, партызанкі, беларускія сыны! // Бейце ворагаў паганых, каб не ўскрэслі ўвек яны!» (Мухарынская Л. С., Якіменка Т. С. Беларуская народная музычная творчасць. Мн., 1993).

У чэрв. 1942 г., калі Купала прыехаў у Маскву, супрацоўнікі радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» дамовіліся з ім аб выступленні ў перадачы для насельніцтва часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Працуючы над сваім зваротам да беларускага народа, паэт дзяліўся сваімі думкамі, як будзе чытаць яго перад мікрафонам. Я. Купала збіраўся прачытаць вершы «Беларускім партызанам» і «Зноў будзем шчасце мець і волю». Але перадача не адбылася. 28 чэрв. 1942 г. Я. Купалы не стала (Юрэвіч У. Янка Купала на радыё // Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн., 1958. С. 118).

Верш апублікаваны пасмяротна ў зб. Я. Купалы «Беларускім партызанам», выд. газ. «Савецкая Беларусь», М., 1942.

Літаратуразнавец У. Казбярук у артыкуле «Развітальная песня паэта» адзначае, што «ў вершы М. Танка «Апошняя стрэча» згадваецца эпізод з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Аднойчы Міхась Лынькоў прапанаваў Танку і Панчанку перакласці на беларускую мову верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам», апублікаваны ў газеце «Правда» на рускай. І гэты пераклад, зроблены ў лесе на пянёчку, потым друкаваўся» («Літ. і мастацтва», 1995, 15 верас.). Пакуль што не знойдзены архіўныя матэрыялы, якія б пацвердзілі гэтыя звесткі, але гэтае пытанне патрабуе далейшага даследавання.

У Зборах твораў (1961—1963; 1972—1976) верш друкаваўся без 5 радкоў (51—55). Купюра носіць цэнзурны характар.

Пераклалі: на рускую мову — М. Берэндгоф, М. Галодны, Н. Кіслік, В. Уладзіміраў, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, М. Цярэшчанка, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — А. Бегашвілі, Т. Джангулашвілі, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — П. Кейдошус, С. Нагінскас, на ўзбекскую — Міртэмір, М. Шэйхзадэ, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — Н. Антонаў, Н. Вылчаў, на венгерскую — А. Гідаш, на іспанскую — К. Шэрман, на французскую — Ж. Гаш, на чэшскую — К. Беднарж.

Матывы і вобразы верша сустракаюцца ў вершах А. Вялюгіна «Стала песня славаю народа», У. Нядзведскага «Песня Купалы», у лірычным цыкле М. Лужаніна «Па дарогах Купалы» і інш.

На музыку паклалі А. Багатыроў, У. Мулявін, П. Падкавыраў, Р. Пукст, М. Чуркін. Ілюстраваў Я. Чарняцін.

*Грабежнік* (с. 174)

Друкуецца па белавым аўтографе, з паметай: Янка Купала. Масква. 19.IX(19)41 г. (ДзЛМЯнК, адз. зах. 290, л. 1).

Упершыню прыведзены ў прамове «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа 18 студз. 1942 г. у Казані. Прамова апублікавана ў газ. «Красная Татария», 1942, № 16, 20 студз.; газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 10, 20 студз.

У белавых аўтографах вершаў «Беларускім партызанам» і «Грабежнік» Я. Купала паставіў адну і тую ж дату напісання: 19.IX.⟨19⟩41 г. Але месца напісання вершаў пазначана рознае. У вершы «Беларускім партызанам» — Чарнарэцкае лясніцтва, а ў вершы «Грабежнік» — Масква. Можна думаць, што і верш «Грабежнік» паэт закончыў у Чарнарэцкім лясніцтве, але чарнавы аўтограф быў перабелены ўжо ў Маскве, куды ў сярэдзіне кастр. 1941 г. Я. Купала прыехаў з Чарнарэцкага лясніцтва. Па гэтай прычыне, на нашу думку, пад белавым аўтографам верша «Грабежнік» пазначана іншае месца напісання, чым у вершы «Беларускім партызанам».

У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама чарнавы аўтограф (адз. зах. 289, л. 1—2); накід асобных строф (адз. зах. 289, л. 3). Чарнавы аўтограф з шматлікімі праўкамі, якія, аднак, не выходзяць за межы лексічных і стылістычных змен.

Апублікаваны пасмяротна ў зб. Я. Купалы «Беларускім партызанам», выд. газ. «Савецкая Беларусь», М., 1942.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Ірынін.

*Хлопчык і лётчык на вайне* (с. 175)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 49, 27 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца чарнавы і перабелены аўтографы верша (адз. зах. 296, 295). У чарнавым аўтографе загаловак верша: «Яшчэ: Хлопчык і лётчык». Пад тэкстам аўтографаў памета: Янка Купала. Печышчы. 27.IV-⟨19⟩42 г.

З'яўляецца працягам верша «Хлопчык і лётчык» (1935; першыя два радкі амаль даслоўна паўтараюцца).

У пасмяротныя Зборы твораў (1961—1963; 1972—1976) верш не ўключаўся.

Пераклаў на румынскую мову М. Берэндгоф.

*Зноў будзем шчасце мець і волю* (с. 177)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 51, 4 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца два белавыя (адз. зах. 305, л. 1—2; адз. зах. 300, л. 1—2) і тры чарнавыя аўтографы (адз. зах. 301, л. 1; адз. зах. 302, л. 1; адз. зах. 303, л. 1; адз. зах. 304, л. 1). У адным з белавых аўтографаў першапачатковы загаловак «Лютуе Гітлер» закрэслены паэтам, а замест яго: «Зноў будзем (шчасце) долю мець і волю». Другі белавы аўтограф супадае з першадрукам. Пад тэкстам верша памета: Янка Купала. Печышчы (пад Казанню). 19.V.⟨19⟩42 г.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Зянкевіч, У. Раждзественскі, М. Фаламееў, на ўкраінскую — М. Зісман, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — У. Мэй, на венгерскую — Л. Кардаш.

*«На Гітлера-звера...»* (с. 178)

Друкуецца па аўтографе (ДзЛМЯнК, адз. зах. 306, л. 1—3).

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1944, № 1, пад загалоўкам «Ты будзеш шчаслівы».

На рускай мове апублікаваны ў газ. «Литература и искусство», М., 1944, № 9 (113), 23 лют. у перакладзе М. Ісакоўскага пад назвай: «Ты будешь, как прежде, счастливой» (посмертное стихотворение).

Улічваючы тое, што верш настроем і ідэйнай накіраванасцю пераклікаецца з лірычна-публіцыстычным вершам «Зноў будзем шчасце мець і волю» (1942), артыкуламі і выступленнямі паэта ў 1942 г., верш датуецца 1942 г.

Упершыню быў уключаны ў Збор твораў (1961—1963).

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на польскую — Я. Гушча.

*Дзевяць асінавых колляў* (с. 179)

Друкуецца па белавым аўтографе, дзе мае загаловак «Балада» (ДзЛМЯнК, адз. зах. 307, л. 1).

Упершыню — у літаратурным дадатку да газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 3 (чэрв.) урывак пад загалоўкам «Навала»; цалкам — «Полымя», 1946, № 6.

Твор не закончаны.

Датуецца 1941—1942 гг.

У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама і чарнавы аўтограф (адз. зах. 308, л. 1; адз. зах. 309, л. 1).

Твор быў упершыню ўключаны ў Збор твораў (1972—1976).

Пераклалі: на ўкраінскую мову — П. Тычына, на польскую — Т. Хрусцялеўскі.

## ПЕРАКЛАДЫ

*Запаведзь* (с. 183)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «Як умру, то поховайте...».

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Да перакладу ў газ. «Літ. і мастацтва» маецца заўвага Я. Купалы: «Запаведзь» напісана ў Пераяславе 25.XII.1854 г., калі паэт быў цяжка хворы на тыфус...»

У першым пасляваенным Зборы твораў (1951—1954) 22 радок быў надрукаваны ў некалькі іншым варыянце, чым у асноўным тэксце: *У сям'і новай, вольнай* замест *У сям'і вольнай, новай.* На нашу думку, у дадзеным выпадку наглядаецца друкарская памылка, так званая «памылка запамінання»: перастаноўка слоў або груп слоў пры наборы. У наступным Зборы твораў (1961—1963) памылка выпраўлена.

Пераклады твораў «Запаведзь», «З успамінаў пра дзяцінства», «Свет мой ясны! Свет спакойны!», «Думка» («Цяжка, цяжка жыць на свеце...»), «Думка» («Вецер буйны, вецер буйны!..») былі зроблены Я. Купалам у сувязі са святкаваннем 120-годдзя з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі.

У лісце ад 8 мая 1930 г. украінскаму паэту П. Тычыне Я. Купала раіўся наконт прапановы перакладаць на беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі, [redacted] перадумовы сваіх кантактаў з украінскай літаратурай абгрунтаваў яшчэ ў лісце да Л. Клейнбарта ад 11 студз. 1929 г.: «Украинскую литературу я люблю больше, может быть, чем какую-либо другую. Объясняется это, я думаю, одинаковым социальным [redacted] национальным положением белорусского и украинского народов в минулом и в настоящем. К тому же украинская литература, как никакая другая, сумела выразить [redacted] прошлом и настоящем думы и настроения своего народа. Из украинских поэтов больше всего, конечно, люблю Шевченко, из современных — Тычину» (Зб. тв., у 7 т. Т. 7. Мн., 1976. С. 435—436).

4—8 мая 1939 г. Я. Купала прымаў удзел у рабоце VI пленума праўлення ССП СССР у Кіеве, які быў прысвечаны памяці Т. Шаўчэнкі. 7 мая на магіле Т. Шаўчэнкі ў Каневе, дзе прадстаўнікі шаснаццаці рэспублік чыталі свае пераклады верша Т. Шаўчэнкі «Як умру, то поховайте...», Я. Купала таксама выступіў з чытаннем уласнага перакладу гэтага верша на беларускую мову (Я. Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы. Мн., 1952. С. 117).

*З успамінаў пра дзяцінства* (с. 184)

Пераклад з украінскай мовы ўрыўка з верша Т. Шаўчэнкі «Якби ви знали, паничі».

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Як адзначаецца ў ЭД (с. 233) Я. Купала пераклаў толькі тую частку верша, якая, відаць, прыцягнула ўвагу беларускага паэта ўспамінамі Т. Шаўчэнкі аб сваім невясёлым дзяцінстве, якое нагадвала яму ўласнае дзяцінства: вандраванні з месца на месца ў пошуках арандаванай зямлі, смерць бацькі, сясцёр і брата. Асабліва ўражвае вельмі дакладна перададзены поўны болю зварот да сясцёр: *А сёстры... Сёстры... Гора вам, // Мае галубкі маладыя.*

*«Свет мой ясны! Свет спакойны!..»* (с. 185)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «***Світе ясний! Світе тихий!».

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Упершыню верш быў уключаны ў Збор твораў (1961—1963).

У газ. «Літ. і мастацтва» Я. Купала дае наступны каментарый да асобных слоў і выразаў:

*Ў сваёй добрай цёплай хаце* — у цэрквах.

*Багравіца* — бліскучая барвовая матэрыя.

*«Явленними»* — «цудатворнымі» абразамі.

*Думка* (с. 185)

(«Цяжка, цяжка жыць на свеце...»)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «Думка» («Тяжко-важко в світи жити...»).

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак.

Датуецца годам апублікавання.

Зборнік Т. Шаўчэнкі «Кабзар» на беларускай мове выйшаў з друку ў сак. 1939 г. пад рэдакцыяй Я. Купалы і Я. Коласа. У зборнік было ўключана 19 перакладаў Я. Купалы.

*Думка* (с. 186)

(«Вецер буйны, вецер буйны!..»)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «Думка» («Вітре буйний, вітре буйний!..»).

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1934, № 14, 16 сак.

Датуецца годам апублікавання.

Параўнальны аналіз першай публікацыі перакладу і перакладу, апублікаванага ў зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, паказвае, што дапрацоўка вялася ў кірунку набліжэння да арыгінала, перакладзены 14—16 радкі, якія адсутнічалі ў першадрукаваным тэксце.

*Майстры зямлі* (с. 188)

Пераклад з рускай мовы аднайменнага верша М. Ісакоўскага.

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 61, 19 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Вольны найміт* (с. 189)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «Wolny najmita».

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 8, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Пераклад зроблены да 25-годдзя з дня смерці польскай пісьменніцы М. Канапніцкай (1842—1910).

У першым пасляваенным Зборы твораў паэта (1951—1954) прайшла памылка ў пятым радку верша. У першадруку было: *Год той быў цяжкі: улевай тапіла.* Наборшчыку хутчэй за ўсё быў незразумелы сэнс слова польскага паходжання «улева» (польск. ulewa) — лівень, праліўны дождж. Ён набраў яго па асацыяцыі з вядомымі словамі «направа» або «налева». У тым жа выданні ў 13 радку ўзнікла яшчэ адна памылка як вынік пераасэнсавання аўтарскага тэксту. *Каплі расы з зялёных бярозаў* замест аўтарскай рэдакцыі гэтага радка: *Капалі росы з зялёных бярозаў.* У наступным Зборы твораў паэта (1961—1963) памылкі былі выпраўлены.

*На вечную памяць Катлярэўскаму* (с. 191)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі, які вялікі кабзар напісаў пад уражаннем весткі пра смерць У. П. Катлярэўскага (1769—1838), аўтара «Энеіды» — першага друкаванага твора новай украінскай літаратуры, п'ес «Наталка-Палтаўка», «Маскаль-чараўнік» і інш.

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 70, 23 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

*Троя* (Іліон) — старажытны горад на паўночным захадзе Малой Азіі. З старажытнага грэчаскага эпасу вядома аб Траянскай вайне — вайне паміж грэкамі і Трояй. Гэты сюжэт быў выкарыстаны Гамерам у эпічнай паэме «Іліяда».

*Эней* — у антычнай міфалогіі сын Афрадыты і Анхіса, адзін з абаронцаў Троі, легендарны роданачальнік рымлян. Міф аб Энеі паслужыў сюжэтам для многіх твораў рымскіх паэтаў і гісторыкаў. Самы вядомы з такіх твораў — «Энеіда» Вергілія.

*«Вецер з гаем размаўляе...»* (с. 194)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «Вітер з гаем розмовляє...».

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939.

Упершыню — «Літ. і мастацтва», 1938, № 70, 23 снеж., пад загалоўкам «Човен».

Датуецца годам апублікавання.

У арыгінале верш друкуецца без загалоўка. Пад загалоўкам «Човен» быў апублікаваны ў часоп. «Вестник Европы», 1909, т. III, кн. V.

*Думка* (с. 195)
(«Цячэ вада ў сіне мора...»)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «***Тече вода в сине море...».

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г.

Паколькі зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар» быў здадзены ў друк 20 снеж. 1938 г., можна меркаваць, што ўсе пераклады, якія ўпершыню былі надрукаваны ў гэтым зборніку, былі зроблены не пазней 1938 г.

*«Ой вы, думы, мае думы...»* (с. 195)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «***Думи мої,

думи мої...», які з'яўляецца своеасаблівым уступам да першага выдання «Кабзара» (1840).

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г. (Гл. каментарый на с. 266.)

*Бунчук* — дрэўка з шарам і конскім хвастом наверсе як знак улады ўкраінскіх і польскіх гетманаў, казацкіх атаманаў, турэцкіх пашэй.

*Перабендзя* (с. 198)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г. (Гл. каментарый на с. 266.)

Я. Купала лічыў гэты верш адным з лепшых твораў Т. Шаўчэнкі.

*Перабендзя* ў перакладзе на беларускую мову — дзівак чалавек; у творы Т. Шаўчэнкі — пясняр, кабзар.

*Чалы Сава* — персанаж з народнай песні, у якой спяваецца аб тым, як Чалы здрадзіў гайдамакам і быў за гэта імі пакараны.

*Да Аснавяненкі* (с. 201)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г. (Гл. каментарыі на с. 266.)

*Квітка-Аснавяненка Рыгор Фёдаравіч* (1778—1843) — украінскі пісьменнік, пачынальнік новай украінскай прозы. Пісаў на рускай і ўкраінскай мовах. Вёў перапіску з Т. Шаўчэнкам, цёпла сустрэў выхад у свет «Кабзара» і «Гайдамакаў».

Верш Т. Шаўчэнкі «Да Аснавяненкі» не традыцыйнае пасланне, а своеасаблівы водгук на нарыс Р. Квіткі-Аснавяненкі «Галаваты» (1839).

*Іван Падкова* (с. 204)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г. (Гл. каментарый на с. 266.)

*Падкова Іван* — казак, узначальваў ваенныя паходы запарожскіх казакаў у другой палове XVI ст.

*Штэрнберг Васіль Іванавіч* (1818—1845) — мастак, блізкі сябра Т. Шаўчэнкі.

*Кітайка* — чырвоная матэрыя, якой, паводле звычаю, казакі пакрывалі сваіх таварышаў, што загінулі ў бітвах.

*Байдак* — барка, човен.

*Сінопа* (Сіноп) — турэцкі горад на ўзбярэжжы Чорнага мора.

*Цараград* — стараруская назва Канстанцінопаля (г. Стамбул).

*На незабудзь* (с. 206)

Пераклад з украінскай мовы верша Т. Шаўчэнкі «На незабудзь Штернбергові».

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 г. (Гл. каментарый на с. 266.)

Гэтую лірычную мініяцюру Т. Шаўчэнка напісаў на экземпляры

зб. «Кабзар» (1840) і падараваў свайму блізкаму сябру мастаку В. І. Штэрнбергу (1818—1845).

*М. Маркевічу* (с. 206)

Пераклад з украінскай мовы аднайменнага верша Т. Шаўчэнкі, прысвечанага ўкраінскаму гісторыку, этнографу і паэту М. М. Маркевічу (1804—1860).

Друкуецца па зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939.

Упершыню — «Звязда», 1939, № 22, 28 студз.

Датуецца 1938 г., паколькі зб. Т. Шаўчэнкі «Кабзар», 1939 на беларускай мове быў здадзены ў друк 20 снеж. 1938 г.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ЗМЕСТ*



### ВЕРШЫ

#### 1930



#### 1931



#### 1932



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## 1936



## 1937



## 1938

**1939**

## 1941—1942



## ПЕРАКЛАДЫ

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 5. Вершы, пераклады 1930—1942.— Мн.: Маст. літ., 1998.— 278 с. [4] л. іл.

ISBN 985-02-0421-4 (т. 5).

Пяты том Збору твораў складаюць вершы, напісаныя ў 1930—1942 гг., а таксама пераклады.

**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4Беи)6**



Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*

**Том 5**

*Вершы. Пераклады 1930—1942*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкія рэдактары *А. І. Дрозд, М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктары *Л. А. Дзядзюля, Я. А. Бебель*

Здадзена ў набор 20.05.98. Падп. да друку 13.08.98. Фармат 84×108[1]/[32]. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,70+ +0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 14,61. Тыраж 6000 экз. Зак. 746.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.